

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

9 ЖНІЎНЯ 2002г. № 31/4165 КОШТ 310 РУБ.







# Мінскія мініяцюры

У Мінску мноства шматпавярховых гмахаў. Некаторыя з іх вылучаюцца адметнай архітэктурай. Дом урада, ансамбль Прывакзальнай плошчы, Палац Рэспублікі. Менавіта яны звычайна трапляюць на паштоўкі, у тэлевізійныя застаўкі, у рэкламныя буклеты. Іх можна параўнаць з загалоўнымі літарамі летапісу. У дадзеным выпадку "каменнага летапісу". Але тэкст горада можа стаць няўцямным, калі з яго выпадае нейкая, на першы погляд, не надта важнае слова, губляецца коска альбо кропка. Гаворка ідзе пра так званыя архітэктурныя мініяцюры — невялікія будынкі самага рознага прызначэння, якія надаюць гораду "чалавечы маштаб", робяць яго утульным. Каб ацаніць эстэтычныя якасці якога-небудзь гмаха, трэба задзіраць галаву, а будынак "вакзала" Дзіцячай чыгункі на праспекце Скарыны непадалёк ад вуліцы Макаёнка ці Дом мастацтва на Кастрычніцкай плошчы — перад вачыма, як на далоні.

Большасць такіх будынкаў — гэта аскепкі старога Мінска, якія выпадкова захаваліся пасля войнаў, рэканструкцый і перабудоў. Часам у мініяцюру ператвараецца немалы будынак, калі вакол яго змянілася горадабудаўнічая сітуацыя. Так вонкава зменшыўся, змізарнеў будынак білетных кас на фоне новага вакзала. Між тым побач са старым вакзалам ён глядзеўся даволі салідна.

Хто ведае, можа калі-небудзь Мінск стане "Манхэтанам на Нямізе", і тады увесь сённяшні праспект Скарыны з прылеглымі вуліцамі ператворыцца ў самую вялікую ў свеце архітэктурную мініяцюру.

**П. В.**







*Фота К. ДРОБАВА*



# КОЛА ДЗЁН

## ПРЫЗНАЧЭННЕ ТЫДНЯ

Прэзідэнт Расійскай Федэрацыі Уладзімір Пуцін сваім указам прызначыў Аляксандра Блахіна новым расійскім пaслом у Беларусі. Раней А. Блахін працаваў кіраўніком Міністэрства па справах федэрацыі. Нарадзіўся ён у горадзе Іванава ў 1951 годзе. Скончыў Іванаўскі энергетычны інстытут. У 1990 годзе быў выбраны народным дэпутатам РФ, працаваў саветнікам міністра замежных спраў Расіі, дырэктарам дэпартамента гэтага ж міністэрства, паслом па асобых даручэннях. Апошняя дыпламатычная пасада Аляксандра Блахіна — пасол Расіі ў Азербайджане, дзе ён прабыў пяць гадоў.

## ЗАВЯРШЭННЕ ТЫДНЯ

Нарэшце скончылася рэканструкцыя пункта "Каменны Лог" на беларуска-літоўскай мяжы. Цяперашняя прапускная здольнасць пункта ў абодва накірункі за суткі складае 2060 аўтамабіляў, у тым ліку 1000 легкавікоў, 1000 грузавікоў і 60 аўтобусаў. Словам, хто збіраўся ў Літву, то сёння ўжо можна не баяцца вялікай чаргі, каб трапіць у замежжа...

## ПАМЯЦЬ ТЫДНЯ

Кіраўніцтвам нашай краіны прынята рашэнне аб выдзяленні сродкаў на выраб і ўстаноўку ў Санкт-Пецярбургу памятнай пліты, прысвечанай беларусам, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны ў бітвах за Ленінград. Пры абароне неўскай цвярдыні паклалі жыццё больш як пяць тысяч воінаў з Беларусі.

## ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь зацверджаны бюджэт пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва і па асноўных сацыяльнадэмаграфічных групах у цэнах чэрвеня 2002 года ў разліку на месяц. У сярэднім на душу насельніцтва — 80 717 рублёў, для працаздольнага насельніцтва — 86180 рублёў, для пенсіянераў — 67913 рублёў, для студэнтаў — 84020 рублёў, для дзяцей ва ўзросце ад 3 да 16 гадоў — 93408 рублёў, для дзяцей ва ўзросце да 3 гадоў — 69978 рублёў.

## РОСТ ТЫДНЯ

З 1 жніўня ў нашай краіне павышаны цэны на нафтапрадукты. Кошт бензіну ўсіх марак, дызельнага і пячнога паліва, мазутаў, растваральнікаў і бітумаў узрос на 10 працэнтаў. У рознічным гандлі бензін АІ-76 каштуе 665 рублёў, АІ-92 — 830 рублёў, АІ-95 — 950 рублёў, дызельнае паліва — 640 рублёў за літр.

## ТАРЫФЫ ТЫДНЯ

Згодна з пастановай Міністэрства транспарту і камінукацый, у нашай краіне зацверджаны новыя тарыфы на праезд пасажыраў у аўтобусах рэгулярных маршрутаў прыгарадных зносінаў. Цяпер за адзін кіламетр праезду ў аўтобусах агульнага тыпу трэба будзе плаціць 24 рублі, у аўтобусах з мяккімі адкіднымі сядзеннямі — 25,5 рублёў. На хуткасных маршрутах: у аўтобусах агульнага тыпу — 31,2 рублі, у машынах з мяккімі сядзеннямі — 33,2 рублі. Апошні раз тарыфы на праезд пасажыраў у аўтобусах прыгарадных зносінаў павялічваліся ў сярэдзіне сакавіка гэтага года.

## БЯДА ТЫДНЯ

Лета не толькі пара прыемных вандровак па лясах, палях, рэках і азёрах нашай краіны, але, як і заўсёды, у гэты час узрастае колькасць няшчасных здарэнняў. Толькі за два летнія месяцы на вадасховішчах Беларусі пацярпелі бедства 1705 чалавек. У 1281 выпадку людзі былі выратаваны. На жаль, не ўдалося гэтага зрабіць з 424 чалавекамі, у тым ліку з 59 дзецьмі. Да ўсяго, з пачатку года патанулі 693 чалавекі. І гэтая бяда не толькі мінулых тыдняў, а яна і сённяшняя. Таму яшчэ раз хочацца напомніць усім: "Будзьце асцярожнымі на вадзе!"

## МАРКІ ТЫДНЯ

"Белпошта" выпусціла новую серыю марак з адлюстраваннем птушак Беларусі і эмблем прыродаахоўных арганізацый. На марках квартблока адлюстраваны птушкі, якія былі вызначаны птушкамі года ў 2000, 2001 і 2002 гадах, а на купоне паказана вяртлявая чаротаўка — сімвал грамадскай арганізацыі "Ахова птушак Беларусі". Аўтар малюнкаў — мастак Рыгор Долбік — сын вядомага беларускага арнітолага.

## СУПАКАЕННЕ ТЫДНЯ

Астраномы NASA зрабілі канчатковы вывад, што 1 лютага 2019 года астэроід, які мае дыяметр два кіламетры, не сутыкнецца з Зямлёй, як пра гэта нядаўна паведамлялася ў сусветных СМІ. Такое заключэнне было зроблена па выніках назіранняў, праведзеных на працягу апошніх некалькіх тыдняў. Аднак спецыялісты, супакойваючы нас на 2019 год, гавораць пра тое, што не выключаюць магчымасці сутыкнення Зямлі з гэтым астэроідам у больш аддаленай будучыні.

## ПРАПАНОВА ТЫДНЯ

Намер Літвы і Польшчы ўвесці пасля ўступлення ў ЕС візавыя рэжымы для грамадзян Калінінградскай вобласці надаў своеасаблівы напрамак думкам некаторых літоўскіх вучоных. Так прафесар літоўскай ваеннай акадэміі Альгімантас Амбразявічус прапанаваў пракласці 70-кіламетровы тунель пад тэрыторыяй Польшчы, які злучыў бы Калінінград з Беларуссю. Прафесар нават паслаў пісьмо ў Маскву і спадзяецца, што яго ідэя зацікавіць кіраўніцтва Расіі...

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

6 жніўня 2002 года адбылося пасяджэнне аргкамітэта па падрыхтоўцы і правядзенні XIV з"езда Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Старшынёй аргкамітэта абраны сябра Рады СБП, член-карэспандэнт НАН Беларусі, дырэктар Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы, пісьменнік Уладзімір Васільевіч Гніламёдаў. Выбар старшыні аргкамітэта быў матываваны тым, што ў дадзены час, калі кіраўніцтвам Саюза беларускіх пісьменнікаў не выконваюцца статутныя функцыі, клопат і адказнасць за стан і развіццё літаратуры ў нашай краіне павінен узяць на сябе галіновы інстытут — адзін з адказных удзельнікаў сучаснага літаратурнага працэсу. Намеснікамі старшыні аргкамітэта абраны паэт Мікола Мятліцкі і празаік Віктар Праўдзін.

"Праца дзеля беларускай літаратуры і літаратурнай будучыні — галоўны наш клопат, клопат, які павінен аб"яднаць усіх беларускіх пісьменнікаў", — адзначыў ва ўступным слове У. Гніламёдаў, і гэта было адзінагалосна падтрымана сябрамі аргкамітэта.

Каб вырашыць усе арганізацыйныя пытанні і рэанімяраваць працу творчага саюза, аргкамітэт адзінагалосна вырашыў звярнуцца да пісьменнікаў:

1. Правесці **чарговы** XIV з"езд СПБ і ў першы дзень працы, адпаведна Статуту, заслухаць справаздачу старшыні СБП і старшыні рэвізійнай камісіі за перыяд паміж з"ездамі.

2. Правесці выбары новага кіраўніцтва пісьменніцкай арганізацыі.

3. На другі дзень працы XIV з"езда разгледзець пытанне "Аб стане літаратуры і літаратурных выданняў", якое вызначана на Радзе ад 19 сакавіка 2002 года.

З прапановамі выступілі У. Гніламёдаў, В.Коўтун, А.Бадак, М.Мятліцкі, Р.Баравікова, І.Чарота, В.Праўдзін, А.Сульянаў, У.Мачульскі і іншыя.

Аргкамітэтам па падрыхтоўцы і правядзенні XIV з"езда СБП было даручана кіраўніцтву штотыднёвіка "ЛіМ" асвятляць ход падрыхтоўкі з"езда.

Дата і месца правядзення XIV з"езда СБП будзе разгледжана на чарговым пасяджэнні аргкамітэта.

**Аргкамітэт**

***"ЛіМ" працягвае анкетаванне пісьменнікаў. Нагадваем пытанні:***

***1. Ці задавальняе вас стан спраў у Саюзе беларускіх пісьменнікаў?***

***2. Як нармалізаваць работу творчай арганізацыі?***

**Алесь БАДАК, паэт:**

1. Не.

2. Саюзу пісьменнікаў як дзейснай арганізацыі неабходна амаладжэнне (хоць сёння ўсё яшчэ "у маладых" ходзяць і саракагадовыя) — як мага большай актывізацыі тых, хто мысліць па-новаму, па-сучаснаму, "практыкаў", не абцяжараных званнямі і ўзнагародамі, а таму не дужа амбітных, якія разлічваюць у першую чаргу на сябе, а не на некага і якія пра заўтрашні дзень нашай літаратуры думаюць гэтак жа часта, як і пра сённяшні, бо свой далейшы ўдзел у літаратурным працэсе вымяраюць дзесяцігоддзямі.

**Ніна ГАЛІНОЎСКАЯ, паэт:**

1. На плячах старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольгі Іпатавай ляжыць цяжкі груз, які яна нясе другі год. Колькі зроблена добрых спраў, колькі ўзнята разнастайных пытанняў, праведзена карысных для арганізацыі сустрэч і выступленняў! — на асобны артыкул...

Сітуацыя вакол Дома літаратара і саюза вельмі складаная: не зацверджаны бюджэт, нявыплата супрацоўнікам амаль за год зарплаты, звальненне многіх з іх па гэтай прычыне, няпростыя адносіны з уладай...

Намеснікі В. Іпатавай даўно пакінулі "карабель", які цярпіць бедства, пакінулі старшыню самнасам з безліччу нявырашаных праблем і пытанняў. Кожны дзень падкідвае іх усё больш і больш.

2. Каб нармалізаваць работу СБП, на мой погляд, трэба радзе абраць дзелавых намеснікаў старшыні, якія не павярхоўна, а ўсебакова ўнікнуць у справы і праблемы творчай арганізацыі і без амбіцый, самааддана будуць шукаць шляхі, каб вывесці "карабель" з мелі.

З'езд СБП абвострыць і ўскладніць сітуацыю вакол Дома літаратара і саюза, унясе раскол у рады пісьменнікаў.

**Алег САЛТУК, паэт:**

1. Не. І перш за ўсё таму, што да кіраўніцтва Саюзам беларускіх пісьменнікаў прыйшоў чалавек, які дзейнічае па прынцыпу: "Саюз — гэта я!" Ды і не кіравала В. Іпатава нашай творчай арганізацыяй, а займалася прапагандай самой сябе. Абласныя арганізацыі СБП трымаюцца на голым, я сказаў бы — горкім энтузіязме іх старшынь. Больш таго, Віцебскае абласное аддзяленне з маўклівай згоды сённяшняга кіраўніцтва саюза распалася як бы на дзве арганізацыі: гарадскую віцебскую з яе старшынёй і Полацка-глыбоцкую філію з яго намеснікам, які жыве ў Глыбокім.

2. Адклад з правядзеннем нечарговага нашага з'езда будзе недаравальным нікому, хто гэтым займаецца. На з'ездзе, адназначна, павінен быць абраны новы старшыня, яго намеснікі, абноўлена Рада, прыёмная і рэвізійная камісіі, кіраўніцтва "Беллітфондам". Новаму кіраўніцтву патрэбна неадкладна дабіцца сустрэчы з Прэзідэнтам, каб вырашыць раз і назаўсёды, на якім небе мы жывём, чаго канкрэтнага, а не аморфнага, накшталт "беларушчыны", мы хочам, бо што б там не казалі, а кіраўніка нашай краіны выбраў народ, неад'емнай часткай якога з'яўляемся мы самі.

**Казімір КАМЕЙША, паэт:**

1. Натуральна, стан спраў у СБП мяне не задавальняе, бо спраў тых зусім не бачна. Творчае жыццё нібыта прыпынілася. Ды так яно і ёсць. Нічога не вырашаюць ні Рада, ні сакратарыят. А праблем вунь як многа паспела. Хто ж за нас іх будзе вырашаць?

2. Усё спадзяванне на з'езд, які трэба праводзіць неадкладна. З'езд павінен быць чарговым, на ім абявязкова мусіць быць справаздача сённяшняга кіраўніцтва, павінна вырашацца і арганізацыйнае пытанне. З'езд павінен узначаліць чалавек, які б змог згуртаваць усе творчыя сілы, вярнуць пісьменніцкай арганізацыі былы яе аўтарытэт.

# Яшчэ раз пра Купалу...

***120 гадоў прайшло з дня нараджэння Купалы, але і сёння ёсць людзі—непасрэдныя або ўскосныя сведкі яго трагічнага лёсу. Адзін з іх—вядомы беларускі мастак Уладзімір Стальмашонак. Бацька мастака быў адным з тых урачоў, якія ратавалі жыццё паэта пасля спробы самагубства ў 1930 годзе. Узгадвае Уладзімір Стальмашонак:***

— Аднойчы ў 1-ую клінічную бальніцу, дзе працаваў мой бацька, прывезлі цяжка параненага Купалу. Зрабілі тэрміновую аперацыю. З усіх урачоў узялі падпіску, што пра гэты выпадак са сваёй практыкі нікому нічога не раскажуць. Бацька ж паведаміў пра гэты эпізод свайму брату Сямёну. Расказваў, што Купала ляжаў на першым паверсе, на вокнах былі краты, а каля дзвярэй стаялі вартавыя. У палату нікога не пускалі, акрамя медыкаў і жонкі. Аднойчы, праўда, пусцілі Ігнатоўскага, першага прэзідэнта Акадэміі навук.

Калі Купала папраўіўся, ён яшчэ месяцы два заставаўся ў бальніцы. Бацька ўзгадваў, як аднойчы да паэта прыйшлі людзі ў ваеннай форме. Перад тым, як зайсці ў палату, ім далі белыя халаты. Тым не менш, калі Купала іх убачыў, ён нацягнуў коўдру да самых вачэй. Людзі ж паведамілі, што ён свабодны і перадалі падарунак ад кіраўніцтва: каньяк, цыгарэты і цукеркі. Калі яны пайшлі, Купала ўвесь накрыўся коўдрай і калаціўся...

Пасля Купалу адпусцілі дадому, але ён яшчэ нейкі час падлягаў медыцынскаму даследаванню. Бацька хадзіў да яго дадому і часта браў з сабой мяне. Мне было тады гады 3-4. У хаце дзяцей не было, таму ўвагі мне там удзялялі даволі шмат. Потым у 1957 годзе, калі я вярнуўся з вучобы ў Акадэміі мастацтваў у Ленінградзе, да мяне ў майстэрню прыйшла жанчына, Купалава жонка. "Я ж цябе гушкала", — з такімі словамі звярнулася яна да мяне. Так здарылася гэта сустрэча пасля стольких гадоў...

**— Ці паўздзейнічаў гэты эпізод на Вашу творчасць?**

— Безумоўна, на многіх маіх манументальных творах прысутнічае Янка Купала. Напрыклад, вялікі вітраж "Песні зямлі беларускай" у тэатры моды, што на Юбілейнай плошчы. У цэнтры — Купала і Колас. На першым крыштальным вітражы, што знаходзіцца ў музеі Купалы, таксама выява паэта. На жывапісным палатне "Слова пра Беларусь"прысутнічае 16 партрэтаў славутых людзей Беларусі. Сярод іх — Купала і Колас. Дарэчы, гэта — першае палатно з выявай Еўфрасінні Полацкай. За гэту работу я атрымаў удзячнасць цяжкі і папрок ад дзяржавы. У Беларускім фондзе культуры, што знаходзіцца ў Траецкім прадмесці, таксама ёсць групавы партрэт Коласа, Купалы, Еўфрасінні, Мсціслаўца, Скарыны. У мінулым годзе я падараваў вялікую карціну (2х2м) музею гісторыі, але захоўваецца яна ў музеі Вялікай Айчыннай вайны. На карціне — выявы 50 славутых людзей мінулага і сучаснасці. У цэнтры — Купала, па баках — Скарына, Полацкі. Сярод сучаснікаў — Станюта, Ігнатоўскі, Аладава, стваральніца Нацыянальнага мастацкага музея. Кожны з іх трымае свой адметны знак, які яго характарызуе. З нядаўніх работ трэба назваць пагрудны партрэт Купалы, які я зрабіў для выставы, што адбылася недзе тыдзень назад у санаторыі "Сосны" на Нарачы.

**—Як Вы лічыце, ці застаецца купала- коласаўская тэма актуальнай і ў нашы дні?**

— Безумоўна, гэта ўжо гістарычная з'ява, як і скарынаўская тэматыка. Купала і Колас напісалі такія крылатыя вершы, што часта мы выдаем іх словы за свае ўласныя. Яны быццам узброілі нас сваімі патрыятычнымі радкамі. У гэтым проста наша ратаванне...

**Падрыхтавал**
**Людміла ГУРМАН**

# Дом, дзе жыве дружба

***У цэнтры Мінска, побач з плошчай Перамогі, ёсць невялікі, але вельмі прыгожы будынак, афіцыйна названы Беларускім домам дружбы. Звычайна ў ім вельмі ціха і нешматлюдна. Ён "ажывае", бадай, толькі ўвечары, калі сюды на незвычайныя імпрэзы сцякаюцца людзі, аб"яднаныя любоўю да высокага мастацтва. Цяжка нават паверыць, якую ролю ў папулярызацыі айчыннай культуры адыгрываюць грамадскія арганізацыі, што змяшчаюцца тут. Сёння мы прапануем нашым чытачам гутарку з сапраўднай гаспадыняй гэтага дома, старшынёй Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі Нінай ІВАНОВАЙ.***



**— Пачнём, напэўна, з гісторыі таварыства?**

— Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі было створана ў 1926 годзе. Ініцыятарамі яго стварэння сталі вядомыя пісьменнікі і навукоўцы. Сярод іх — Янка Купала, Міхась Чарот, Цішка Гартны. Апроч таго да ініцыятывы далучыўся Інстытут беларускай культуры, Чырвоны крыж. З таго часу прайшло 76 гадоў, і вызначаную імі мэту ні мы, ні нашы папярэднікі не мянялі. Мэта вядомая — гэта азнаямленне суайчыннікаў з дасягненнямі нашай культуры і, канечне, папулярызацыя яе за межамі Беларусі. Калі гаварыць пра гісторыю, варта адзначыць дзейнасць ужо названых асоб. Згадаем тут Віталя Смірнова, які і зараз удзельнічае ў грамадскім жыцці. Але ж крыху больш мне хацелася б спыніцца на асобе апошняга старшыні — Арсена Ваніцкага — з якім я асабіста працавала больш за 10 гадоў. Ведала яго як цікавага чалавека, глыбокага і дасціпнага. Ён шмат зрабіў для таго, каб грамадскія арганізацыі (не толькі наша) пазнаёміліся з як мага большым колам замежных партнёраў. Пад яго кіраўніцтвам мы "займелі" сяброў ажно ў 50 краінах свету.

Сёння пад дахам Дома дружбы працуе 36 нацыянальных таварыстваў дружбы. І ва ўсіх гэтых краінах мы маем нейкія партнёрскія структуры. Гэта не заўжды арганізацыі, што займаюцца культурным абменам. Ёсць фонды, грамадскія арганізацыі, якія абралі для сябе шлях дабрачыннай дзейнасці, выканання гуманітарных праграм. Аднак за гады супрацоўніцтва з намі яны ўсё адно "выходзяць" на культурныя акцыі, фактычна выконваючы нашы статутныя мэты. Напрыклад, ГА "Аліса" ў Францыі, якая між іншым мае багатую гісторыю, раней супрацоўнічала выключна па гуманітарных праграмах. У тым ліку аказвала дапамогу Беларусі медыкаментамі, медабсталяваннем... Але апошнія гады "Аліса" арганізоўвае ў Францыі выступленні нашых нацыянальных калектываў. Толькі нядаўна адтуль вярнуліся беларускія цымбалісты. Французы арганізавалі ім своеасаблівы тур па гарадах, знаёмячы тым самым замежнікаў з нашай традыцыйнай і сучаснай культурай. Былі там і прадстаўнікі нашага таварыства. Натуральна, гаворка ішла не толькі пра культуру, але і пра нашы чарнобыльскія праблемы. І "Аліса" не адзіная далёкая ад культуры арганізацыя, якую мы здолелі зацікавіць творчасцю нацыянальных калектываў.

**— Ці змянілася нешта ў дзейнасці таварыства за апошнія дзесяцігоддзе?**

— Пашырылася яе "геаграфія". У тым ліку і за кошт збліжэння з суседзямі. Пасля распаду СССР стварылася нейкая пустэча, паколькі разваліліся аналагічныя нашай структуры. Таму супрацоўніцтва па культурных праграмах сталася праблематычным. Аднак з цягам часу ўсё больш-менш наладзілася, і з 1992 года ў нас створаны Таварыствы дружбы з Расіяй, Украінай, Латвіяй, Літвой, Казахстанам і г.д. Зараз мы, зразумела, падтрымліваем дачыненні з краінамі, з якімі традыцыйна сябравалі і цікавіліся жыццём адзін аднаго.

Постсавецкія часы і наша дзейнасць у гэты перыяд сталі адметныя яшчэ і тым, што таварыства засталося па-за межамі палітыкі. Не сакрэт, што ў савецкія часы таварыства з"яўлялася моцнай ідэалагічнай структурай і выконвала сярод іншага і замовы Камуністычнай партыі. Дзяржава ж аплочвала ўсе выдаткі арганізацыі і гэта было непазбежна. Можна, вядома, казаць тут пра нейкія заганныя моманты, але ж, падкрэслю, таварыства і тады выконвала свае статутныя мэты. Зараз жа мы існуем выключна на спонсараўскія грошы. Дзяржава нас падтрымлівала да мінулага года, выдаткоўваючы сродкі на ўтрыманне будынка, які, між іншым, з"яўляецца помнікам архітэктуры. Што тычыцца гэтага году, то мы ў цяжкім становішчы: трэба разлічвацца за камунальныя паслугі і не спыняць разам з тым сваёй працы.

**— А як жа людзі, ім таксама не плацяць грошай?**

— Сёння ў актыве Беларускага таварыства дружбы каля 4000 чалавек. Гэта паважаныя, аўтарытэтныя людзі, дзеячы навукі, культуры, літаратуры, мастакі. Есць у кожнай вобласці свае аддзяленні, і разам мы шмат чаго робім. Аднак у асноўным людзі працуюць на грамадскіх пачатках. Толькі невялікая колькасць (зараз недзе 12 чалавек) атрымлівае сціплы заробак.

**— У такім выпадку, якім жа чынам вы выконваеце свае статутныя мэты?**

— Тыя ж Дні Беларусі ў Францыі. Яны не каштавалі нам ніводнага рубля — усё аплачвалі нашы партнёры. А колькі карысці яны прынеслі! Нагадаю, што ў сценах Дома дружбы мы праводзім шмат азнаямляльных, пазнавальных мерапрыемстваў, знаёмім нашых грамадзян з творчасцю замежных пісьменнікаў, мастакоў і г.д. Людзі прыходзяць, шмат моладзі. Карысць тут узаемная. Згадайце вечар, прысвечаны 120-годдзю Янкі Купалы. Вы ж чулі, з якім задавальненнем амбасадары чыталі Купалавы вершы ў перакладзе на розныя мовы свету. А цяпер паслы цікавяцца пра нашы планы адносна юбілею Якуба Коласа. Яны самі выказваюць жаданне аддаць належнае і гэтаму нашаму класіку. Як напісалі ў адной з газет, "такое можа быць толькі ў Доме дружбы".

**— Так, ёсць чым ганарыцца і чэрпаць сілы для далейшай працы. Вашы бліжэйшыя планы?**

— Летам мы, як правіла, займаемся аздараўленнем дзяцей. Размова пра больш за 500 чалавек з Чарнобыльскай зоны. У гэты час будзе абнаўляцца зала. Аднак перапынак у культурным жыцці не будзе доўгім, і ўжо ў жніўні мы ўключаемся ў сваю непасрэдную справу.

**— Ці ёсць нейкае размеркаванне супрацоўніцтва па праграмах?**

— Безумоўна. Мы ж не проста разам вырашаем адну праблему, хаця бывае і такое. Але ў асноўным асобныя людзі займаюцца асобнымі праграмамі. Апроч культурнай ёсць жа яшчэ маладзевая (адукацыйная). Мы дапамагаем арганізаваць стажыроўкі: моўныя, прафесійныя. Ну і, як ужо было сказана, гуманітарная праграма.

**— Дзеля справядлівасці варта згадаць колькі вашых партнёраў.**

— Пералічыць усіх, каго хацелася б, не атрымаецца. Тым не менш...Фонд зямлі Ніжняй Саксоніі, які раней узначальвала былая жонка канцлера Шродэра. (Сам Шродэр таксама прымаў актыўны ўдзел у працы фонду.) Зараз яго ўзначальвае прафесар-медык Экель. Ён штогод бывае ў нас з дэлегацыяй фонду. І скажу вам, што толькі за апошнее дзесяцігоддзе дзякуючы яму праз наша таварыства дзяржава атрымала 124 новыя апараты ультрагукавой дыягностыкі. Тэхніка не толькі бясплатна аддаецца нам, але яшчэ два гады забяспечваецца неабходнымі матэрыяламі (гель, папера, датчыкі). Апроч таго фонд арганізоўвае вучобу *для нашых* спецыялістаў.

Ёсць яшчэ вельмі цікавая ГА "Дзецям Чарнобыля" ў Германіі. Яе ўзначальвае сям"я Рэвальд. Фонд ужо на працягу 12 гадоў штогод збірае грошы для таго, каб аздараўліваць нашых дзяцей. Так толькі ў гэтым годзе мы вязём 100 дзяцей з Гомельскай вобласці. Нельга не сказаць і пра такога унікальнага чалавека як доктар Фай. Сталы, не самы заможны чалавек, пенсіянер працуе, можна сказаць, адзін. Уявіце сабе, што калі не стае сабраных грошай, каб даслаць сюды гуманітарны канвой, ён даплочвае са сваёй кішэні!

Хачу сказаць, яшчэ пра адну перспектыўную праграму, якую мы праводзім у таварыстве разам з Беларускай асацыяцыяй парадненых гарадоў, структурай юрыдычна *самастойнай, але* ўсё ж яна працуе ў Беларускім доме дружбы. Яе з"яўляюся адказным сакратаром упраўлення асацыяцыі, таму ўся арганізацыйная праца праводзіцца тут. БАПГ узначальвае старшыня Мінгарвыканкама Міхаіл Паўлаў. Ён надае вялікую ўвагу ўзаемааднасінам парадненых гарадоў. Тут два накірункі: пошук парнёраў і каардынацыя сувязяў. Вынік — 121 горад-пабрацім у 24 краінах свету.

**— Вернемся аднак да юбілеяў нашых класікаў. Наколькі я разумею, вечар з нагоды 120 — годдзя Купалы не адзінае мерапрыемства, прысвечанае "вялікім датам".**

— У нас была распрацавана цэлая праграма "Прысутнасць Янкі Купалы ў свеце". Таму адбыліся вечарыны, прысвечаныя практычна ўсім яго замежным сябрам: латышу Райнісу, літоўцу Гіру, украінцу Свяніцкаму, чэху Гору. Згаданы вечар толькі завяршыў адпаведны цыкл. Меркавалася таксама правесці прэзентацыю кнігі Сяргея Панізніка "З Купалам у сэрцы", аднак яе выхад пакуль адкладаецца. Ну што ж, правядзем пазней. Варта сказаць, што нашы замежныя сябры адгукнуліся на нашу просьбу і правялі ў сябе вечарыны нашых класікаў: у Кітаі, В"етнаме, Украіне, Расіі, Чэхіі, Германіі, Францыі. У Балгарыі, дзякуючы пісьменніку і перакладчыку з беларускай мовы Стэфану Паптоневу, старшыні Таварыства "Балгарыя-Беларусь", Купалу быў прысвечаны цэлы месяц. Тое ж, маркую, будзе і з Коласам.

**Гутарыў Вадзім ДОЎНАР**

*Фота К. ДРОБАВА*

## АБСЯГІ

### БРЭСТЧЫНА...

## Плынь палескіх рэк замест марскіх прыбояў

Аўтар персанальнай мастацкай выставы, што адкрылася ў абласным грамадска-культурным цэнтры, — капітан 3-га рангу ў запасе Іван Караленка. Аднак пра яго службу ў марфлоце сведчыць толькі біяграфічная даведка. Экспазіцыя ж выставы складаецца з краявідаў роднай Гомельшчыны, а таксама Ганцаўшчыны, дзе ён жыве больш за дзесяць гадоў. "Марскія пейзажы ўсё яшчэ ў стадыі дапрацоўкі, — кажа мастак. — Палессе цалкам паглынула мяне". І паўстаюць перад наведвальнікамі спакойныя і велічныя рэкі і азёры, задуменныя бары і дубровы, утульныя вясковыя хаты і падворкі... Не без поспеху асвойвае аўтар партрэтны жанр: у прыватнасці, тонкім лірызмам прываблівае партрэт двухгадовай дзяўчынкі, дачкі мастака, адкрытай і безабароннай перад таямніцамі і складанасцямі жыцця. Дзіцячы свет блізкі для І. Караленкі і як для педагога: ён працуе выкладчыкам выяўленчага мастацтва студыі ў Ганцавічах.

## "Каханне з чыстымі вачыма"

Найлепшы падарунак — кніга! Звыклае да трывіяльнасці сцвярджэнне Брэсцкае вышэйшае прафтэхвучылішча бытавога абслугоўвання насельніцтва напоўніла новым зместам: найлепшы падарунак для паэта — ягоная новая кніга! Менавіта гэтак яно павіншавала калегу, педагога-выхавальніка інтэрната Васіля Дзбіша з саракагоддзем: паспрыяла выхаду чарговай кніжкі паэта. У зборнік "Каханне з чыстымі вачыма" аўтар уключыў, акрамя лірыкі, вершы і казкі для дзяцей, а таксама пераклады з рускай і ўкраінскай паэзіі. Аднайменны раздзел зборніка застаецца, аднак, стрыжнявым: "Малітвы храм — маё каханне, дзе ціхі роздум і спакой".

**Сымон АКСЕНІН**

### ГОМЕЛЬШЧЫНА

## З новай кнігай — да землякоў

Новую кнігу прозы «Тратнік» выдаў гомельскі пісьменнік Васіль Ткачоў. Яе склалі апавяданні і маленькія былі, што раней друкаваліся ў часопісах і газетах, а таксама аповесць «Да неба камень не дакінеш». Выданне пабачыла свет у цвёрдай вокладцы, хораша афармлена мастаком Генадзем Говарам, ды і наклад па нашым часе прыстойны — 1500 асобнікаў.

З новай кнігай нядаўна пісьменнік прыехаў да землякоў. У Рагачове ён сустрэўся з бібліятэкарамі раёна, якія, трэба адзначыць, актыўна прапагандуюць яго творчасць. Пісьменнік распавёў пра тое, што зараз у яго на пісьмовым стале, прачытаў кароткія гісторыі і новыя гумарэскі, адказваў на пытанні.

Цёплыя, ухвальныя словы пра прозу Васіля Ткачова сказалі дырэктар цэнтральнай раённай бібліятэкі Клаўдзія Савельева, яе намеснік па маркетынгу Зоя Мартынкова, мясцовыя літаратары Міхаіл Міронаў і Міхась Сліва.

На другі дзень Васіль Ткачоў пабываў у дзіцячых летніках «Лясная казка» і «Зорачка», дзе не толькі чытаў дзецям творы, але слухаў і юных сяброў, якія чыталі не толькі свае вершы, але і спявалі песні, што самі прыдумалі.

Было па-хатняму ўтульна і весела.

**Наш кар.**

### ГАРАДЗЕНШЧЫНА

У гарадскім пасёлку Рось Ваўкавыскага раёна адкрылася выстаўка пад назвай «Ваўкавыск у пачатку XX стагоддзя». Некалькі дзесяткаў палотнаў, на якіх прадстаўлены краявіды старажытнага горада (у 2004 г. Ваўкавыску спаўняецца 1000 гадоў), належаць мастаку С. Кузьмару.

●

У выставачнай зале СМ РБ экспануецца абласная выстаўка «Вянок Дамейку», прысвечаная 200-годдзю Ігнація Дамейкі. У экспазіцыі прынялі ўдзел жывапісцы М. Бандарчук, А. Сураў, В. Ільіна, А. Ступень, С. Грыневіч, В. Шоба, І. Працко, мастакі ваўкавыскай філіі, а таксама скульптары В. Панцялееў і А. Анціпін. Прыгожыя вырабы з каляровага шкла прадставілі слынныя майстры са шклозавода "Нёман" В. Мурахвер, Л. Мягкова, Т. Сідарэвіч.

●

У старым замку Гродзенскага абласнога гісторыка-археалагічнага музея адкрылася выстаўка "Ваенна-гістарычная мініяцюра" (з асабістай калекцыі І. Гарбунова, г. Віцебск).

●

У славутай гродзенскай галерэі "У майстра" дэманструецца персанальная выстаўка А. Ізобава. У экспазіцыі прадстаўлены жывапісныя творы аўтара — рамантычныя краявіды і нацюрморты.

●

Музей гісторыі Гарадніцы прадстаўляе выстаўку твораў гродзенскага жывапісца С. Цыбізава. Мастак добра вядомы аматарам выяўленчага мастацтва як аўтар запамінальных пейзажаў старажытнага Гродна, партрэтаў і нацюрмортаў.

**Алена ХРАМКОВА**

## Падпісчык "ЛіМа"

Мікалай Клімовіч выпісвае наш тыднёвік аж з 1939-га года і па сённяшні дзень за выключэннем ваенных гадоў. "Я —настаўнік, выкладчык беларускай мовы і літаратуры, — піша ён у рэдакцыю. — Працоўны стаж — 55 гадоў... Люблю родную Тураўшчыну, Палессе, сваю мову, шаную нашых пісьменнікаў — аўтараў цудоўных твораў, большасць з якіх займаюць пачэснае месца ў маёй бібліятэцы..."



Клімовіч нарадзіўся ў 1921 годзе ў вёсцы Малы Мелешаў на Тураўшчыне. Пісаў вершы. Пасля дзесяцігодкі настаўнічаў. Ваяваў, партызаніў. У 45-ым стаў дырэктарам Верасніцкай сямігодкі. Выкладаў мову і друкаваўся з артыкуламі на самыя розныя тэмы ў перыядычным друку Беларусі. Зараз на пенсіі...

**Я. Р.**

***Рыхтую зборнік матэрыялаў розных публіцыстычных жанраў пра творчасць калег-пісьменнікаў, і іх саміх. Нямала што друкую ў газеце "Советская Белоруссия", вядома, у скарочаным выглядзе. Па просьбе рэдакцыі "ЛіМа" прапаную чытачам штотыднёвіка цалкам інтэрв'ю з асобнымі пісьменнікамі, уключаныя ў будучае выданне. Першая гутарка — з празаікам Анатолем Казловым, загадчыкам аддзела прозы часопіса "Маладосць", адным з кандыдатаў на Дзяржпрэмію гэтага года.***

**Уладзімір САЛАМАХА**

# ...Там, дзе пачынаецца боль — пачынаецца літаратура

**— Анатоль, я, былы "маладосцевец" з больш чым 20-ці гадовым стажам, памятаю, як 10 гадоў таму ты прыйшоў на гэтую пасаду па сутнасці пачынаючым празаікам, аўтарам маленькай кніжачкі: хваляваўся... Пасада гэта, скажу шчыра, з аднаго боку не зайздросная: трэба перачытаць тысячы старонак тэкстаў, маладых і знакамітых аўтараў, каб адабраць у нумар і адрэдагаваць лепшае — прыкладна 180—200 старонак. З другога — чаканне радасці, адкрыцця...**

— Так, тады я толькі дэбютаваў кнігай "Міражы ценяў". Але да гэтага скончыў ВНУ. Адслужыў у войску, папрацаваў у некалькіх раёнках, закончыў аспірантуру Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук. А яшчэ два гады працаваў у рэдакцыі часопіса "Полымя" загадчыкам аддзела нарыса і публіцыстыкі. Тым не менш адчуваў нейкую ўнутраную супярэчлівасць, можна сказаць нават няўпэўненасць, калі Генрых Далідовіч, тагачасны рэдактар "Маладосці", прапанаваў мне гэтую пасаду ў часопісе. Я ўсведамляў адказнасць за творчыя лёсы тых людзей, і асабліва пачынаючых празаікаў, з рукапісамі якіх мне трэба было працаваць. Як кажуць, узважыўшы ўсе "за" і "супраць", усё-такі рашыўся. Былі тады ў мяне яшчэ некаторыя, так бы мовіць, падсвядомыя моманты. Асноўны: ці змагу я годна замяніць папярэднікаў, сапраўдных майстроў нацыянальнага слова, якія працавалі на гэтай пасадзе да мяне. Але сумненні хутка развеяліся: дапамагалі Генрых Далідовіч, Віктар Гардзей, Казімір Камейша, Янка Сіпакоў...

Вядома, пасада загадчыка аддзела прозы ў любым часопісе не з лёгкіх. Штодзённая праца з рукапісамі, аўтарамі патрабуе аддачы. За кожнай жа старонкай тэксту стаіць жывы чалавек, са сваім характарам, здольнасцямі, мысленнем і г.д. Галоўнае, як мне здаецца, у рэдактарскай працы трэба прытрымлівацца прынцыпу — не нашкодзь!

Рэдактарства нечым падобна на дзейнасць урача. Эскулап мае справу з чалавечым целам, а мы, рэдактары, — з душой чалавека, яго ўнутраным светам. Але здараецца, нават не жадаючы таго, іншы раз можна пакінуць глыбокі, балючы, а то яшчэ які і страшнейшы шрам у сэрцы аўтара. Значыць, трэба старацца зразумець яго творчую душу, па магчымасці дапамагчы ўсвядоміць чалавеку яго плюсы і мінусы, не адштурхнуць. Мне здаецца, што ад няма чаго рабіць, чалавек, які разумее, не возьмецца за сціло, не сядзе за чыстыя аркуш паперы. Бо, як пісаў класік грузінскай літаратуры Надар Думбадзе: "Там, дзе пачынаецца боль — пачынаецца літаратура". Гэта выток, штуршок да творчасці. Як атрымаецца і наколькі — ужо іншае пытанне.

А вось шчаслівыя моманты — калі прачытаеш рукапіс і бачыш: сапраўдная творчасць, палёт думкі, крынічная залацістасць мовы, вобразнасць і дзейсная жыццёвасць характараў персанажаў. Не важна — апавяданне гэта або аповесць. Галоўнае — убачыць нараджэнне творчай асобы. У такіх выпадках трэба старацца быць асабліва асцярожным і чулым. Бо заўсёды ёсць небяспека недаацэнкі або пераацэнкі канкрэтнай працы канкрэтнага аўтара. У кожнага з нас свая псіхалогія, сваё самаўзвышэнне. Іншы раз важна ў спрэчных момантах, калі ты, рэдактар, няўпэўнены, калі сумняваешся — звярніся да калег па пяру, дай прачытаць рукапіс двум, тром пісьменнікам, паслухай, што яны скажуць, каб потым паведаць аўтару праўду. Вядома, кожны з нас можа памыляцца, а працуючы з аўтарамі, асабліва маладымі ды таленавітымі гэта архінебяспечна! У "Маладосці" калектыўнае чытанне заўсёды шырока практыкавалася.

**— Павінен патлумачыць чытачам, што ты прыйшоў у літаратуру з літаб'яднання "Тутэйшыя". На жаль, сёння аб ім ужо мала хто ведае. А між тым там былі...**

— Так, гэта ўжо гісторыя літаратурнага працэсу. "Тутэйшыя" ў свой час, а гэта канец 80-х мінулага стагоддзя (смешна, сказаў і адчуў сябе вельмі старым) былі шырока вядомы не толькі ў рэспубліцы, але і за яе межамі. Пра іх тады некалькі разоў нават пісала "Литературная газета" — орган Саюза пісьменнікаў СССР. Дык вось, у "Тутэйшых" уваходзіла некалькі дзесяткаў маладых, пачынаючых паэтаў і празаікаў, драматургаў і крытыкаў. Гэта ў першую чаргу наш тагачасны духоўны натхняльнік Анатоль Сыс, а таксама Эдуард Акулін, Вольга Куртаніч, Таццяна Сапач, Галіна Багданава, Андрэй Федарэнка і многія іншыя.

Літаб'яднанне ствралася ў "супрацьвагу", як нам тады здавалася, закасцянеламу Саюзу пісьменнікаў БССР. Маладосць заўсёды імкнецца да эксперыменту, да непрызнання і адхілення аўтарытэтаў. Гэта заканамерны працэс. Беларуская літаратура яго праходзіла і ў 20-я гады. Але заўсёды ўсё вярталася "на кругі своя". Бо на пустым месцы, без фундамента нічога трывалага не пабудуеш. Юнацкі максімалізм з гадамі адыходзіць, уступаючы месца ўсведамленню велічы нашых папярэднікаў — Багдановіча, Купалы, Коласа, Чорнага, Мележа, Танка, Панчанкі, Куляшова... Усіх тых, хто некалі пакінуў глыбокі след у нашай культуры.

Нам жа, іх паслядоўнікам, ніхто не забараняе эксперыментаваць, спрабаваць, ствараць нешта новае, авангарднае...

**— Або працаваць, працягваючы традыцыі...**

— Несумненна. Але жыццё не стаіць на месцы, а значыць і творчы працэс патрабуе новых формаў, свайго "героя новага часу". Хаця, і ў традыцыяналістычы паспехі могуць быць не меншымі. Галоўнае — як...

Але вернемся да "Тутэйшых". Думаю, што яны ў тыя гады па-добраму паўздзейнічалі не толькі на нас, пачынаючых літаратараў, але і на Саюз пісьменнікаў рэспублікі наогул. У любым творчым асяродку павінен прысутнічаць элемент эксперыменту, пошук новага, выйсце з "запечка", якое складалася дзесяцігоддзямі, пошук свайго гледача, чытача, слухача. Вельмі хочацца, каб і сёння, у пачатку новага тысячагоддзя, знайшліся маладыя здаровыя сілы, здольныя на эксперымент на нацыянальнай глебе. Менавіта на нацыянальнай, а не капіраванні трохграшовай амерыканскай і заходняй "культуры". Бо менавіта зыходзячы са свайго СПРАДВЕЧНАГА, ментальнага сталі вялікімі, вядомымі ў свеце Фолкнер, Бене, Акугатава, ды і сотні іншых выдатных асоб.

У літаратуры, я перакананы, патрэбна заўсёды заставацца непахісна цвёрдым гуманістам, мастаком, які імкнецца пранікнуць у трагічныя глыбіні.

**— Але, здаецца, толькі ты адзін з творцаў свайго пакалення застаўся адданым сваёй тэме, свайму літшляху. Усе твае кнігі — "Першыя сцяжыны" (1987), "Міражы ценяў" (1990), "...І тады я памёр" (1993), і гэта, вылучаная на Дзяржпрэмію, — "Незламаная свечка" — містычныя. У містыцы працуюць многія. Нямала хто, як кажуць, "сходзіць" з дыстанцыі. Так складана?**

— Я так не сказаў бы, што мае кнігі "чыста" містычныя. Хутчэй за ўсё нетрадыцыйна традыцыяналістычныя. Такой жа па сутнасці з'яўляецца і наша эпоха з яе па-свойму лагічным ірацыяналізмам, карані экзістэнцыйённых, эсхаталагічных пытанняў. Пачынаючы яшчэ з апавяданняў мне заўсёды хацелася стварыць двухпланавасць мастацкага свету, дзе рэальнае і выразна містыка-фантастычнае з'яднана ў адно цэлае. Гэтым я імкнуся нагадаць чытачу, што апроч добра знаёмага, бачнага свету, існуе іншы, не абмежаваны часам і адноснасцю ведаў чалавека і яго пяццю пачуццямі. Зыходзячы са сваіх уласных уяўленняў, асабістага шостага пачуцця і, абапіраючыся на праверанныя часам народныя міфалагічныя традыцыі, стараюся абмалёваць сучасніку такую сістэму прасторы і часу, дзе, па-майму меркаванню, літаральна ўсё адухоўлена. Пісьменнік павінен стварыць свой воблік свету, у якім міфалагічныя рэфлексіі адыгрываюць значную ролю. У якасці канстытуітыўных элементаў структуры такога свету, згодна з міфалагічным светаўспрыняццем, могуць выступаць і пэўныя прадметы. Бо, згодна з народнай касмагоніяй, свет ад самага пачатку не падзяляецца на прыроду жывую і мёртвую. Нават памерлыя і пахаваныя не з'яўляюцца мёртвымі, таму што іх душы знаходзяцца, як гаворым мы, беларусы, "у выраі", і час ад часу памерлыя могуць наведваць "наш" свет у вобліку тых жа птушак... Мне здаецца, што вытокі драмы сучаснага чалавека патрэбна шукаць у яго адзіноцтве, у тым, што разарваны сувязі між людзьмі. Можа гэта прагучыць парадаксальна, але мяне цікавіць не сам па сабе станоўчы герой, а свядомыя сілы жыцця. З чаго ўзнікае зло? Адкуль з'яўляецца?.. Ставячы перад сабой такое пытанне, імкнуся даследаваць яго ад супрацьлеглага. Містычны свет твораў, я думаю, павінен высвечваць у антыноміі дабро-зло і яе метафарычных інтэрпрэтацыях святло-цемра, дзень-ноч, сонца-воблака. Не толькі нізкае ў чалавеку, але і высокае, чыстае, Боскае.

У прынцыпе, гэта не новае ў нашай літаратуры, не кажучы ўжо пра сусветную. Проста хочацца працягваць традыцыі папярэднікаў, глыбей распрацаваць іх, зыходзячы з разумення нацыянальнай містычнай традыцыі ў сённяшніх умовах існасці. Нагадаю, элементы містыкі знаёмы нашаму чытачу з апавяданняў Ядвігіна Ш., Каруся Каганца, Якуба Коласа...

**— Ты нічога не сказаў пра цэлы шэраг сваіх аповесцей, створаных у розныя гады ў гэтым жа "ключы" — "Адкуль з'яўляюцца яны", "Перакуліся, перакуленая", "Распяцце, альбо Ці ж баліць галава ў вароны?", "Дзеці ночы" і некаторых іншых.**

— На працягу ўсёй гісторыі чалавецтву ўласціва пэўная раздвоенасць, як асаблівасць зместу чалавечага жыцця. Адлюстраваннем чаго і з'яўляюцца дуалістычныя міфы. Гэта і знаходзіць сваё адлюстраванне ў аповесцях. Асабіста для сябе я выпрацаваў простае, але, як мне здаецца, ёмістае формулу-крэда: жыццё — гэта найвялікшая каштоўнасць, але не ў меншай ступені — такі ж і боль. Цяжка гаварыць і аналізаваць сваё, напісанае, ды і не варта гэтым займацца. Гэта ўжо не мая прэрагатыва.

**— Шмат у цябе паслядоўнікаў?**

— Гадоў пяць таму містыка — была адна з модных тэм у беларускай літаратуры. Мода прайшла, напісанае засталося. Для таго, каб прысвяціць сябе містычнай тэме — аднаго жадання мала. Патрэбна яшчэ асяроддзе, у якім чалавек вырас, на чым выхоўваўся, якая мараль была дамінантай. Мне пашчасціла нарадзіцца і вырасці ў спрадвечна-першабытнай, не абпаленай і не скалечанай цывілізацыяй вёсачцы Асінаўка, што ў Краснапольскім раёне. (Зараз яна пахавана пад зямлёй — Чарнобыль.) Дык вось, я вырас на легендах, народных фальклоры, на замовах і варажбе, на вераваннях, якія потым "вучоныя людзі" ахрысцілі "забабонамі". А гэта — бясцэнны дар. У той час жылі яшчэ ў нашых месцах пакаленні знахарак, якія аднолькава пакланяліся і крыжам, і векавечным дубам, і абымшэлым валунам. Такой была і мая нябожчыца бабуля АкулінаАнуфрыеўна. Аповеды бабулек замянялі нам, дзецям, тэлевізары і відэамагнітафоны, былі больш цікавыя, чым многія кніжныя казкі. Адышлі ў вечнасць тыя бабулькі: нельга, каб гэты бясцэнны дар, нацыянальны каларыт знік назаўсёды.

Прыемна, што ў містыцы працуюць сёння і маладзейшыя празаікі Руслан Равяка з Баранавіч, Алег Асенні з Касцюковіч і іншыя.

**— У свой час, калі, напрыклад, маё пакаленне (зараз пяцідзесяцігадовыя) уваходзіла ў літаратуру, у СП, выдавецтвах было ледзь не ў законе: першая кніга празаіка — да 30 гадоў. А наогул лічылася, што пісьменнік пачынаецца з другой кнігі, бо дэбют можа быць выпадковым. Ведаю выпадкі, калі рукапісы асобных маладых аўтараў ляжалі ў выдавецтве гэтак гадоў па 10. Хаця і тады асобныя, набліжаныя да выдавецкіх начальнікаў, выдаваліся хуценька, так бы мовіць, набіралі назвы. Было... Сёння ж часта выдаюцца, праўда, у некаторых прыватных выдавецтвах, нават непісьменныя школьнікі, якія часам нават самастойна не могуць напісаць прасценькага сачынення — асабліва "паэты", якія і сістэмы вершаскладання не ведаюць. Што ты думаеш на конт гэтага?**

— Тое, што некалі (а зараз?) у дзяржвыдавецтвах трымалі аўтараў па шмат гадоў, вядома, кепска. Хаця, канечне ж, для празаіка аднаго таленту часта аказваецца недастаткова, яму яшчэ патрэбен і адпаведны жыццёвы вопыт. Думаю, часам трымалі не дзеля таго, каб набраўся вопыту, але і па іншых прычынах. Несумненна, ёсць выпадкі, так бы мовіць, і ранняга чалавечага сталення празаікаў, калі гаварыць пра іх. Скажам, у "Бібліятэцы часопіса "Маладосць" выйшлі кнігі студэнтаў філфака празаікаў Маргарыты Прохар і Паўла Гаспадыніча, паэта Янкі Лайкова. Іх адразу ж прынялі ў Саюз пісьменнікаў. Як далей складзецца іх творчы лёс — ад саміх іх і залежыць.

Што датычыць выдання таго, што ні па якіх параметрах не аднясеш не тое, што да літаратуры, а нават да больш-менш удалых літпрактыкаванняў, дык гэта, думаю, кепска. І ў першую чаргу самім такім "паэтам" і "празаікам". Ты ж сам не аднойчы пісаў пра гэта ў сваіх артыкулах, і я з табой згодны: бацькі, выдаткаваўшы грошы на такія выданні, калечаць душы сваіх дзяцей. Ім жа — вучыцца і вучыцца...

Сёння тым, хто піша прафесійна і не мае грошай — няма ідзе выдавацца. Бібліятэка "Маладосці" перастала існаваць — няма сродкаў. А гэта ж была сапраўдная школа для пачынаючых пісьменнікаў. Праз яе прайшлі сотні паэтаў і празаікаў. У дзяржвыдавецтвах чарга — дзесяцігоддзі: у год выходзяць адзінкі кніг. Таксама пакуль няма фінансаў.

Але вернемся да маладых літаратараў. Існуе фонд Прэзідэнта па падтрымцы культуры і мастацтва. Упэўнены, у многім ён можа выправіць становішча з выданнем кніг маладых. Таленавітым у адрозненне ад графаманаў патрэбна прафесійная рэдактура, як творчая школа. Талент — агульнанацыянальнае багацце — мы ўсе гэта ведаем... Ён да прыватніка не пойдзе, у яго звычайна грошай няма. У прыватніка як: плаці, выдам што хочаш! І выдаюць. Гэта, мне здаецца,адна з прычын падзення прэстыжу творчасці, пісьменніцкай працы. Але, вядома ж, прафесійная літаратура была, ёсць, будзе. Усё наноснае, пустое адсеецца. Сапраўднага чытача не правядзеш. Падробка ад рарытэта лёгка распазнаецца, як крупінка золата сярод шэрай пароды. Ды і літаратурныя школы пры нашых нешматлікіх часопісах, і школы асобных пісьменнікаў заўсёды былі высока-прафесійнымі, нацыянальнасвядомымі, генетычна здаровымі.

**— Згодзен. Тады давай назавём хоць некалькі прозвішчаў як прадстаўнікоў гэтых школ, так і асобных пісьменнікаў, у якіх было і ёсць чаму павучыцца і нам, і больш маладым, і зусім юным літаратарам. Не абавязкова тых, з кім я або ты працавалі непасрэдна, а і тых, па чыіх творах вучыліся, чытаючы іх, можа, нават не будучы знаёмымі з аўтарамі. Напрыклад: Іван Мележ, Янка Брыль, Васіль Быкаў, Іван Шамякін, Іван Навуменка, Мікола Лобан, Алесь Адамовіч, Уладзімір Караткевіч, Іван Пташнікаў, Іван Чыгрынаў, Барыс Сачанка, Міхась Стральцоў, Алесь Асіпенка, Анатоль Кудравец, Алесь Жук, Мікола Кусянкоў, Янка Сіпакоў, Леанід Дайнека, Павел Місько, Алесь Савіцкі, Алесь Масарэнка, Уладзімір Федасеенка... Заўваж, якія выдатныя імёны нашай літаратуры і якія цудоўныя творы ў іх!**

— Бясспрэчна, Уладзімір, спіс можна доўжыць, нават з маладзейшых нашых празаікаў. І пра гэта трэба гаварыць усюды, дзе толькі можна: наша літаратура годная сярод літаратур свету! Творчы і жыццёвы вопыт кожнага, каго мы тут назвалі, ды і не назвалі — месца не хопіць — наша агульнанацыянальная каштоўнасць...

**— Згодны з табой, Анатоль. Маладым ёсць і сёння ў каго вучыцца і чаму вучыцца. Але гэта ўжо асобная тэма. Поспехаў табе, новых твораў.**

*Уладзімір Саламаха*

*Анатоль Казлоў*

## Беларусь жыла ў іх сэрцах

**Жыццёвыя ніці спалучылі многіх вучоных, мастакоў, літаратараў з Беларуссю, нягледзячы на тое, што яны жылі і працавалі ў іншых краінах і рэспубліках. Два прафесары Фама Бельскі і Георгій Яцэль былі сваім лёсам звязаны з нашым беларускім краем. Менавіта ў гонар гэтых вучоных сёлета ў Мінску выйшлі два бібліяграфічныя паказальнікі. Даведнікі "Прафесар Фама Антонавіч Бельскі" і "Прафесар Георгій Яцэль" уклаў навуковец і пісьменнік Алесь Бельскі.**

**Фама Бельскі (1890—1952) — вучоны ў галіне педагагічных навук. Ён нарадзіўся ў мястэчку Цімкавічы Капыльскага раёна. З сярэбраным медалём закончыў Слуцкую гімназію, затым гісторыка-філалагічны факультэт славутага Кіеўскага універсітэта з дыпломам ПЕРШАЙ ступені (1913). Стаў прафесарам яшчэ ў 1925 годзе. Праз неспрыяльныя грамадска-палітычныя абставіны прафесару Бельскаму давялося шмат пераязджаць. У 1932 годзе ён, прыхільнік элітарнай адукацыі, гуманістычнай педагогікі, на вучоным савеце Херсонскага інстытута народнай адукацыі выступіў супраць метаду політэхнізацыі, і гэта было тады інкрымінавана яму ў сур'ёзную віну. Давялося ратавацца, падацца на ўцёкі ў Расію. Прафесар Фама Бельскі ўзначальваў профільныя кафедры ў вышэйшых навучальных установах Украіны, Беларусі, Расіі і Узбекістана. Незадоўга да 1937 года ён загадваў кафедрай педагогікі і псіхалогіі ў Магілёўскім techінстытуце. Сфера навуковых інтарэсаў прафесара Бельскага — метадалогія і гісторыя педагогікі, кіраванне школай, вучэбнымі ўстановамі для адораных дзяцей, вывучэнне здольнасцяў дзяцей і развіццё асобы, маральнае выхаванне вучняў старэйшага школьнага ўзросту, арганізацыя вучэбнага працэсу ў педагагічнай ВНУ, павышэнне кваліфікацыі педагагічных кадраў, арганізацыя навуковай работы і некаторыя іншыя.**

**Георгій Яцэль (1928—1998) — знакаміты ўкраінскі лінгвіст-палітолаг. Ён таксама меў беларускія карані. Яго маці Яўгенія Бельская паходзіла з Беларусі. Яе дзяцінства і юнацтва прайшлі ў мэстэчку Цімкавічы. Дарэчы, яна , выхавацелька ўкраінскай дзятвы, даводзіцца роднай сястрой прафесару Фаму Бельскаму. Георгій Яцэль з адзнакай скончыў Кіеўскі універсітэт. У 1978 годзе ён стаў прафесарам, а ў 1979 годзе абараніў доктарскую дысертацыю па англійскай філалогіі. Між іншым, апаніруючай арганізацыяй па яго дысертацыі выступіў наш Беларускі дзяржаўны універсітэт. Георгія Пракопавіча ведалі славутыя беларускія мовазнаўцы — прафесары Адам Супрун і Павел Шуба. Доктар філалогіі Яцэль, апрача ўкраінскай і рускай, глыбока валодаў сям'ю мовамі: англійскай, французскай, іспанскай, нямецкай, польскай, сербахарвацкай і латынню. Чатыры з іх пастаянна выкарыстоўваў у выкладчыцкай практыцы. Ён навучаў студэнтаў старэйшых курсаў і аспірантаў, будучых спецыялістаў-інжынераў 50 тэхнічных спецыяльнасцяў у Кіеўскім нацыянальным універсітэце архітэктуры і будаўніцтва. У гэтай навучальнай установе ён амаль сорак гадоў узначальваў кафедру замежных моў. Г. Яцэль — аўтар шматлікіх падручнікаў і дапаможнікаў па замежных мовах, у тым ліку па англійскай і нямецкай, якія вытрымалі не адно выданне. За створаныя падручнікі акадэмік АН Вышэйшай школы Украіны Георгій Яцэль пасмяротна адзначаны прэміяй імя Яраслава Мудрага.**

**У бібліяграфічных даведніках прадстаўлены жыццяпіс Фамы Бельскага і Георгія Яцэля, пададзены спісы навуковых прац, прыведзены крыніцы, у якіх адлюстравана жыццё і творчая дзейнасць вучоных. Вельмі цікава прачытаць успаміны пра абодвух навукоўцаў кандыдата медыцынскіх навук Тамары Яцэль.**

**Бібліяграфічныя паказальнікі, падрыхтаваныя да друку прафесарам Алесем Бельскім, — прыклад годнага шанавання свайго роду, памяці таленавітых папярэднікаў. Выдадзеныя кніжкі — яшчэ адзін красамоўны факт навукова-культурнага пабрацімства беларускага і ўкраінскага народаў.**

**Яўген АНДРУКОВІЧ**

# Вечары за кнігай

Прачытаў раман Віктара Казько "Бунт незапатрабаванага праху". Чытанне не з лёгкіх. Бадай, ці не ўпершыню чытаў мастацкі твор падобнага кшталту. Тут, нават так хочацца сказаць, па-мастацку напісаная праца па філасофіі чалавечага жыцця. Было адчуванне настрою, які авалодваў мною ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, калі я рыхтаваўся да здачы вельмі сур'ёзных і адказных экзаменаў.

Як звычайна пачынаюцца празаічныя творы? Дзве, тры старонкі з апісаннем, напрыклад, прыроды, а там разгортваюцца падзеі, ладзяцца дыялогі дзейных асоб.

Пачатак рамана ("Полымя", №№ 3,4,5 — 2000 г.) на 56-ці старонках, дзе-нідзе кароценькія дыялогі. І — суцэльныя тэксты, тэксты і тэксты. І скрозь натыкаешся на сказы вельмі складанай канструкцыі. Хаця б вось такі: "У нейкі прадвызначаны і наканаваны, у кожнага свой, дзень і час да чалавека прыходзіць адчуванне сэнсу імгнення, улоўнага ці няўлоўнага, таго самага, што назаўсёды, як гром сярод чыстага неба, нечакана ўшчэнт разбівае застаялую ачмуранасць нашага існавання, вымушае нас адчыніцца, расплюшчыць вочы, як гэта робіць зранку кветка, як гэта адбываецца з душой грыбніка, які ледзь цягне ногі па пустым лесе і раптам прыкмячае ў зялёным імху сярод зязюліных слёзак галоўку ціхмянага баравічка".

Рухаючыся зрокам па радках наперад, трэба ўвесь час пільна трымацца нітачкі думак, развагаў, каб, дайшоўшы да канца сказа, не забыцца, пра што гаварылася ў яго пачатку. Пры гэтым сказы ідуць пад вялікай сэнсавай нагрузкай, ці, гаворачы на вайсковай мове, пры поўнай "баявой выкладцы". Напрыклад, чытаючы такое, нельга сабе дазволіць прайсціся па ім "галопам па еўропам": "Плодна і бясплодна пражытыя гады спустошылі яго дзень, халастое счапленне бясконца хуткіх імгненняў укручвае яго ў нейкія свае планетарныя касмічныя арэлі, спаражняе і замарожвае яго да абсалютнага нуля, касмічнага холаду і адзіноты, закладзенай, назапашанай ім загадзя, мо яшчэ да нараджэння, начыняе яго хлуснёй, уласнай і хлуснёй продкаў, а таксама і нашчадкаў, жывёльным жахам, што ідзе следам за кожным нованароджаным".

Я не толькі чытаў, а ўчытваўся, перачытваў сказы і іхнія асобныя часткі. І не таму, што нешта было цяжка зразумець, а таму, што цікава. Я спасцігаў унутраны свет пісьменніка, набліжаўся да таго зыходнага пункта, дзе закладвалася ўсё няўлоўнае, што ў будучым падштурхнула аўтара да філасофіі, да адметнага, толькі яму ўласцівага. Рабіў спробы сваёй душой перасяліцца ў яго душу, каб адтуль, разам з ім усвядомлена прамаўляць і сцвярджаць тое непрыкметнае для другіх, што ён бачыць, што надзвычай тонка адчувае і чуе, што ловіць кожнай клетачкай свайго мозга і сэрца.

Здаецца, Віктар Казько пэўны час працаваў геолагам. Не дзіўна, што ён як пісьменнік з веданнем справы свідруе пласты чалавечай сутнасці, пранікае ў самыя глыбінныя з іх.

Віктар Казько паказвае, як няпроста і пакутліва фарміруецца светапогляд чалавека. Сэнс мінулага ўзважваецца на шалях мэтазгоднасці сённяшняга, цана цяперашняга ўдакладняецца празорлівым бачаннем будучага — там павінен быць абсалют ідэйнай чысціні.

Шмат праз што наканавана прайсці Говару Германну Гаўрылавічу, галоўнаму герою рамана (Жору—Юру—Германну). А "...прайшоўшы, павярнуць назад, у мінулае, і ад жадання і немагчымасці што-небудзь перайначыць там — згубіцца, растаць як у тумане, без знаку, без следу. Знаходзячыся адначасова ў сённяшнім і адмаўляючы яму, зноў жа, трохі ў мінулым, у існасці якога яму самому не заўсёды хацелася прызнавацца, у будучым, у якім яму, па ўсім, ужо не суджана быць... Губляцца ў жалобе і нудоце ў мностве ўласных абліччаў, прозвішчаў, шматварыянтнасці сваіх жыццяў, ніводнае з якіх не адбылося і не магло адбыцца так, як яму гэтага хацелася б..."

Аглядваючыся навокал, усведамляючы трагізм маральнага і духоўнага падзення чалавека, Віктар Казько з болем зазначае: "Ці не выдушана, не выціснута з чалавека ўсё да апошняй кроплі чалавечае, пакінута толькі нешта дзеля працягу самога сябе і сабе падобнага, дый тое не ўсім і не кожнаму. Ці не пачала ўжо сама прырода па Дарвіну праводзіць так званую селекцыю. І менавіта з чалавека пачала, таму што ён, здаецца, толькі-толькі адышоўся ад малпы, а прыйшоў немаведама куды..."

Чалавек на працягу свайго гістарычнага шляху ўсё нешта шукаў. І "колькі магіл, крыві і касцей на гэтым шляху. Аблічча сваё чалавечае страціў, сумленне выпаліў і зняверыўся, азвярэў. А ўсё ад нецярпення, сквапнасці, папускання ў сабе людскага, чалавечага: чаго баяцца, чаго стрымлівацца, вось знайду, супакоюся — тады і зраблюся зноў чалавекам. І гонячыся за самім сабой, шукаючы самога сябе, душыў, заціскаў і нішчыў усё чалавечае ў сабе і сабе падобных — да лепшага часу, да светлага будучага ўсяго чалавецтва. Да тугі, нуды сусветнай, касмічнай, неахопнай віны па згубленым сумленні, страчанай веры, здрадженым каханні. Усім тым, з чаго, пэўна, і складзены чалавек, што наканавана яму на самым пачатку. Але ён не здолеў прыдумаць нічога лепшага, як ПЕРАТВАРЫЦЦА Ў ПРАХ. І ТЫМ СВАІМ ПРАХАМ ЗАБРУДЗІЦЬ, АТРУЦІЦЬ УСЁ НАВОКАЛ" (выдзелена мной. — **А. Н.**)

Трагізм чалавечага быцця, асабліва ў XX стагоддзі, быў у пэўнай меры абумоўлены яшчэ агрэсіўнасцю і ваяўнічасцю навукі. Ды і "...усё навокал было ваяўнічым: атэізм, мастацтва, час і людзі... Усё было пабудавана на вымушанасці нейкага скачка, рыўка, разбурэння і адмаўлення".

Ці не ў гэтых словах высвечваецца адна з галоўных думак твора: "І прырода, і вянец яе тварэння садзейнічалі часам толькі стварэнню праху. Той прах і вывучалі, па ім скакалі ад радасці пазнання, ваявалі з сабой і сабе падобнымі. Самі ператварыліся ў прах".

Неяк разгаварыўся са сваёй аднакашніцай пра паэтаў і пісьменнікаў. Яна даводзіла, што ад соцень, а то і тысяч людзей многае з духоўнага аднімаецца і аддаецца аднаму чалавеку. І калі творцы не шчыруюць, яны здзяйсняюць злачынства перад абдзеленымі талентам, ці, як гавораць, Божай іскрай. Паэты і пісьменнікі, калі ім адпушчана небам больш, чым астатнім, проста абавязаны працаваць і ствараць свае творы, вартыя суродзічаў, суайчыннікаў, сузямлян. Ды і кожны "смяротны", пакорпаўшыся ў спратах-тайніках сваёй душы, можа шмат чаго добрага і слаўнага падарыць людзям, пакуль ён ходзіць пад сонцам. І гэта ведае і разумее Віктар Казько: "А самы вялікі грэх чалавека — ...панесці з сабой у сырую зямлю, у магілу, ні з кім не падзяліўшыся, тое, што ўжо ад нараджэння дадзена табе не толькі для сябе, але і для іншых, што болем, крыкам і стогнам рвецца вонкі, патрабуе вызвалення. ГРЭХ ЧАЛАВЕКУ ПАКІДАЦЬ ЗЯМЛЮ, НЕ РАСТРАЦІЎШЫ СЯБЕ" (выдзелена мной. — **А. Н.**)

Аўтар заклікае нас "...выдаткоўваць, дзяліцца з іншымі тым, што... дадзена чалавеку першапачаткова, закладзена менавіта самой прыродай, як іскра, удыхнута Тварцом — маці-зямлёй, нябёсамі, сонцам".

Нельга абысці ўвагай цяжкую гаворку Гаўрылы з Германнам, якая адбылася ноччу на балоце — менавіта на тым месцы, дзе ваенным часам з'явіўся на свет сам... Германн. Ён пра гэта ўсё жыццё не ведаў, таму так прагнуў пачуць праўду, якой бы яна не была страшнай: хто ён і адкуль. На што Гаўрыла адказаў: "Але яе проста так не пачуеш. Яе яшчэ і адчуваць, разумець трэба. Яна больш схільная маўчаць і тым аказваць сябе".

Мы штохвілінна ходзім па мяжы, што аддзяляе жыццё ад смерці. І гэта ісціна яшчэ раз пацвярджаецца тым, як, пры якіх абставінах Гаўрылу было наканавана — менавіта наканавана — прымаць роды на тым месцы, дзе яны вялі гаворку. Жанчына была мёртвая, яму трэба было аддзяліць жывое ад памерлага, прытым зрабіць гэта зубамі, перакусіць пупавіну, значыць, адчуць ротам, языком пах і смак жыцця і смерці.

У гэты час па-над голым лазовым кустом з'явілася птушка, што вельмі сімвалічна. Яна кружыла, трапятала крылцамі, жаласна ціўкала. Птушка пачала падаць каменем на купіну, дзе ляжала мёртвая жанчына, дакранулася лапкамі да Гаўрылавай галавы. І ён зразумеў, што гэта не птушка, а душа памерлай жанчыны. Благаслаўлёная Богам, яна, вярнуўшыся з раю, перасцерагае Гаўрылу, пратоптвае дарогу туды і яму. І тут ісціна з самых высокіх: РАТУЮЧЫ ЧУЖУЮ ДУШУ, АДНАЧАСОВА ВЫРАТОЎВАЕШ І СВАЮ.

Ад Гаўрылы Германн даведваецца, што яго роднага бацьку арыштавалі толькі за тое, што ён калгасную карову абазваў нецэнзурным словам. Дакладней, безумоўна, будзе, што яго ўлічылі ў крамольных думках, накіраваных супраць калгаснага ладу.

Гаўрыла, як ён сам гаварыў, блэндаючыся па архівах, каб даведацца пра лёс бацькі Германна, запомніў да апошняга слоўца: "Скончался от сердечной недостаточности в пятьдесят четвертом году. Прах не востребован. Похоронен..."

Вось і адказ, чаму раман называецца "Бунт незапатрабанага праху". А колькі такіх незапатрабаваных прахаў у розных канцах беларускай зямлі!

Раман Віктара Казько "Бунт незапатрабаванага праху" — гэта з'ява ў беларускай літаратуры. Твор, з аднаго боку, вельмі грунтоўны, многа ў ім пазнавальнага, а з другога — глыбока філасофскі. На маю думку, ён не для масавага чытача. Ён — хутчэй для пэўнага кола чытачоў і ў першую чаргу для інтэлектуалаў.

●

Неяк ксёндз Чэслаў, які нёс службу ў нашым Камайскім касцёле, падарыў мне Біблію. Кніга выбранага "Зярняты з каласоў" Рамана Тармолы-Мірскага і сваім фарматам, і колерам вокладкі, і нават колькасцю старонак падобна на тое выданне Бібліі. Ды і сам аўтар, фотаздымак якога змешчаны ў кнізе, сваім абліччам нагадвае святара.

Тым больш прыемна ведаць, што яго вершы напоўнены і зямным, і нябесным святлом, у іх адчуваецца прысутнасць яго светлай душы.

*Душа — гэта неба высокае.*
*Чыстае альбо з хмарамі.*
*І зоркі яго далёкія*
*Вечна паблiскваюць марамі.*

Вершы Рамана Тармолы-Мірскага нясуць у сабе глыбокі сэнс і вялікую праўду жыцця.

*Жыццё чалавека — не вечнасць.*
*І, можа, якраз да таго*
*Ягоная чалавечнасць*
*Перажыве яго.*

Вершы паэта трэба чытаць не спяшаючыся, смакуючы іх, як з асалодай смакуюцца дарагія віны шматгадовай вытрымкі. Некаторыя вершы можна чытаць і перад дарогай, і перад сном, як малітвы. Ацэньваючы набыткі паэта, толькі і магу сказаць:

*Мудра, светла, мора пачуцця,*
*Што ні верш — то астравок жыцця.*

●

Амаль усяго прачытаў Леаніда Галубовіча, а тое-сёе з яго апошнім часам і перачытаў. Пра ягоную творчасць у звязцы з творчасцю Леаніда Дранько-Майсюка я ўжо пісаў у артыкуле "Спасціжэнне зямлі і нябёсаў" ("Роднае слова", № 10, 1999). Хачу толькі некалькі радкоў узнавіць у памяці з той публікацыі: "Паэзія Леаніда Галубовіча і Леаніда Дранько-Майсюка — прыклад высокага пісьменства, неацэнны скарб нашай айчыннай літаратуры. Яны і падобныя, і ў той жа час розныя. Л. Галубовіч — тонкі назіральнік, адметны творца. Л. Дранько-Майсюк — чалавек з уражлівай душой, сатканай з зорнага святла. Бог паслаў іх у свет з пачэснай і адказнай місіяй — апець хараство і раскрыць як мага паўней сутнасць жанчыны і веліч маці-Радзімы. І давер Усявышняга яны апраўдваюць".

Неяк само сабой атрымалася, што мая ўвага засярodзілася на двух радках Л. Галубовіча:

*Хлеб трэба сеяць, мужыкі,*
*Без хлеба — дрэнь палітыка.*

Гляджу — і Вера Палтаран іх ухваліла. І вось чую, як у адной з літаратурных радыёперадач Васіль Макарэвіч гаворыць, што, ухваліўшы гэтыя радкі, паэту зрабілі мядзведжую паслугу, бо гэта не паэзія, а проста кідкі лозунг на патрэбу дня. І ўсё ж — як павярнуць...

●

Прачытаўшы кнігу Сяргея Рублеўскага "Апостраф", пасвятлеў душой. Не знаю чаму,

але са школьнага курса рускай літаратуры прыпомнілася: "Вот это, батенька, художник! Кого в Европе можно поставить рядом с ним? Некого", — и потирая руки, засмеялся довольный". А калі ўсур'ёз гаварыць, то пасля знаёмства з "Тэкстамі аб праявах быцця" хочацца да хрусту ў суставах падняць угору рукі і, развёўшы іх у бакі, з асалодай выдыхнуць: "*А ўсё-ткі жыццё цудоўнае, хочацца жыць!*"

Як толькі ў самым пачатку кнігі напаткалася слова "татулька", адразу зразумеў: аўтар — свой чалавек, нашай вясковай гадоўлі. А якая мова! Словы на нітку думак нанізваюцца, як зерне, адборныя, свежыя, жывыя, сакавітыя. Чытаеш — нібы хрумстаеш крамяны яблык, што як у Віталя Гарановіча"... халадзее ў роце і набліжае да вясны мяне".

Мы ведаем пра слоўнік Даля. "Апостраф" — гэта своеасаблівы слоўнік Сяргея Рублеўскага. Вось, калі ласка:

**Апостраф** — беларуская паўза ў сусветным Логасе.

**Татулька** — гэта водсвет маці.

**Бацькава цела** — заўчасная ява сыноўскай будучыні.

**Рыбалка** — гэта напятая струна неўтаймоўных жарсцяў, якая трымціць пад самым сэрцам.

**Жытнёвае поле** — тло, на якім сыходзяцца ў рашучым двубоі чорныя сімвалы зла і сонечныя — дабрыні.

**Дзятліна** — прахалода згусцелай зеляніны, якая схавала кроплі спакуслівай расы падыспадам белай квецені.

Сяргей Рублеўскі — глыбокі філосаф. Засяродзьцеся толькі на пастулатах з раздзелаў "Апострафа" — "Цвік" і "Гуканне Евы". Да прыкладу, такія: "Як цўканне сініцы працінае прастору, цвік уваходзіць у скрыпучы асяродак дрэва, расхіляючы дзюбкай цемру"; "Звыклы да цяжкіх udараў лёсу, цвік суцяшае сябе тым, што мае на прыкмеце хоць якое выйсце", "Сусвет сшыты суровай ніткай нашай любові", "Лязо часу не мае літасці. Толькі вёрткія птушкі радасці недасягальныя яго гвалту. Птушкі з нашымі вачыма, у якіх застыў адбітак апошняй асалоды, адлятаюць у вечны вырай".

Сяргей Рублеўскі — яшчэ і гумарыст, і гумарыст — тонкі, назіральны, які ведае разумную меру. Вазьміце хаця б апавяданне "Канвергенцыя". Адразу настройваешся на цікавае чытанне, калі з першага радка спатыкаешся з "рэдактарам ФАЙНАЙ газеты". І ў той жа час рэдактар "файнай" газеты задаўся сур'ёзным пытаннем: а што такое камунізм? І ў ягоным разважанні цвярозыя высновы: "Абяцанне раю на зямлі. Не мара, але абяцанне, якое выключае нават маленькую надзею на духоўнае жыццё пасля смерці. Няма надзеі трапіць у рай — няма і веры, грашы, колькі хочаш. Ды і граху няма. Душа закладзена д'яблу за матэрыяльныя даброты. Яна абгаблявана, падагнана пад стандарты, ва ўсіх аднолькавая, скіраваная адным натхненнем і адным "правільным" прапісаным пачуццём".

Раздзел кнігі — "Кахайся, братка, у першаквецці!" — гэта ўжо сапраўдная, *высокая паэзія. Чытаеш — і хочацца* ўсклікнуць: "Брава!"

"Прыгажэй за жанчыну бывае толькі душа", — С. Рублеўскі непахісны ў сваім сцвярджэнні. І шмат што адкрываецца яму ў жанчыне, чаго, як правіла, не бачаць многія. А што ж бачыць наш "анатам" з "лірычным ухілам" душы?

У жаночых нагах — прыгажосць спакусы і даверу. У жаночых руках — працяг усё таго ж вытанчанага ачмурэння, што і ў нагах. У жаночых грудзях — цеплыню птушынага гняздзечка. У жаночых вачах — пужлівую паняверку. У жаночым носе — упартасць нацыянальнага характару.

Мудра пададзены вобраз Рыгора Барадуліна: "...ён жыве з вечнай бояззю спазніцца, не паспець выдыхнуць на паперу запаветнае".

Сяргей Рублеўскі на Лепельшчыне, піша свае творы ў бацькавай хаце. Маці займаецца хатнімі справамі. Перагаворваюцца. І між *іншага матулін голас: "А што ты там пішаш?* Пісьмо каму?" — "Так, пішу сабе", — мармыча ў адказ сын. І я перанёсся ў далёкія гады, у родную сваю хату, калі яшчэ была жывая мама. Так можа запытацца толькі тая маці, якой Бог наканаваў не столькі каля кніг завіхацца, колькі шчыраваць на зямельцы-карміліцы. Сяргей Рублеўскі чытае маці вушацкія паэмы Рыгора Барадуліна (дзядзькі Рыгора). "Аняго ж..." — толькі і сказала. Не шмат. А, можа, адным *словам і ўсё сказала, нават і тое, што рада* за земляка, які ў пісьменніцкім сусвеце гарыць яркай зоркай. Як і загарэўся зорачкай на літаратурным небасхіле яе сын.

...Аняго ж, Сяргей Васільевіч, пішыце, дарыце людзям радасць!

**Аркадзь НАФРАНОВІЧ**

# Марахода прыгоды — для гаворкі нагода

На душы хораша, на сэрцы ўсцешна, калі чытаеш творы для дзяцей, напісаныя Уладзімірам Мазго. Вядома, ён добра зарэкамендаваў сябе і як "дарослы" паэт, выдаўшы кнігі "Пад спеў крыніц", "Вершаліна", "Марафон", а шмат якія яго вершы, пакладзеныя на музыку, сталі цудоўнымі песнямі, а многія з гэтых песняў адразу ператварыліся ў хіты і гучаць у выкананні Анатоля Ярмоленкі і Алесі, Ядвігі Паплаўскай і Аляксандра Ціхановіча, Іны Афанасьевай і Якава Навуменкі, ансамбляў "Бясёда" і "Сябры"... Аднак і паэтычная дзялянка, адрасаваная хлопчыкам і дзяўчынкам, ва У. Мазго немалая. Якую кнігу ні возьмеш, абавязкова напаткаеш яркія, цікавыя творы. Ёсць яны і ў зборніку "Калі спрачаюцца маланкі", якім ён дэбютаваў як дзіцячы паэт. Нямала іх і ў кнізе "Суседзі па сусвеце". А адгорнеш "Смехапад", і сапраўды ад смеху хоць падай — так У. Мазго піша арыгінальна, свежа.

І вось чарговая яго дзіцячая кніга "Прыгоды марахода", што пабачыла свет у выдавецтве "Юнацтва". Атрымалася аб'ёмнай, больш як дзесяць уліковa-выдавецкіх аркушаў. Дый і "Смехапад" таксама быў важкім, а паміж часам іх з'яўлення прамежак у нейкія два з лішнім гады. Сяго-таго гэта можа насцярожыць (зразумела, не саміх маленькіх чытачоў). Ці не завельмі актыўнічае аўтар? Магчыма, падобная аператыўнасць сказваецца на мастацкіх вартасцях твораў?

Скажу адразу: і "Смехапад", і "Прыгоды марахода" — кнігі, якія робяць гонар дзіцячай літаратуры. Не часта апошнім часам сустракаеш выданні, у якіх аўтар не толькі дасягае майстэрства, што, безумоўна, немалаважна, але імкнецца разнастаіць творы як у тэматычных, так і жанравых адносінах. А яшчэ належным чынам іх падае кампазіцыйна, а ў выніку пад адной вокладкай сабраны як бы некалькі кніг. У такім разе і даволі вялікі аб'ём апраўданы: кнігу можна чытаць на працягу значнага прамежку часу, як бы пераходзячы ад зборніка да зборніка.

Падобны прынцып падачы твораў асабліва адчувальны ў "Прыгодах марахода". Паўплывала на гэта, вядома, ужо тое, што У. Мазго кнігу вельмі разнастаіў жанрава. У ёй знайшлося месца і казкам, і вершам, і загадкам. А яшчэ трапілі ў "Прыгоды..." песні, скорагаворкі, пацешкі... Каб лепей падаць чытачу ўсё гэтае багацце, выпрацавана і адпаведная форма. Творы не проста вылучаюцца ў асобныя раздзелы. Ужо ў назве гэтых раздзелаў закладваецца аўтарская задумка — зрабіць так, каб патэнцыяльны чытач зацікавіўся, а што за сустрэча чакае яго, што прынясе яна, чым парадуе. А дзеля гэтага мала знайсці пэўную назву, няхай і дасканалую. Куды лепш, калі яна разгорнутая. І ужо зусім цудоўна — зарыфмаваная, у выглядзе невялікага верша. А падобным чынам пададзены першы ўжо раздзел:

*Для розуму зарадка —*
*У вершах і загадках.*
*Мазгуйце ўсе да аднаго:*
*Стварыў яе для вас Мазго.*

Спачатку ідзе "Загадкавая азбука". Што ні літара, дык на яе — свая загадка. Адгадку знайсці не так і складана. І таму, што яна рыфмуецца з адным з радкоў загадкі. І таму, што ў дужках тут жа прыводзіцца. Аднак не ў малой ступені і дзякуючы малюнкам Уладзіміра Пашчасцева.

Дарэчы, пра афармленне. Каб больш не звяртацца да гэтага, скажу, што У. Пашчасцеў добра справіўся з пастаўленай перад ім задачай. Можна гаварыць яшчэ і пра ўдалы свайго роду творчы дуэт — Мазго-Пашчасцеў. Мастак не проста праілюстраваў тыя ці іншыя творы, а глыбока адчуў тое, што хацеў сказаць і выказаць паэт. Адсюль таксама вытокі кампазіцыйнай цэласнасці кнігі, яе непаўторнасці і завершанасці.

У першы ж раздзел трапілі і шарады. Іх так шмат, што падраздзел называецца "Парад шарад". А "на парадзе" што ні шарада, дык абавязкова магчымасць для дзіцяці падумаць-пагадаць, шукаючы адказ, бо гэты жанр куды больш, чым загадка, спрыяе развіццю фантазіі, мыслення. А тое, што адказы знаходзяцца ў канцы кожнага твора, дапамагае лепш запомніць пэўнае слова, як, для прыкладу, у гэтай шарадзе:




*Слова першае —*
*Спрадвек*
*Ён бяспраўны*
*чалавек.*

*Да яго*
*Дадаць захочам*
*Слова*
*З іменем*
*жаночым.*

А ў гэтых радках і трэба шукаць адказ:

*Суму*
*Ты назваць*
*гатоў:*
*Дрэва*
*З гронкамі*
*пладоў?..*

Атрымліваецца слова "рабіна", а калі яго раскласці на два, то гэта выглядае наступным чынам: "Раб+Іна".

Дасціпнымі атрымаліся ва У. Мазго і амонімы, а сакрэт іх, як вядома, "такі: хоць цёзкі, а не сваякі". Гэтыя творы змешчаны ў падраздзеле "Дагонім мы амонімы". А наступны —таксама прастор для фантазіі, выдумкі, а яшчэ для трэніровак у хуткім і правільным вымаўленні, бо творы — не абы-якія, а такія, што, каб прамовіць, асабліва хутка, трэба пастарацца. Ды не пастарацца нельга, бо паэт адразу, самой назвай раздзела, заінтрыгоўвае:

*Ехалі з горкі*
*Скорагаворкі,*
*А за імі пешкі*
*Тупалі пацешкі...*

Наступныя ж раздзелы — няменш арыгінальныя: "Ягады з грыбамі // Просяцца ў рот самі", "Крочым родным краем — // Фарбы ўсе збіраем", "З Італьянскага альбома: // У сяброў, нібыта дома", "Кожны з нас сюды імчыцца, // Каб да спорту далучыцца". А на завяршэнне —

*Завітала у госці казка —*
*Сустракайце, калі ласка!*

Пра кожны з названых раздзелаў можна сказаць нямала ўхвальных слоў, бо напісаны яны цікава і, як заўсёды ва У. Мазго, займальна. Але хацелася б падрабязней спыніцца на апошнім, і на гэта дзве важныя прычыны. Першая: жанр казкі ў сучасных дзяцей выклікае гэткую ж цікавасць, як і выклікаў у іх бацькоў, дзядоў. І гэта насуперак таму, што ўжо некалькі дзесяткаў гадоў назад былі перасцярогі, што ў час пакарэння касмічных прастораў казка, як жанр, аджыве. Як бачым, песімісты памыліліся. І што цікава — казка не проста аказалася жывучай. Дзеткі-акселераты з аднолькавым інтэрэсам успрымаюць як казкі з традыцыйнымі персанажамі (як з той жа Бабай Ягой), так і творы, пабудаваныя на сучасным матэрыяле, а адпаведна і з новымі героямі. Але, не будзем забываць, ёсць казкі фальклорныя, тыя, што пішуцца на аснове пэўных фальклорных сюжэтаў, а таксама ўласна аўтарскія казкі. У. Мазго працуе якраз у апошнім накірунку, а наколькі плённа гэта робіць, упэўнівае казка, якая дала назву ўсёй кнізе.

"Прыгоды марахода" — яскравы прыклад таму, як аўтар, дзякуючы багатай фантазіі, можа напісаць твор, прыцягвае ўвагу нават дарослага чытача, а што ў такім разе казаць пра хлопчыкаў і дзяўчынак? Каб маё права, я абавязкова ўключыў бы гэты твор у праграму пазашкольнага чытання для малодшых класаў, а таксама рэкамендаваў бы знаёміцца з казкай У. Мазго ў дзіцячых садках. Яна ж напісана так, што з поспехам можа выкарыстоўвацца ў час розных мерапрыемстваў, тым больш, што лёгка чытаецца і запамінаецца. Дый сама гісторыя пра ката-марахода — з тых, якія не пакідаюць дзяцей абыякавымі. Ужо нават тое, што У. Мазго выбраў у якасці галоўнага героя менавіта гэтага, а не нейкага іншага, сведчыць аб тым, што ён добра ведае псіхалогію маленькіх.

Кот — даўні знаёмца хлопчыкаў і дзяўчынак. А тут жа не проста кот, а мараход. Хіба не цікава даведацца пра яго прыгоды? А сітуацыі, у якія трапляе герой У. Мазго, вымагаюць і смеласці, і знаходлівасці, і стойкасці. І з кожнай з іх ён выходзіць з гонарам. Як відаць ("Замест эпілога"), чакаецца працяг твора:

*Яшчэ нямала*
*Меў прыгод*
*У акіяне*
*Мараход.*

*Але пра іншыя*
*Якраз*
*Вам раскажу*
*Ў наступны раз.*

Сярод твораў, змешчаных у кнізе, і песня "Вочы дзяцей", якая пачынаецца так:

*Заглядаю часта ім у вочы —*
*І на сэрцы робіцца лягчэй.*
*І халодны сум асенняй ночы*
*Растае ад шчырасці вачэй*
*Цёплых, незахмараных, дзіцячых.*
*Быццам у чароўным светлым сне.*
*Каб даўно забыты міг удачы*
*Зноў вярнуўся сёння да мяне.*

Гэты позірк паэта ў дзіцячыя вочы — вельмі ўважлівы, па-бацькоўску клапатлівы, напоўнены любоўю, разуменнем, спагадай. Позірк добрага чалавека і таленавітага паэта. І ў гэтым лішні раз упэўніваешся, перачытваючы кнігу "Прыгоды марахода", што засведчыла аб далейшым майстэрстве аўтара і аб тым, што яго творчасць — яркая старонка сучаснай беларускай дзіцячай літаратуры.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

## “Боскі вецер правінцый”

— такую назву мае новы зборнік вершаў і эсэ паэта з Баранавічаў Аляксея Белага. Пра што ён, чытаем на чацвёртай старонцы кніжкі: “Чацвёртая кніга вершаў Аляксея Белага — пра каханне, пра лёс чалавечы, пра наша нялёгкае жыццё. Аўтар не дае ніякіх рэкамендацый і парад. Ён — сведка і проста канстатуе факты...”




Адзін з лепшых вершаў кнігі “Развітанне з возерам”:

*Невыказная тут да Радзімы любоў,*
*Бо няма нам у гэтым патрэбы.*
*Зачапіліся хмары за кроны дубоў,*
*Пачарнела над Свіцяззю неба.*

*Пасумуем, што непагадзь*
*спляжыць траву,*
*Слова шчырае скажам суседзям.*
*Перад Памяццю схілім на міг галаву*
*І — ад'едзем.*

“Боскі вецер правінцыі” выдадзены ў Брэсце “Вежай”.

**Міхась КАЛІНОЎСКІ,**
г. Баранавічы

## Першае прачытанне

Як вядома, ліпень — месяц заканчэння сезона ў тэатрах, які, як правіла, завяршаюць звонкія прэм'еры ды імпрэзы. Вось і чарговы сезон у Нацыянальным Акадэмічным тэатры імя Горкага закончыўся 24 ліпеня прэм'ерай спектакля “Сон на кургане” паводле аднайменнай драматычнай паэмы Янкі Купалы. Рэжысёр-пастаноўшчык спектакля народны артыст Рэспублікі Беларусь Барыс Луцэнка даўно вядомы публіцы як знаны купалазнаўца і папулярызатар яго спадчыны ў тэатры. Усім нам памятныя яго пастаноўка і фільм паводле п'есы “Раскіданае гняздо”. Зараз новы купалаўскі праект, які адразу абяцае стаць “хітом” новага тэатральнага сезона ў сталіцы, хаця б таму, што ход, прапанаваны рэжысёрам — тэатр-вар'етэ, досыць нешараговы ў падыходзе да падобнай літаратуры. Як кажа сам Б. Луцэнка: “Для мяне паэма “Сон на кургане” — самы містычны твор Купалы. Паглядзіце, калі і дзе ён быў напісаны — Пецярбург пачатку 20 стагоддзя, эпоха росквіту еўрпейскага мадэрна! Агульныя матывы з Купалам можна знайсці і ў блокаўскай “Незнаёмцы”.

Разам з рэжысёрам у гэтую “містычную вандроўку” адправіліся і паэт Леанід Дранько-Майсюк, які напісаў інсцэніроўку, кампазітар Аляксандр Еранькоў, і моладзь Горкаўскага тэатра — студэнты 2-га курса Акадэміі мастацтваў (майстэрня У. Мішанчука), на якіх, па сутнасці, і быў пастаўлены гэты, у прамым сэнсе, эксперыментальны спектакль на Малой сцэне тэатра. Як вядома, дагэтуль выбітны твор песняра яшчэ нідзе не ставіўся. І ў гэтым выпадку мы будзем сведкамі першага тэатральнага прачытання “Сна на кургане”.

**Ірма КАНЁК**

ПАЭЗІЯ

Юрась СВІРКА



# Памяць мая не астыла

## Тым грозным чэрвенем было...

*Гулі той ноччу самалёты*
*На першым месяцы вайны.*
*Хто разбярэцца, як магло так,*
*Што памыліліся яны.*

*Ішлі, каб перад зграяй чорнай*
*Бальшак на Лепель разбамбіць.*
*Лагодзіў сэрцы гул маторны.*
*Яго і сёння не забыць.*

*Салодка пахла поле хлебам.*
*Прадбачыўся багаты год.*
*Над вёскай ноччу наша неба*
*Непагражальна: свой палёт.*

*Ход ворагу не перакрылі:*
*На танках прарываўся спрэс.*
*І бомбы не дарогу ўзрылі,*
*А ўздоўж яе зляжылі лес.*

*Па брукаванцы праз балота*
*Праскочыў вораг уначы.*
*А так хацелася пілотам*
*Тады сваім дапамагчы.*

*Хто памыліцца іх прыспешыў:*
*Нянавісць, ноч ці вышыня...*
*Удар, што бальшаку належаў*
*Лес моўчкі на сябе прыняў.*

*Той чэрвень, грозны, абгарэлы,*
*Мая зноў памяць дастае.*
*Зямлі ад ворага балела,*
*А тут жа... родныя, свае.*

## Дарога

*...І на вайну вяла.*
*І чула ўсхліпы, слёзы.*
*З вайны не ўсіх сустрэла. І бярозы*
*Над ёй, уздоўж гасцінца, пасівелі.*
*І ў шуме іх не толькі плач мяцеліц...*

## Разышліся ціха

*Хмары высака плылі*
*Сваім вечным шляхам.*
*Іх і выстралам з зямлі*
*Не дастаць ніякім.*

*Раз'яднаныя, яны*
*Не хацелі, мусіць,*
*Зліцца там, у вышыні:*
*Дождж і не цярусіць.*

*Так вайной, дзе іншы гром,*
*Войскі не стралялі.*
*А праходзілі цішком,*
*Бойку не ўсчыналі...*

*Гулу-грому не чуваць*
*І маланак ліха.*
*Сілы роўныя, відаць:*
*Разышліся ціха.*

## Пасляблакадная балада

*На крыжы ні імені, ні даты.*
*Пясчаная магіла пры ляску.*
*Суніцамі пазначанае “Тата”*
*Крывавіла балюча на пяску...*

## Хочацца верыць

*Яна па начах урываецца ў сны*
*Змаганцаў Вялікай Айчыннай.*
*І толькі з апошнімі дзецьмі вайны*
*Забыцца, адмерці злачыннай.*

*Ніхто не ўстрывожыцца ў свеце старым,*
*Ён, грозны, не вернецца ў памяць.*
*На ёй толькі дзеці ваенныя пары*
*Свой крыж, як праклецце, паставяць.*

## Міхась Стральцоў

*На здымку ён між дзвюх бяроз.*
*Як блізкіх, абхапіў рукамі.*
*Нібы расчуліўся да слёз:*
*“Мае вы родныя, я з вамі”.*

*Так браў пад рукі дзвюх дачок.*
*І беглі ў радасці хвілінкі.*
*“Ад вас я, дзеткі, ні на крок.*
*Я з вамі, вы мае крывінкі”.*

*А верныя... Ў якім святле?*
*Не праясніць банальным сказам.*
*“Мае вы, мілыя, але...*
*Але пра вас я іншым разам”.*

## З Паўночных кладоў

*Тут думаюць маўкліва з нежывымі.*
*Тут у паклоне капялюш здымі.*
*Даўно ўжо вы абжыты маімі —*
*І роднымі, і блізкімі — людзьмі.*

*У вас свая, магічная, аснова.*
*Сюды адкрыты доступ для душы...*
*Сярод радоў крыжастых, мармуровых*
*Праглядваюся й я, тут не чужы.*

## Краса і Сіла

*Два словы. Толькі мімаходзь*
*Не раз'ядноўвайце суладнасць.*
*Краса і Сіла — прыгажосць.*
*Мне ў іх не бачыцца палярнасць.*

*Даўно хацелася сказаць,*
*Ды толькі моцы не хапіла,*
*Што прыгажосць — такая сіла,*
*Якую нельга разбураць.*

*Краса ў гэтым свеце ёсць,*
*Яна мне свеціцца крыштальнай.*
*І Сіле трэба Прыгажосць,*
*Каб не была яна знішчальнай.*

## Юрмальскі клён

*У Юрмале клён пілуюць,*
*Піла неахвотна рэжа.*
*А звон*
*ад яго мілуе*
*Слых усяго ўзбярэжжа.*

*Зрэзалі... Гэта ж не гора,*
*Каб плакаць жывым павальна.*
*Але ж раве па ім мора,*
*І стогне бор спачувальна.*

*Не бараніўся сукамі,*
*Засохнуў.*
*Агню ён належыць.*
*Ляжаць чурбаны круглякамі*
*З меткамі прапразяў свежых.*

*Мора паблісквае сінню,*
*Нібы запрашае:*
*“Пагляньце,*
*Дзюнкамі пілавінне*
*Гурбіцца на асфальце”,*

*Шкадуюць тут кожнае дрэўца,*
*Саступяць яму дарогу.*
*Мне нават*
*такое здаецца:*
*Шануюць яго, як малога.*

●

*Ах, рысак, быстраногі рысак,*
*І з якой так імчацца нагоды?*
*Запыліў пад нагамі бальшак,*
*Як вярнуў кавалеры годы.*

*Быццам дотык*
*ад куляў: пок-пок.*
*Капыты абуджаюць дарогу.*
*І пад пошчак*
*пылок, як дымок,*
*У канаву спаўзае з трывогай.*

*Завіхурыўся пылу клубок —*
*як пранеслася*
*грозная сіла.*
*І агністай маланкі клінок*
*Мільгануў язычком неастылым.*

*Праляцеў не Канёк-Гарбунок,*
*А рысак, адчуваючы гетры:*
*З храпаў — пары гарачай дымок,*
*Нават грыва — абрыўкамі ветру.*

*Быццам чую з далёкіх дарог,*
*Па якіх не гудзелі маторы,*
*Быццам рэха — какох ды какох, —*
*Што падкоўвае шлях і прастору.*

●

*Здаецца,*
*Што мы пачалі прывыкаць.*
*Што можна нам жыць*
*І без роднага слова:*
*Што можна сваё —*
*Дарагое сказаць*
*І перайшоўшы*
*На блізкую мову.*

*Няўжо будзем*
*Мову сваю памінаць,*
*Няўжо і пагодзімся*
*З лёсам латыні?..*
*“Самазабойцы!” —*
*Вякі пракрычаць.*
*І сэрца ад жаху змярцвелага*
*Стыне.*

## Як дух агню

*Яны ўсе тленныя, дымок,*
*Ружовенькага жару цельца.*
*А застанецца папялок*
*І цеплыня агню-цяпельца.*

*І попел зляжыцца ў цішы,*
*Зямелька прыхіне жывая.*
*А дух агню, як дух душы,*
*Што лёгка ў неба адлятае.*

## З-пад райскай яблынькі

*– Так не глядзі*
*ў мой сад, Адаме:*
*Я не твая, я не твая.*
*Тваёй пажалюся я маме.*
*Даўно не райская ўжо я.*

*– Шкада, што не мая ты, Ева.*
*– І ты, Адам, не мой Адам.*
*Той, райскі, яблык я ўжо з'ела.*
*А паспытаць свайго... не дам.*

## Былое азерца

*На бераг напаўзалі хвалі*
*Віры былі ля чаратоў.*
*Тут шчупакоў, ліняў цягалі.*
*Срабрыстых плотак і ляшчоў...*

*Усохла цінная пярына.*
*І падалася ўглыб вада.*
*Праз чарацінку азярына*
*Не можа выдыхнуць: “Бяда!”*



ПРОЗА

# СІНДРОМ

АПАВЯДАННЕ

Валянціна КАДЗЕТАВА



"Ты ўсё яшчэ адна, Зоечка?" "А наша Зоя, відаць, карабель з пунсовымі ветразямі чакае..." "Калі ж нарэшце Зоя нас на вяселле запросіць?"

"Адна..." "Чакаю..." "Запрашу як-небудзь..."

Надакучыла! Няўжо яны не адчуваюць, што яе ніколечкі не ўводзяць у зман ні добразычлівасць іхніх твараў, ні цеплыня позіркаў і галасоў?

Куды б падзеліся тыя добразычлівасць і цеплыня, калі б Зоя сказала, што яна выходзіць... не, ужо выйшла замуж за дырэктара камерцыйнай фірмы і збіраецца ў вясельнае падарожжа на Багамы? Не, такога Зоя ніколі не скажа, бо, відаць, ніколі — увогуле ніколі — замуж не пойдзе. Не таму, што "Ніхто не бярэ". І не таму, што яна якая-небудзь зацятая служка Весты ці сучасная амазонка. Проста яна НЕ МОЖА. Не можа, хоць той час, калі сэрца яе кіпела лютай нянавісцю да ўсіх "вылюдкаў, што завуцца мужчынамі", мінуў. Толькі зрэдку прыйдзе да яе ў сне ТОЕ, і тады яна прачынаецца і плача, але ўжо не ад жаху, а ад пачуццяў уласнай бездапаможнасці. О, каб яна магла! Яна б... Сярэдневяковыя інквізітары здрыгануліся б ад відовішча кары, якую прыдумала Зоя.

Аднойчы яна знарок паехала ў ТОЙ горад і цэлы дзень блукала па яго вуліцах, хоць разумела, што выглядае смешнай, як некалі ў дзяцінстве, калі спрабавала адшукаць згубленыя ў лузе дваццаць капеек, адшкадаваных ёй маці на індыйскі фільм...

Прайшло дзесяць гадоў. Амаль усе яе сяброўкі маюць сем'і, а яна ўсё ніяк не можа пазбавіцца свайго "сіндрому". Была ў Зоі думка ўзяць сабе немаўлятка з дома дзіцяці, але збаялася: а калі атрымаецца так, як у Прыгоцкіх? Тыя, страціўшы ўсякую надзею займець уласнае дзіця, прыгледзелі сабе дзяўчынку-сірату. Спачатку нарадавацца не маглі: "Разумніца наша дачушка! Наша Алеська-прыгажуня". А цяпер слязьмі горкімі абліваюцца: дачушцы толькі-толькі чатырнаццаць, а ўжо п'е, як сама кажа, "усё, што гарыць", і спіць "з усім, што варушыцца". А ў дадатак яшчэ і "калёсы" нейкія глытае.

Што ўжо бедалагі Прыгоцкія ні рабілі, каб адумалася "дзіцятка": і да ўрачоў яе, і да псіхолагаў, і да педагогаў. А тыя толькі рукамі разводзяць ды мармычуць пра нейкую "генную антысацыяльнасць".

І адкуль у краіне, дзе больш за паўвека няма ні войнаў, ні эпідэмій, столькі дзяцей-сірот? Чые гэта дзеці? Вось-вось — чые?

Ды, можа, Зоі рана ставіць крыж на асабістым жыцці? Можа, усё ж адважыцца схадзіць да псіхіятара? Не! Сходзіць яна, а заўтра ўвесь іхні гарадок будзе ведаць пра візіт, увогуле жыццю рады не будзеш. А Зоіна жыццё і так не вельмі багатае на радасці.

Не, сёння ў яе проста дрэнны настрой, і яна ўсё перабольшвае. Ці ж толькі ў сям'і шчасце? Вунь Наталля і Святлана — такія ж "бабылкі", як і Зоя — ніколечкі ад сваёй адзіноты не пакутуюць. Заўтра ў Святланы дзень нараджэння. Яна вырашыла адзначыць яго "ў вузкім коле": не дома, не ў кафэ ці рэстаране, а на беразе возера, у маляўнічым куточку, дзе амаль да самай вады падступае малады бярозавы гай. Запрашала яна і Зою, але Зоя адмовілася: не хацелася быць лішняй у тым "вузкім коле" — Наталля будзе з "сябрам", Максімам Аскоцкім з іхняга інстытута, і Святлана, вядома ж, не адна: яна "сяброў" мяняе штомесяц.

Учора Зоя адмовілася, а сёння... Сёння ёй так адзінока! А заўтра? А заўтра — выхадны. Дык няўжо ёй зноў сядзець ля абрыдлага тэлевізара і раз-пораз пстрыкаць пераключальнікам у марнай надзеі натрапіць на канал, дзе б не дэманстравалі голых азадкаў і садысцкіх сцэн? Можа, усё ж патэлефанаваць Святлане?

Святлана званку, здаецца, узрадавалася, хоць не прамінула ўкалоць Зою:

— Мы заедзем за табою ў адзінаццаць. Спадзяюся, ты не праспіш (Зоя заўжды клалася за поўнач і з раніцы была цяжкая на пад'ём). І да таго часу збярэшся?

Зоя і ў той вечар заснула позна, але прачнулася нечакана для сябе а палове сёмай і — дзіўна! — не было ні адчування стомленасці, ні галаўнога болю — звычайнага ейнага ранішняга стану. Дыхалася лёгка, лёгка было й на сэрцы, ажно хацелася ўсміхацца і нават спяваць. Яна, уладкаваўшыся ў крэсле ля акна, піла каву і прыслухоўвалася да таго амаль няўлоўнага, што быццам нараджалася ў ёй і зычыла нешта добрае, светлае, радаснае...

Роўна ў адзінаццаць у дзверы пазванілі.

— Мы чакаем цябе ля пад'езда. На зборы — пяць хвілін, — скорагаворкаю адбарабаніла Святлана і націснула кнопку ліфта.

Зоя яшчэ раз прыдзірліва агледзела сябе ў люстэрка, зашмаргнула маланку на цёмна-зялёнай вятроўцы, спусцілася ўніз і скіравалася да ўжо знаёмых ёй чырвоных "Жыгулёў" (гэта была машына Аскоцкага). Раптам расчыніліся дзверцы серабрыстага шэрага "Фольксвагена" і аддтуль высунулася бялявая Наталліна галава:

— Да нас, Зоечка, да нас! Не будзем замінаць імянінніцы слухаць дыфірамбы вернага рыцара.

Віктар (так звалі чарговага Наталлінага кавалера) выйшаў, паслужліва адчыніў перад Зояй дзверцы:

— Сядай, калі ласка, побач з Наташай.

"Цікава, адкуль у Віктара "Фольксваген"? — падумала Зоя, уладкоўваючыся на заднім сядзенні. — У яго ж, здаецца, увогуле не было машыны".

І толькі тут яна заўважыла, што за рулём сядзіць незнаёмы ёй светлавалосы мужчына ў белай тэнісцы, якая вельмі ж адцяняла залацісты загар на яго дужых руках.

— Знаёмся, Зоя, — прамовіла Наталля, — гэта Аляксей, Віктараў калега. Аматар прыроды і, — яна хітравата ўсміхнулася, — чалавек, не абцяжараны сямействам.

"Ага, зноў мяне сватаюць", — падумала Зоя, але схавала сваю незадаволенасць за дзяжурнай усмешкай. Яна ўжо ўяўляла, як будуць разгортвацца падзеі. Спачатку яны ўсе разам збяруць на "стол", раскладуць касцёр, паслухаюць музыку, патанцуюць. А потым Наталля і Святлана са сваімі "сябрамі" некуды сыдуць, а Зоя мусіць бавіць час вось з гэтым "аматарам прыроды", які спярша раскажа з дзесятак "барадатых" анекдотаў, нагаворыць ёй кучу кампліментаў, а потым пачне распускаць рукі. А заўтра Зоі давядзецца выслухоўваць чарговыя гнеўныя Наталліны і Святланіны папрокі: "Дурніца! Такога мужыка адшыла!"

Першая частка Зоінага прагнозу спраўдзілася. А вось другая... Аляксей не расказваў анекдотаў і не рабіў ніякіх спроб "распускаць" рукі, і Зоі давялося "на хаду" мяняць спланаваную тактыку паводзін з гэтым даволі цікавым і зусім не падобным да ўсіх яе ранейшых знаёмых чалавекам.

Назаўтра Аляксей патэлефанаваў ёй. Зоя здзівілася: ён не прасіў у яе тэлефоннага нумара і, здаецца, яна зусім не зацікавіла яго як жанчына...

Праз два месяцы яны, папярэдне занёсшы ў ЗАГС заяву, вырашылі (Аляксей наважыў) з'ездзіць да Аляксеевага брата, каб асабіста запрасіць яго на вяселле.

— Ведаеш, у мяне больш нікога з родзічаў няма. Бацькі нашы рана памерлі, цётак і дзядзькоў таксама пахавалі. Адзін ён у мяне. Цудоўны чалавек: вясёлы, сардэчны, майстра на ўсе рукі. Вельмі кахае сваю Машу. Ці цеперся пабраліся, а паглядзіш — самыя што ні ёсць маладажоны. Цяпер рэдка такую ідылію ўбачыш. Так што — не хвалюйся і не бойся.

Не, цяпер Зоя нічагусенькі ўжо не баіцца. А тады, калі адчула, што іхнія з Аляксеем адносіны набліжаюцца да той рысы, якая можа стаць для Зоі ракавой.. Божачкі! Няўжо, думалася ёй, зноў у апошні момант асляпляльнай маланкаю выблісне тое далёкае лета і счарнеюць кволыя парасткі, якія нарэшце, праз столькі гадоў стылай адзіноты, прараслі ў ейнай душы? Няўжо ёй ніколі не пазбыцца гэтага ўспаміну, які і па сёння застаецца такім яскравым, нібы ўсё адбылося не дзесяць гадоў таму, а зусім нядаўна? Так, яна памятае ўсё да драбніц, хоць зусім і не радая гэтай памяці...

Летнюю сесію Зоя здала паспяхова. Нават па такім прадмеце як логіка (яе выкладаў самы бязлітасны і прыдзірлівы ад усіх выкладчыкаў прафесар Кляўчэня) Зоя атрымала "пяцёрку". Наперадзе — канікулы. Хацелася крыху падзарабіць грошай. У будаўнічы атрад першакурснікаў, тым больш дзяўчат, не бралі. Але затое ўдалося ўпрасіць старшыню прафкама Жэню Пустахода, каб залічыў яе ў групу, што ехала на збор чарэшні ў Крымскую вобласць. Ліст-запрашэнне за подпісам дырэктара саўгаса апавяшчала, што недалёка ад пасёлка знаходзіцца мора, а на тэрыторыі саўгаса працякае горная рака, што жыць студэнты будуць у палатачным гарадку, а харчавацца — у саўгаснай сталоўцы. Гаварылася ў пісьме і пра неблагія заробкі, і пра аплату білетаў, і пра аўтобус, які будзе чакаць на станцыі...

Першае расчараванне спасцігла дзяўчат (а іх сабралася ажно дваццаць) адразу ж пасля прыезду на станцыю: абяцанага аўтобуса не было. А тут яшчэ пачаўся дождж і чатыры кіламетры да саўгаса па гразкай дарозе здаліся бясконцымі. "Палатачны гарадок" аказаўся няўклюдным збудаваннем з жэрдак, на якія быў напяты дзіравы брызент. Такім жа брызентам збудаванне было падзелена на асобныя закуткі, дзе ўжо жыло некалькі груп беларускіх студэнтаў. Горная рака была звычайнай канаваю, а мора знаходзілася за пяцьдзесят кіламетраў. Дасціпная Райка Пятрова тут жа склала прыпеўку:

***Вось гэта вам і Крым,***
***І рэчка горная:***
***Заходзім — белыя,***
***Вылазім — чорныя...***

Не парадавала студэнтак і "саўгасная сталоўка" — звычайная паветка пад тым жа дзіравым брызентам. І разнастайнасцю меню сталоўка не вызначалася: боршч (суп), катлеты, пра якія самі ж павары гаварылі "з мясам", кампот з чарэшні. І так — штодня.

І ўсё ж настаў дзень, калі група, у якой была Зоя, скончыла сваю работу. Наперадзе было два вольныя дні (пра білеты назад дырэктар саўгаса паклапаціўся), і дзяўчаты захацелі з'ездзіць на мора. А Зоі ўжо не хацелася ні мора, ні паўднвага сонца — гэтак яна засумавала па дамоўцы, што вырашыла зараз жа ехаць у Сімферопаль, здаць там у касу свой білет на паслязаўтра і купіць на сённяшні вечар. Зоіны аднакурсніцы Райка Пятрова і Тамара Чараповіч таксама жадалі найхутчэй там апынуцца і склалі Зоі кампанію. Яны ўтраіх селі на рэйсавы аўтобус і паехалі ў Сімферопаль.

У чыгуначнай касе, куды яны звярнуліся з наіўнаю просьбай "памяняць білеты на сённяшняе чысло", з іх толькі пасмяяліся — у разгары быў курортны сезон, і купіць білеты было даволі няпроста. Значыць, цэлыя дзве ночы трэба было начаваць на вакзале. А на вакзале... Нават пра тое, каб прысесці на лаўку, можна было толькі марыць. Спаць стоячы? А можа, махнуць рукою на правілы прыстойнасці і прыпадобніцца да тых бедалаг, што ўладкаваліся нанач, разаслаўшы газеты на бруднай падлозе? Такое здалося дзяўчатам недапушчальным. Але прайшла адна, потым другая гадзіна і яны, ніякавата пазіраючы адна на адну, пачалі корпацца ў сумках. Ніводнай газеты!

— А вунь зірніце, кіёск працуе! — узрадавалася Зоя. — Колькі ўзяць? Штук пятнаццаць хопіць?

Стоячы ў невялічкай, чалавек шэсць, чарзе, Зоя раптам адчула на сабе нечы пільны позірк. Так і ёсць: нейкі хлопец бесцырымонна разглядваў яе ды яшчэ і ўсміхаўся. Зоя хацела сказаць яму што-небудзь з'едлівае, але ёй падалося, што яна ўжо недзе бачыла гэты смуглявы твар з вузкаватымі чорнымі вачыма.

— Не пазнаеш мяне? — хлопец падышоў зусім блізка. – Ну а калі б на маёй галаве была салдацкая пілотка? Усё роўна не ўспомніла? Ну а як там жывая-здаровая тваю сяброўка Люба?

Салдацкая пілотка?.. Люба?.. Ага! Ды гэта ж салдат-азербайджанец з тых, што летась працавалі на будаўніцтве чыгункі ля іхняга пасёлка. У яго было нейкае цяжкае для вымаўлення імя, і Люба называла яго Сашам. Так, ён спрабаваў заляцацца да Зоінай аднакласніцы Любы Самусенкі і аднойчы яму пашэнціла правесці яе з танцаў. Але Любіна маці, фанатычная верніца, даведалася пра доччынага "ўхажора"-мусульманіна і самым крыўдным манерам (адлупцавала Любу дубцом і забараніла хадзіць на танцы) разбурыла тое сяброўства.

Шамсадзін — гэтак на самой справе звалі хлопца — пачуўшы ад Зоі, навошта ёй спатрэбілася столькі газет, засмяяўся:

— Гэта вам не Гомель. І нават не Мінск. Гэта Сім-фе-ро-паль. Але ж не будзеце вы валяцца на гэтай бруднай падлозе побач з бамжамі? — Ён хвілінку памаўчаў, потым рашуча прамовіў: — Ведаеш што, Зоя? Бяры сваіх сяброўак і паедзем да мяне. Ідзі па іх, а я патэлефаную маці, каб падрыхтавала для вас пакой.

Шамсадзін пайшоў да тэлефоннай будкі, а Зоя подбегам кінулася да сваіх, каб паведаміць ім прыемную вестку.

— А ты адкуль ведаеш Шамсадзіна? — насцярожана зірнула на Зою Тамара. — Можа, ён бандыт які ці рабаўнік? Давайце ўжо лепей тут перакантуемся, а потым...

— Да ну цябе, Томка! — перабіла яе Рая. — Было б што ў нас рабаваць! Ну, перакантуемся, як ты кажаш, гэтую ноч. А яшчэ дзень і яшчэ ноч?

Неўзабаве да іх падышоў Шамсадзін:

— Усё нармальна. Маці чакае. Бярыце сумкі.

— Не, сумкі мы браць не будзем, — азвалася Тамара, — мы іх у аўтаматычных камерах пакінем.

Так яны і зрабілі. Потым селі ў трамвай, праехалі з паўгадзіны, а далей яшчэ столькі ж часу ішлі пехатою нейкімі вуліцамі і завулкамі.

Спыніліся перад нізенькім домікам, што бялеў у цемры саду. Шамсадзін адамкнуў фортку і заклапочана прамовіў:

— Нешта цёмна ў хаце. Мо да суседзяў старая выйшла?

Ён пераступіў парог, шчоўкнуў выключальнікам:

— Заходзьце, калі ласка, адчувайце сябе, як дома. Пайду паклічу маці.

Два невялічкія пакойчыкі, з якіх, калі не лічыць маленькай бакоўкі-кухні, складаўся дом, непрыемна ўразілі дзяўчат сваёй недагледжанасцю: няпэўнага колеру фіранкі на вокнах, выцвілыя шпалеры, голая, без ніводнага ходніка падлога — усё гаварыла пра нядбайнасць гаспадыні. З мэблі ў доме было чатыры металічныя ложкі (па два ў кожным пакоі), стол і некалькі табурэтак.

— Нічога, падружкі, — заўважыўшы, як капрызліва скрывіла твар Тамара, падбадзёрлыа сяброўак Рая. — Нам тут не век векаваць. Вядома, гэта не пяцізоркавы гатэль, але ж і не Сімферопальскі вакзал. Тут хоць выспімся па-людску.

За акном пачуліся крокі, і на парозе з'явіўся Шамсадзін. Услед за ім увайшлі яшчэ двое: адзін падобны на Шамсадзіна — такі ж смуглявы, чарнавокі і чарнавалосы, другі — высокі, танклявы бландзін, даўганосы, з падцятымі вуснамі на шэрым прышчатым твары.

Дзяўчаты разгублена пераглянуліся, і Зоя, адчуўшы, як халодныя мурашкі прабеглі па спіне, спыталася:

— Саша, а дзе ж маці?

Чарнавалосы здзіўлена зірнуў на Шамсадзіна і шэптам перапытаў:

— Шамсадзін, чыя маці павінна прыйсці?

— Пасля растлумачу, — таксама шэптам адказаў Шамсадзін і з гуллівай усмешкай звярнуўся да дзяўчат: — Знаёмцеся. Гэта мае сябры — Алік і Валера.

— Валера — гэта я, — удакладніў прышчаты, і яго жоўтыя, круглыя, бы ў савы, вочы блудліва забегалі па дзявочых постацях і тварах. — Спадзяюся, што мы з вамі няблага правядзём сённяшні вечар.

Ён дастаў з-за пояса дзве пляшкі віна і павярнуўся да чарнавалосага, што ў нерашучасці спыніўся ля дзвярэй:

— А ты чаго стаіш, як пень пры дарозе? Знямеў ад радасці?

Чарнавалосы пакорпаўся ў карычневай скуранай сумцы і паставіў на стол яшчэ дзве пляшкі. Шамсадзін паклаў на талерку некалькі вялікіх чырвоных памідораў, тут жа, на талерцы, абы як пакрэмзаў іх, пасаліў, дастаў з палічкі над сталом вялікія гранёныя шклянкі і з выглядам гасціннага гаспадара запрасіў:

— Калі ласка, паважаныя дамы, да стала, пачастуемся.

— Не трэба нам ваш пачастунак! — крыкнула Тамара і злосна бліснула вачыма на Раю. — Гэта ты нас сюды завяла?!

— Супакойся, Томка, — непрыкметна падміргнуўшы дзяўчатам, сказала Рая, — нічога з намі не здарыцца, калі вып'ем па кроплі віна. Праўда, Зоя?

— Праўда, Раечка, праўда, — прымаючы Райчыну гульню, адказала Зоя. — Толькі я думаю, што скажа Сашава маці, калі ўбачыць нас за такім заняткам?

*(Заканчэнне на стар. 12)*

## Дырыжор у тэатры

Дырыжору Мікалаю Калядку споўнілася 50. Імя яго асабліва добра знаёмае аматарам оперна-балетнага мастацтва: у Вялікім тэатры Беларусі ён працуе ўжо нямала гадоў.

Калісьці Мікалай Калядка быў выхаванцам Мінскага музычнага вучылішча імя М. Глінкі, наведваў філарманічныя канцэрты, оперныя спектаклі, балеты. І наўрад ці думаў, што міне яшчэ колькі гадоў і ён, скончыўшы ўжо кансерваторыю, набудзе прафесію музыканта і... І сапраўды, пашчасціла трапіць у Дзяржаўны (цяпер Нацыянальны) акадэмічны Вялікі тэатр Беларусі. Працаваў у аркестры, а потым лёс так склаўся, што малады музыкант стаў і за дырыжорскі пульт роднага калектыву, дзе на той час былі такія асобы, як Таццяна Каламійцава, Яраслаў Вашчак, Уладзімір Машэнскі.

Сёння ў рэпертуары маэстра — багаты скарб оперных і балетных партытур. Сярод першых самастойных прац Мікалая Калядкі як дырыжора-пастаноўшчыка — "Дон Кіхот" Л. Мінкуса, "Яўгеній Анегін" П. Чайкоўскага, "Баль-маскарад" Д. Вердзі, "Медыум" Д. Меноці, "Тоска" Д. Пучыні... Год за годам гэты спіс папаўняецца, яго можна яшчэ доўжыць і доўжыць. А лепей дачакацца новага тэатральнага сезона, наведваць жывыя спектаклі, разам з дырыжорам і шторазпа-новаму асэнсоўваючы партытурныя глыбіні...

Н. К.

## Юбілейны выпуск

Нацыянальная бібліятэка Беларусі прапануе ўвазе чытачоў юбілейны выпуск бібліяграфічнага паказальніка "Беларуская мова, літаратура, мастацтва". Трыццаць год таму назад, у 1972 г., пабачыў свет першы выпуск штогодніка, які пазнаёміў чытачоў з набыткамі беларускай мастацкай літаратуры, кнігамі па літаратуразнаўству і мастацтвазнаўству за 1970 г. Тады выданне называлася "Літаратура і мастацтва БССР". За вялікі прамежак часу ад першага выпуску неаднаразова мянялася структура штогодніка. У 1992 г. ён папоўніўся новым раздзелам "Мова", што знайшло адлюстраванне ў яго сучаснай назве. Значна пашырыўся ў параўнанні з першымі выпускамі даведачны апарат паказальніка, які дазваляе лепш арыентавацца ў вялікай колькасці ўключаных у яго імёнаў і назваў.

Юбілейны выпуск штогодніка знаёміць з набыткамі літаратуры па акрэсленай тэме за 2000 год. Яго традыцыйныя раздзелы "Мова", "Літаратура", "Літаратуразнаўства" і "Мастацтва" змяшчаюць звесткі пра кнігі, выдадзеныя ў рэспубліцы, а раздзел "Літаратура" яшчэ і звесткі пра найбольш значныя часопісныя публікацыі. Паказальнік адрасуецца бібліятэкарам, настаўнікам, аматарам літаратуры і мастацтва, а таксама тым, хто ўдасканальвае веданне мовы, ці вырашыў аваладаць ёй самастойна.

Таццяна МАМЕДАВА,
галоўны бібліёграф Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі

## Вернісаж віцебскага майстра

Фелікс Гумен — яскравы прадстаўнік віцебскай школы акварэлі. У ягоных работах — родная Беларусь: хараство людзей, маляўнічасць прыроды. Зараз Фелікс Фёдаравіч у Мазырскай карціннай галерэі адкрыў персанальную выставу пейзажаў і нацюрмортаў.

## Азбука зорак

Гомельскі паэт Фелікс Мысліцкі — сябра Саюза расійскіх пісьменнікаў. Друкуецца ў часопісах "Юность", "Октябрь", "Наш современник". Зараз у беларускім выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйшла ягоная новая паэтычная кніжка "Азбука звёзд". У ёй — вершы пра палескую зямлю, сусвет, каханне...

Аляксей ШНЫПАРКОЎ

ТЭАТР

# Непрадказальнасць пошуку і эксперыменту

***Аляксандр Гарцуеў прыйшоў у рэжысуру параўнальна нядаўна. Першы яго спектакль — "Чорны квадрат" М. Клімковіча і М. Адамчыка быў пастаўлены ў 1995 годзе на сцэне Тэатра беларускай драматургіі "Вольная сцэна". Потым былі "Крывавая Мэры" Дз. Бойкі на малой сцэне Купалаўскага тэатра, "Знайсці Элізабэт", абазначаны як экзерсіс у духу Р. Тама (Малы тэатр пад кіраўніцтвам І. Забары), "Трыстан ды Ізольда"і "Саламея" С. Кавалёва, "Брат мой, Сіман..." А. Казанцава, "Кім" А. Дударава (тэатр імя Я. Купалы), "Дзядзька Ваня" А. Чэхава (Беларускі фонд развіцця культуры сумесна з акцёрамі Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы).***

***Можна сказаць, што з самага пачатку рэжысёрскі лёс А. Гарцуева складваўся на рэдкасць удала. Кожны з яго спектакляў быў адразу ж прыкмечаны і гледачамі і крытыкай. І нават калі тут жа, пасля прэм'еры, не з'яўляліся рэцэнзіі, гэта не сведчыла, што пастаноўкі былі выпадковымі.***



"Брат мой, Сіман..." вылучаецца сярод многіх пастановак новай рэжысуры — сталасцю погляду на рэчаіснасць і прафесійнасцю тэатральнага выказвання. З шэрагу іншых сцэнічных работ на так званую сучасную тэматыку спектакль запамінаецца сваім неардынарным поглядам на паўсядзённае жыццё чалавека. Ён выходзіць далёка за побытавыя межы ўсім сваім эмацыянальным настроем, агульным паэтычным гучаннем...

П'еса Казанцава "Браты і Ліза", паводле якой пастаўлены спектакль, у сцэнічным варыянце амаль не падвяргаецца зменам. Невялікія тэкставыя скарачэнні толькі надалі дынамізму дзеянню і засярodзілі ўвагу перш за ўсё на філасофскай, а не бытавой плыні спектакля. Назва, вынесеная на афішу, падкрэслівае перадусім звяртанне тэатра да чалавека, як да асобы, створанай Богам, да таямнічай Душы, непаўторнай і самотнай у бясконцым Сусвеце. Нават калі яна замыкаецца ва ўласным свеце: творчасці, каханні, клопатах пра блізкіх — у ёй шмат неразгаданага, напоўненага непаўторнымі фарбамі быцця, у яе шмат пытанняў: "Адкуль і што мяне сюды занесла? І хто я? І як завуць? І колькі дзён вар'яцкіх ці стагоддзяў нам у вар'яцтве трэба жыць яшчэ?.."

Героі купалаўскага спектакля — людзі звычайныя, сучасныя: мастак Пётр, яго брат Сіман і дзяўчына Ліза, якая выпадкова трапляе ў госці да братоў. Усё сцэнічнае дзеянне праходзіць у майстэрні Пятра, а жыццё персанажаў адлічваецца ад сустрэчы з Лізай — ад чэрвеня, напоўненага дажджамі і навальніцамі, пахамі і гукамі надыходзячага доўгачаканага лета.

Мастак Д. Волкава не імкнецца да бытападабенства ў інтэр'еры і нейкай асаблівай утульнасці для герояў. Утульнасць і дабрабыт зусім не характэрны для іх жыцця. Жыцця, якое так нагадвае дзіўнаватыя незавершаныя карціны ці наогул карціны яшчэ непачатыя, дзеля якіх толькі падрыхтаваны прыгожыя багеты, прыхаваныя лёгкімі тканінамі. У дэталях сцэнаграфіі прычытваецца жаданне мастака далучыць гледача да ўдумлівай размовы, засяродзіцца на галоўным. Таму на сцэне няма лішніх прадметаў, а толькі тое, што патрэбна для дзеяння: маленькі столік, крэслы, падрамнікі, лёгкая лесвіца на заднім плане сцэны. Пастаноўшчыкамі ўдала падкрэсліваецца зменлівая атмасфера сустрэч і расстанняў, станаў персанажаў — ад спакойных, ураўнаважаных да нервовабезабаронных, поўных болю і адчаю. Не дзіўна, што ўзаемаадносіны братоў і Лізы, іх эмацыянальныя размовы, маналогі і прызнанні застаюцца цікавымі на працягу ўсяго сцэнічнага дзеяння. Псіхалагічна напружаны, часам жорсткі спектакль уцягвае гледача ў шчыры дыялог аб жыцці, вымушае задумацца кожнага аб сваім месцы ў ім. А. Гарцуеў "зацiскае" публіку ў прастору моцнай, але далікатнай рэжысуры.

Сіман у выкананні А. Малчанава (у першым складзе — В. Паўлюця) — адна з самых прыцягальных роляў у спектаклі. Акцёр пранікнёна і тонка дэманструе ўнутраны свет свайго героя. У яго персанажы няма аднаначнасці. Ён то хавае ў сабе даўно забытыя крыўды і пачуцці, то раптоўна выплёсквае на акружаючых усё, што набалела і з чым далей проста немагчыма жыць. А. Малчанаў віртуозна, па-майстэрску, падае гледачу пераўвасабленні, якія адбываюцца з Сіманам. Ёсць у гэтых зменах нешта хваравітае, зусім непадобнае на танны тэатр і, магчыма, вартае жалю. Пры гэтым акцёр не іграе хваробу, а ўяўляе пэўны стан свайго персанажа, змяняецца знешне і ўнутрана да непазнавальнасці. Неўладкаванае, па-сутнасці, самотнае жыццё, смерць родных яму людзей не маглі не пакінуць свайго адбітку на ранімай душы Сімана. Малады чалавек час ад часу пераапранаецца то ў бацьку, то ўяўляе сябе клапатлівай маці, размаўляе з даўно памерлым сабакам Джымам. Яны для яго — усё тое, што ў дзяцінстве ўяўлялася цэлым сусветам. І калі іх больш няма побач, то што ж тады ёсць на гэтай зямлі?.. Боль? Непаразуменне? Адзінота? Але ён шукае прычыны сваіх жаданняў стаць іншай асобай, схавацца ад уласнага лёсу хаця б у чужым адзенні. І ўсё ж перапранууца ў Пятра, а брата зрабіць падобным знешне да сябе — страшэннае выйсце. Рэжысёр даводзіць са сцэны пра душэўную разгубленасць, уласцівую сучаснаму чалавеку, які, мо не ўсведамляючы, імкнецца вырвацца з замкнёнага кола "вар'яцкага" цвярозага розуму.

Пятру ў выкананні І. Дзянісава ўласцівыя кантрастныя, кідкія фарбы настрою. Іншы раз нават натуралістычныя. Станы яго змяняюцца ад замкнёнасці ў сабе, прыхаванай пяшчоты, такой патрэбнай Сіману і Лізе, да раптоўных эмацыянальных выбухаў, шчырых адкрыццяў, якія неабходна паведаць камусьці блізкаму. Акцёр імкнецца паказаць Пятра сапраўдным героем, здольным на многае: замяніць бацькоў хвораму брату, быць адзіным і незамяняльным для безабароннай дзяўчыны. Акцёрскае існаванне І. Дзянісава

# Аляксандр Гарцуеў: акцёр і рэжысёр

***Пасля спектакляў "Чорны квадрат" і асабліва "Крывавая Мэры" ў тэатральным асяродку нечакана загаварылі пра таленавітага рэжысёра Аляксандра ГАРЦУЕВА, які дагэтуль быў знаным купалаўскім акцёрам. Сутнасць віdачынца неўзабаве схавалася за сур'ёзнае аблічча пастаноўшчыка...***

**— Як вы лічыце, Аляксандр, якое месца сёння займае беларускі тэатр сярод тэатраў Еўропы?**

— Першым бы я яго не назваў. Нас усе добра прымаюць і кажуць, што наш тэатр даволі высокага ўзроўню, але, канешне, мы не дасягаем жаданых вяршынь у тэатральнай творчасці. Напрыклад, Літоўскі тэатр карыстаецца цяпер поспехам і ў Амерыцы, і ў Еўропе. Нягледзячы на тое, што яны іграюць на літоўскай мове. Беларускі ж тэатр,цяпер у асноўным працуе на попыт гледача. Мабыць, з эканамічнай сітуацыі. Мы павінны звяртаць увагу на тое, каб на спектаклі хадзілі, бо патрэбны грошы, якія дзяржава не надта выдаткоўвае для культуры, шчыра кажучы. А попыт гледача ў асноўным арыентуецца на нейкія больш лёгкія творы, на камедыі, на нейкія шоў. Літоўскі ж тэатр на гэта не арыентуецца. Гледач там выхоўваецца ўжо па-іншаму, ён у іх сёння зусім іншы, хаця дзесяць гадоў таму мы былі аднолькавыя. Зараз еўрапейская публіка не пойдзе на такую простую банальную камедыю, каб толькі парагатаць. Ім патрэбна іншае. Бо існуе меркаванне, што ёсць тэатр для адпачынку, а ёсць для працы душы.

Але пры ўсім гэтым я не згодны з тым, хто кажа, што беларускі тэатр у заняпадзе, бо бачу перапоўненыя залы не толькі ў сталіцы. У нас ёсць таленавітыя рэжысёры, цудоўныя маладыя акцёры. Я ўжо не кажу пра сталае пакаленне артыстаў, здабыткі якіх пераймае моладзь. Вось і ў нашай драматургіі пачалі з'яўляцца новыя імёны. Я маю на ўвазе А. Курэйчыка. У будучым сезоне ў афішы тэатра імя Янкі Купалы з'явіцца спектакль паводле яго п'есы "Згублены рай".

**— А ці не вы рэжысёр п'есы Курэйчыка?**

— Пакуль што не. Справа ў тым, што я працую ў дзяржаўнай установе і сам сабе не магу сказаць, што буду ставіць Курэйчыка. А "Згублены рай" рэпеціруе галоўны рэжысёр купалаўскага тэатра В. Раеўскі. Але ў перспектыве, мабыць, я таксама буду ставіць Курэйчыка. Думаю, што час яшчэ ёсць, бо гэты драматург вельмі пладавіты. Ён працуе хутка і якасна, і мне гэта падабаецца, я сам так люблю працаваць. А.Курэйчык, нягледзячы на свае маладыя гады, даволі эрудзіраваны, адукаваны малады чалавек. Напрыклад, у той п'есе, якую зараз ставіць Раеўскі, занатаваны яго асабісты погляд на пачатак нашага існавання, роздум на біблейскую тэму. Разам з тым у Курэйчыка ёсць і забаўляльныя камедыі становішчаў. Пакуль у гэтага драматурга нейкае, так бы мовіць, касмапалітычнае ўяўленне драматургіі. Гэта добра, але калі ён збіраецца жыць у Беларусі, трэба звяртаць увагу на яе гісторыю таксама. Я думаю, што калі б п'есы А. Курэйчыка закранalі праблемы беларусаў, то яны б хутчэй ставіліся ў нас ...

Зараз у маіх творчых планах пастаноўка п'есы А. Дударава ў Магілёве.

**— Я ведаю, што ў вас былі ўласныя спробы напісання п'есы?**

— Была спроба, скажам так, па матывах аднаго літаратурнага твора. Гэта быў такі час, калі мне падалося, што я змагу гэта зрабіць. Цяпер я мушу шчыра прызнацца, што нічога ў мяне не атрымалася. Я хуценька зразумеў, што лепш рабіць тое, што умееш.

**— Цікава, а як акцёр адчувае сябе ў скуры рэжысёра?**

— Ведаеце, калі б я быў жывёлай, то быў бы канём. Я люблю хуткасць, аб'ём, волю. І пры гэтым я цярплівы. Канешне, калі мяне раззлаваць, то я магу і стукнуць. Аднак я не люблю "есці" людзей. Я, так бы мовіць,

ў вобразе выглядае даволі абгрунтаваным і пераканаўчым. І ўсё ж, за яркім знешнім малюнкам акцёру не стае паўтонаў — тонкіх падтэкстаў, якія б, магчыма, надалі вобразу большую глыбіню, узмацнілі прыцягальнасць Пятра.

Здаецца, абодва браты з'яўляюцца адным, толькі раздвоеным чалавекам. Гэтая раздвоенасць бачна са з'яўленнем Лізы, у ролі якой арганічна існуе актрыса Г. Хітрык. Тоненькая, трапяткая юная гераіня ажыўляе сваёй прысутнасцю майстэрню Пятра, прыцягвае сваёй недзіцячай сталасцю. У прапанаваных абставінах у яе паводзінах няма і намёку на нечаканасць свайго з'яўлення ў доме незнаёмага чалавека. Ліза-Хітрык з радасцю прымае ўсё, што дае ёй жыццё і, магчыма, у гэтым тоіцца сакрэт яе шчасця. Дзяўчына паэтызуе і наваколле, і людзей, якія аказваюцца побач. Нездарма простыя, ціхія словы, вымаўляемыя актрысай, гучаць таямнічымі белымі вершамі: "Мне падабаецца ваш дом. Тут так трывожна... Мне падабаецеся вы. Вы так разгублены... І брат ваш мне падабаецца..." Дзяўчына — гэта само Каханне, якое пранікае з ветрам, навальніцай у кватэру братоў. На пачуццё яны рэагуюць па-рознаму. Сіман — злуецца, падпарадкоўваецца інстынкту. ("Калі будзем аддавацца?" — увесь час пытаецца ён у Лізы.) Пётр вельмі захапляецца дзяўчынай спачатку, але хутка кідае яе, вяртаецца да бязгруздага жыцця. Але калі Каханне знікае з іх жыцця — Ліза з'язджае ў Аўстралію — браты нарэшце паядноўваюцца, зліваючыся ў адным крыку "Ліза! Ліза!"

Рэжысуры А. Гарцуева ўласціва імкненне да эксперыменту і абавязкова — да ўдасканальвання сцэнічнай мовы, якая ў повязі з пошукам новых форм і новага акцёрскага існавання на сцэне. Стварэнне стылю спектакля, яго атмасферы ў залежнасці ад магчымасцяў той ці іншай п'есы, — таксама адна з прыцягальных асаблівасцяў рэжысёрскай манеры Гарцуева. З самых першых спроб, калі, магчыма, яму і не верылася, што ён будзе сур'ёзна займацца пастаноўкамі спектакляў, нельга было не заўважыць смелы рэжысёрскі почырк, неардынарнасць мыслення, валоданне прасторай, якая ўвесь час змянялася на вачах гледача, застаючыся загадкавай і непрадказальнай.

Спектаклі А. Гарцуева выклікаюць цікавасць у самага рознага гледача. І адбываецца гэта, магчыма, таму, што рэжысёр не імкнецца да так званай злабадзённасці ў сваёй творчасці, а, перш за ўсё, — да мастацкасці ў кожнай рабоце, і калі каго і хоча задаволіць, дык гэта адрazу відавочна, што толькі Акцёра, дзеля якога і існуе сцэна і запальваюцца агні рампы. Можа таму і шанцуе гэтаму рэжысёру...

**Вераніка ЯРМАЛІНСКАЯ**

*На здымку: сцэна са спектакля "Брат мой, Сіман..."*

*Фота Г. ЖЫНКОВА*

"траваядны": не з'ядаю людзей на працы. Мне так здаецца, прынамсі, я імкнуся так рабіць. Я сам акцёр і зараз працягваю быць акцёрам, і таму ведаю, як бывае цяжка відачынцам з рэжысёрамі. Я не дапускаю такога, каб зневажаць, бэсціць акцёра.

**— З вашага гледзішча, ці існуе ў нас праблема рэжысуры?**

— Так, ёсць такая праблема. Дыпламаваных рэжысёраў у Беларусі многа, але рэальна ўдзельнічаюць у тэатральным працэсе лічаныя людзі, з дзесятак імён, якіх ведаюць. Чаму так адбываецца? Ну, Бог не роўна дзеліць. Зараз, дзякаваць Богу, у тэатральнай акадэміі адкрылася кафедра рэжысуры, якая актыўна займаецца падрыхтоўкай маладых рэжысёраў. Але, зноў жа, не ўсе з іх, атрымаўшы дыпломы, стануць сапраўднымі, дзеючымі рэжысёрамі, так, як і акцёры. Таму што тэатр не ўсіх прымае...

**— Пра што больш за ўсё вы любіце ставіць спектаклі?**

— Мая любімая тэма — тэма кахання. Усё, што я пастаўлю — так ці інакш пра каханне паміж мужчынам і жанчынай.

**— Вам бліжэй драма ці камедыя?**

— Ну, мабыць, драма. Камедыю я пастаўлю толькі адну — "Чорны квадрат" у тэатры "Вольная сцэна". Гэта быў мой першы, даволі недасканалы спектакль, як мне цяпер падаецца. А потым я ўжо перайшоў да больш драматычных твораў. Хаця па-ранейшаму не пазбягаю ў сваіх пастаноўках нейкіх камедыйных сцэнак. Напрыклад, у лірычнай драме "Трыстан ды Ізольда" ёсць шмат смешнага. Гэта робіцца для своеасаблівай разрадкі гледача.

**Гутарыла**
**Вераніка РУСАКОВІЧ**

*<u>НА АТРЫМАННЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ РБ</u>*

# Коласаўцы і Якуб Колас: шостая тэатральная сустрэча

Не сказаць, каб калектыў Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа часта судакранаўся з творамі свайго найслыннага патрона. За больш чым сямідзесяці-пяцігадовую яго гісторыю было ўсяго пяць спатканняў. Затое амаль кожнае з іх сталася памятным і па набытках надзвычай значным.

У 1937 г. Другі беларускі тэатр (тады такую ён меў назву) першым ажыццявіў пастаноўку драмы "Вайна вайне", над якой Якуб Колас працаваў доўга і ўсё не мог знайсці зацікаўлены ў ёй калектыў. А натхнёны пасля паспяховай тэатральнай прэм'еры пісьменнік прыступае да новай п'есы — паводле аповесці "Дрыгва" піша драму "У пушчах Палесся". І зноў жа знаходзіць поўнае паразуменне з калектывам будучых коласаўцаў, якія неадкладна прынялі твор да пастаноўкі і ў тым жа 1937 г. выпусцілі спектакль у свет. Тыя дзве цяпер ужо даўнія сцэнічныя працы загрунтаваны ў тэатральнай гісторыі і ўвайшлі яркімі радкамі ў творчыя лёсы многіх славутых акцёраў першага пакалення.

Наступная сустрэча з Коласавай літаратурнай спадчынай адбылася ў 1958 г., калі тэатр паставіў драму "Навальніца будзе", напісаную Алесем Звонакам паводле трылогіі "На ростанях". Інсцэніроўка атрымала на падмостках буйнамаштабнасць, высокае грамадзянскае гучанне, а ўвасоблены рэжысёрам Ю. Шчарбаковым спектакль стаўся ці не самай лепшай з яго пастановак у беларускіх тэатрах.

У сямідзесятых—васьмідзесятых гадах афішу коласаўцаў упрыгожвала пастаноўка "Сымона-музыкі". Дастасаваны У. Ганчаровым і В. Мазынскім да сцэнічных падмосткаў твор набыў надзвычай глыбокае лірычна-філасофскае гучанне. Гэта і па цяперашнім часе з'яўляецца вышэйшым узлётам рэжысёрскай творчасці В. Мазынскага.

Адзін толькі спектакль пад назвай "На дарозе жыцця", створаны паводле твораў Якуба Коласа і прысвечаны яго стогадоваму юбілею, прайшоў непрыкметна і неўзабаве знік з тэатральнага небасхілу. І вось чарговая, па ліку шостая сустрэча коласаўцаў з Коласам, дастасаваная да іх сямідзесяціпяцігоддзя.

З прыходам у тэатр новага мастацкага кіраўніка Віталя Баркоўскага было абвешчана, што калектыў распачынае працу над увасабленнем паэмы-рамана "Новая зямля". Але яна то адкладвалася, то зацягвалася. А разам з тым змянялася і першапачатковая задума.

Урэшце тэатр адмовіўся ад традыцыйнай інсцэніроўкі літаратурнага твора і ўвасобіў даволі вольную імправізацыю, не без падстаў пазначаную ў афішы як "Сны памяці паводле творчасці Якуба Коласа".



Ад уласна "Новай зямлі" засталося нямногае: два вядомыя персанажы Антось і Міхал, якія да таго ж у спектаклі набылі даволі намінальныя функцыі, ды некалькі паэтычных фрагментаў, пераважна пра зямлю і прыроду. Адпаведна і спектакль займеў назву "Зямля" — у шырокім, метафарычным разуменні гэтага слова.

"Зямля" не мае акрэсленага сюжэта, падзеі разгортваюцца нібы ў сне, з хуткімі і як бы непрадбачнымі пераходамі на новыя калізіі. Разам з тым у спектаклі ёсць і мастакоўская засяроджанасць увагі на асобе Якуба Коласа. Праўда, сярод дзеючых асоб няма гэтага прозвішча. Ёсць Пясняр 1-ы — чалавек паважанага веку, у памяці якога праносяцца пражытыя гады і падзеі, Пясняр 2-і — хлопец маладога ўзросту, у якога былі каханкі, вяселле, турэмнае зняволенне, і Пясняр 3-і — гарэзна-непасрэдны дзяцюк. Тры персанажы, у якіх раскрываюцца асноўныя перыяды аднаго чалавечага жыцця — дзяцінства, маладосць і сталасць. Так бы мовіць, вытокі творчасці, загартоўка суровымі рэаліямі і самааддача, да скону служэння людзям, свайму народу. Адпаведна ў асобах выступаюць і тры выканаўцы — вучань адной з віцебскіх школ Глеб Цвяткоў і акцёры тэатра А. Качан і Р. Шацько.

Роля Песняра 3-га зусім невялікая, эпізадычная. Не так шмат месца адводзіцца ў пастаноўцы і Песняру 2-му. Бо дзяцінства і юнацтва даўно ўжо адшумелі, адно засталіся ўспаміны. Затое Пясняр 1-ы часта з'яўляецца на падмостках — у найбольш важных момантах падзей.

Сцэнічны твор "Зямля" далёкі ад традыцыйных "біяграфічных" пастановак. Яго стваральнікі не асабліва прытрымліваюцца дакументальных звестак. Вобраз Якуба Коласа пазбаўлены ў спектаклі хрэстаматыйнага глянцу, падаецца не праз прызму ўсталяваных уяўленняў, а ў ракурсе сучасных праблем. Ён у асноўным паўстае ў драматычна-трагічным святле.

Ноткі болю адчуваюцца ў сказаных і затым паўтораных Песняром словах, што "ўсё ператварылася ў вялікае нішто, у вялікае ніколі", і ў прызнанні, што яго "забіць хочуць", і скаргах, што яго не разумеюць і што жыў не сваім жыццём. Пясняр як бы нясе на сваіх плячах грэх і пакуты пакаленняў людзей.

Мізансцэнічна дзея выбудоўваецца такім чынам. Персаніфікаваныя асобы, якія задзейнічаны ў тым ці іншым эпізодзе, накіроўваюцца да прасцэніума, найчасцей сядаюць там і прамаўляюць свае нешматлікія словы. А вялікая сцэнічная прастора ў гэты час ні хвіліны не пустуе, яна запоўнена людзьмі, якія ў пастаянным імклівым руху.

У пантамімах увасабляюцца рытуалы народных абрадаў і святаў — гуканне вясны, Вялікдзень, Купалле і інш., раскрываюцца глыбока драматычныя і да дурасліваcці камічныя з'явы. Падзеі надзвычай хутка змяняюцца, як і іх танальная афарбоўка. (Над пастаноўкай абрадаў шчыраваў Мікола Котаў, над пластычным вырашэннем вобраза — Уладзімір Колесаў).

Спектакль шматфарбны, у яго агульную харальна велічную структуру арганічна ўпісаны і сакавітыя, раблезіянскага характару штрыхі і дэталі.

Нагадаем карціну вяселля, калі ўдзельнікі застолля, размешчаныя ў аркестровай яме, нібы па ўзмаху дырыжорскай палачкі раз-пораз з'яўляюцца, каб прыкласціся да квартаў і закусіць, то знікаюць усё адно як у падзямелле. Або сцэну з турэмнага перыяду ў жыцці Якуба Коласа, калі ён пачаў пісаць "Новую зямлю". Акцёры, занятыя ў эпізодзе, знаходзяцца на прасцэніуме. У цэнтры кампазіцыі — стары вязень Дзед, на рахунку якога сем загубленых чалавечых жыццяў. Вакол Дзеда групуюцца яго два Надзейныя (артысты В. Салаўёў і Ю. Цвірка) і Дарадца (артыст В. Дашкевіч), накрэсленыя вострa сатырычнымі штрыхамі і фарбамі. У нейкі момант побач з Дзедам апынуўся і Пясняр 2-гі, якога той пашкадаваў, ўратаваў яму жыццё і смерць прыняў на сябе. У даволі эпізадычнай ролі Дзеда акцёр Ф. Шмакаў перадае складаную і шырокую гаму пачуццяў: ад летуценных успамінаў, філасофскага роздуму — да глыбокага трагізму.

Ролі ў спектаклі ў асноўным невялікія, і акрэслены яны адным-двума, але выразна аб'ёмнымі мазкамі. З іх адзначым працы А. Лабанка (Антось), П. Ламана (Міхась), Н. Левашовай (Бабуля). З тых, хто заняты на ўсіх асноўных сцэнах, акрамя Песняра 1-га, — Юродзівы і Нямая. Яны выступаюць дуэтам, можа сказаць і больш — у моцным паяднанні. У вобразе Юродзівага Б. Сяўко паказвае разумнага і ў нечым трагічнага блазна. У яго ёсць у спектаклі словы, у Нямой натуральна няма, толькі аднойчы яна выцісне з сябе "ма", "ма". Але па сіле ўнутранай напоўненасці, па тых усхваляваных адносінах да ўсяго, што адбываецца на сцэне, актрыса С. Акружная выводзіць Нямую на першы план. У спектаклі дзейнічаюць і алегарычныя асобы — Муза, Натхненне, Доля, Кветка шчасця, Душа, якія так ці інакш знаходзяцца з Песняром у прамых дачыненнях.

А самай асноўнай дзеючай асобай у "Зямлі" выступае "просты люд", у афішы сціпла пазначаны ў апошнім радку, як і яго выканаўцы — "артысты тэатра". У спектаклі занята амаль уся трупа, і дзейнічае яна пераважна ў масавых сцэнах. Прамоўленых на падмостках слоў нямнога (па прызнанні В. Баркоўскага, з першапачатковых ста васьмідзесяці старонак тэксту ў канчатковым варыянце засталося толькі дзесяць). І хоць гэтыя словы па сэнсе звычайна вельмі шматзначныя, як бы ўмяшчаюць у сабе канцэнтрацыю думак, не на іх прыпадае асноўная нагрузка. Галоўнае ў спектаклі — пантамімічныя сцэны, рухі, жэсты, увогуле пластыка. А да гэтага трэба дадаць музычнае і гукавое суправаджэнне (аўтары Аляксандр Крыштафовіч і Зміцер Лук'янчык), вельмі зменлівае, да мігцення ў вачах светлавое афармленне (сцэнаграфія і касцюмы Уладзіміра Матросава). І ўсё гэта суіснуе ў паяднанні, ва ўзаемадапаўненні, у сінтэзе.

"Зямлю" цяжка цалкам спасцігнуць з аднаго разу. Асабіста мне давялося глядзець пастаноўку тройчы, і пры кожным наведванні адкрывалася штосьці істотна новае, а разам з тым твор станавіўся больш блізкім і крэўным.

Спектакль надзвычай скандэнсаваны. Па першапачатковай задуме (зноў жа па прызнанні рэжысёра В. Баркоўскага, які з'яўляецца галоўным аўтарам пастаноўкі), ён павінен быў доўжыцца больш як тры гадзіны. Цяпер жа "ўкладзены" недзе ў пяцьдзесят хвілін. Натуральна, іграецца і ўспрымаецца на адным дыханні, што патрабуе з боку тэатра высокай арганізацыі і зладжанасці. Як і пільнай увагі, вялікай засяроджанасці з боку гледача. З прыемнасцю можна засведчыць, што на гэтым этапе жыцця сцэнічнага твора такое двуадзінства дасягаецца.

...У фінале спектакля яго ўдзельнікі выстраіліся на прасцэніуме, кампазіцыйна ўтварыўшы шматлікі хор. Адна з выканальніц зычна прамаўляе малітву да Бога. Потым натоўп неяк непрыкметна разыходзіцца, на падмостках застаецца Пясняр. Уводдалі з'яўляецца яго Бабуля, якой у рэальнасці даўно ўжо няма на зямлі. Яна кліча ўнука да сябе. І Пясняр рушыць у глыбіню сцэны, у цемень. Ідзе снег, як бы зацярушваючы яго апошні жыццёвы шлях. А ў тым месцы, дзе знік Пясняр, неўзабаве ўспыхвае святло, і ў яго промнях паўстае знаёмы воблік Песняра, на гэты раз ужо ў белай накідцы. Ад нас цяпер ён фізічна далёкі, але духоўна надзвычай блізкі, родны.

**Анатоль САБАЛЕЎСКІ**

*На здымку: сцэна са спектакля*

## Руплівы лідскі краязнаўца

**Ліда, Лідскі раён — тэрыторыя, якая здаўна багатая сваімі асветніцкімі традыцыямі, багатая на даследчыкаў гістарычнай памяці. З Лідай звязаны імёны паэтаў Ніны Тарас, Валянціна Таўлая, публіцыста Напалеона Чарноцкага, празаіка, драматурга, перакладчыка, паэта Алеся Змагара, паэта і крытыка Юрася Пацюпы... Імёны гэтых літаратараў вядомы чытачу, у іх ёсць кнігі. Згаданыя і многія іншыя, скажам так, лідскія прозвішчы — на старонках энцыклапедый, біябібліяграфічных даведнікаў.**

**А ёсць яшчэ тыя, хто стараннямі сваімі зберагае, шукае памяць. Адзін з такіх лідчан — настаўнік-пенсіянер Анатоль Кулеш, якому сёлета споўнілася 75 гадоў. За плячыма гэтага чалавека — не толькі доўгія гады настаўніцкай работы (а выкладаў Анатоль Фёдаравіч матэматыку і геаграфію), а яшчэ і дзесяцігоддзі захаплення краязнаўствам, асобная кніга па гісторыі Ліды.**

**На долю Анатоля Кулеша выпалі ўсе выпрабаванні яго пакалення. Вырас у звычайнай заходнебеларускай вёсцы. Спярша — вучыўся ў польскай школе. Дарэчы, добра з таго часу валодае польскай мовай. Гэта, безумоўна, дапамагае ў краязнаўстве, дазваляе свабодна працаваць з многімі архіўнымі, дакументальнымі крыніцамі, з літаратурай, якая выдаецца ў Польшчы. Так, вядомая справа, да "крэсаў" — увага асаблівая. Пасля вайны Анатоль Кулеш закончыў Лідскае педвучылішча. Працаваў у дзіцячай выхаваўчай калоніі МУС.**

**— А адкуль, з чаго вытокі, пачаткі краязнаўчых зацікаўленняў? — пытаюся ў Анатоля Фёдаравіча.**

**— Цікавасць да краязнаўства праявілася даволі рана — яшчэ ў пачатковай школе. Пэўна, важную ролю ў гэтым адыграў мой першы настаўнік Часлаў Невядомскі, заўзяты аматар прыроды. Гэта быў наш Сухамлінскі. А ўжо займацца краязнаўствам стала пачаў пад час вучобы на геаграфічным факультэце Белдзяржуніверсітэта. Тады ж прыняў удзел у навукова-практычнай канферэнцыі па краязнаўству адразу трох універсітэтаў — БДУ, Варонежскага і Ерэванскага. На канферэнцыі выступіў з навуковым дакладам. Пры заканчэнні БДУ абараніў дыпломную работу на тэму "Фізіка-геаграфічная характарыстыка Лідскага раёна".**

**Пасля вучобы ва універсітэце Анатоль Кулеш вярнуўся настаўнічаць у Ліду, Лідскі раён. Звычайная настаўніцкая будзёншчына... Толькі не для Анатоля Фёдаравіча праца ў школе падаецца будзённай. Ён заўжды імкнуўся зрабіць урокі цікавымі, захапляльнымі — і для вучняў, і для сябе.**

**Школе, адкуль пайшоў на пенсію, Анатоль Фёдаравіч пакінуў фізіка-геаграфічны атлас Лідскага раёна. Зараз з гэтай шматгадовай працы нічога не засталося. Што ж, знаёмая практыка!.. Нешта падобнае здараецца нават з грамадскімі школьнымі музеямі. Прыкладаў такіх звышдастаткова. Сыходзяць на спачын іх стваральнікі — і, як правіла, усё!.. Музей знікае, экспанаты бясследна гінуць.**

**Тут, відаць, да месца будзе згадаць вопыт арганізацыі краязнаўчай работы ў Беларусі ў 1920-я гады, удзел у гэтай справе школьных устаноў, аддзелаў адукацыі, калі і інфармацыйны матэрыял, і метадычныя падказкі — усё насіла пэўны сістэмны характар. Варта звярнуцца да часопіса "Наш край", многіх публікацый Міколы Касяровіча (1900—1937) — і там знойдуцца многія патрэбныя і для сённяшняга часу парады.**

**...У апошнія гады Анатоль Кулеш у "Лідскай газеце" выступіў з шэрагам досыць цікавых артыкулаў — пра падзеі ў горадзе і раёне ў час першай імперыялістычнай вайны, пра родную вёску Збляны, аб паходжанні назвы Ліды, пра лідскі тэлеграф у далёкай мінуўшчыне, пра дынастыю італьянцаў, якія звязаны з Лідай.**

**І зараз настаўнік-краязнаўца, нягледзячы на паважаны ўзрост, працуе як ўважлівы да мінуўшчыны даследчык. Рукапісы новых артыкулаў Анатоля Кулеша — у рэдакцыях "Лідскай газеты", "Гродзенскай праўды". Будзем чакаць і мы іх публікацыі, а значыць — і новых знаёмстваў з гісторыяй Ліды і Лідчыны.**

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

ВІНШУЕМ!

# Сусветны беларус з Астравеччыны

### Адаму МАЛЬДЗІСУ — 70 год

Вы ведаеце, як наша шляхта васемнаццатага стагоддзя віншавала вельміпаважанага юбіляра? Як госці крычалі "віват", якія заздравіцы прамаўляліся, якія падаваліся на стол дзівосныя стравы?

Наш сённяшні юбіляр, прафесар, уладальнік многіх ганаровых тытулаў Адам Мальдзіс ведае гэта дакладна. Нездарма ён аўтар найцікавейшай кнігі пра звычаі і норавы беларускай шляхты XVIII стагоддзя. Нездарма ягоным сябрам быў непараўнальны Уладзімір Караткевіч, які і падаў ідэю стварэння гэткай кнігі.

Ёсць такое паняцце — "імя". Пра значнага, вядомага чалавека так і гавораць: "О гэта імя!"

Адам Мальдзіс — імя і не толькі ў кантэксце айчыннай літаратуры. Гаворачы пра гэтую асобу, увесь час даводзіцца паўтараць: "стварыў", "заснаваў", "ініцыяваў", "узначаліў". Так, у свой час Адам Мальдзіс стварыў у Інстытуце літаратуры сектар узаемасувязей літаратур, ініцыяваў і ўзначаліў утварэнне біябібліяграфічнага слоўніка беларускіх пісьменнікаў, дзякуючы яго ж намаганням быў заснаваны Нацыянальны навукова-асветніцкі цэнтр імя Ф. Скарыны, дырэктарам якога Адам Восіпавіч быў працяглы час, ім жа заснаваны часопіс "Кантакты і дыялогі"...

Цяжка пералічыць усе навуковыя, творчыя дасягненні Адама Восіпавіча, які карыстаецца вялікім аўтарытэтам у навукоўцаў усяго свету.

Але мы часта забываем, што за паняццем "імя" павінен быць чалавек. Бо нярэдка няўмольны час выяўляе, што за гучнай шыльдай не было анічога, вартага далучэння да вечнасці.

Адам Восіпавіч Мальдзіс — сапраўды значны чалавек, асоба. Яго ведаюць і як цікавага субяседніка з энцыклапедычнай эрудыцыяй і беларускім досціпам, і палымянага абаронцу беларушчыны, энтузіяста сваёй справы, прынцыповага і сумленнага чалавека.

Адам Мальдзіс — ураджэнец вёскі Расолы Астравецкага раёна. Ён ніколі не забываецца пра родную Астравеччыну, якой прысвячае свае краязнаўчыя даследаванні. Але можна сцвярджаць, што Адам Мальдзіс — чалавек Беларускага Космасу, чалавек, які звязвае, з'ядноўвае ў адзіную сістэму, у беларушчыну асобныя праявы, распаданыя па Сусвеце. Многія даследаванні Адама Мальдзіса прысвечаныя беларускім творцам замежжа, навуковым і літаратурным сувязям. А ўсе шматлікія падарожжы па свеце былі звязаныя менавіта з беларушчынай. Нездарма Адам Восіпавіч стаў прэзідэнтам Міжнароднай арганізацыі беларусістаў, старшынёй мемарыяльнай камісіі Саюза пісьменнікаў Беларусі, старшынёй камісіі "Вяртанне" Беларускага фонду культуры.

Але акрамя гэткай прасторавай універсальнасці, асоба Адама Мальдзіса валодае універсальнасцю часавай. Не толькі ў васемнаццатае стагоддзе падарожнічае яго нястрымная дапытлівасць. Даследаванне ім беларускай літаратуры даўніх часоў дазволіла закрыць шмат якія "белыя плямы" ў яе гісторыі.



Мы віншуем Адама Восіпавіча Мальдзіса з юбілеем. Няхай яшчэ не аднойчы грымнуць госці "Віват!" за яго сталом, няхай не аднойчы разгорне чытач з нецярплівасцю новую кнігу Адама Мальдзіса, няхай не аднойчы шчырымі воплескамі паважаная аўдыторыя аддзячыць за цікавае выступленне. У галерэі партрэтаў-парсунаў, якія вызначаюць аблічча нашага часу, безумоўна, партрэт нашага шляхетнага юбіляра — а слоўца "шляхетны" так і напрошваецца! — займае пачэснае месца.

**Л. Р.**

# СІНДРОМ

*(Заканчэнне. Пачатак на стар.9)*

Чарнавалосы засмяяўся:

— Яна не ўбачыць нават у падзорную трубу. Адсюль да Азербайджана, ведаеце, колькі кіламетраў?

— Да Азербайджана? — роблена здзівілася Зоя. — А Шамсадзін казаў, што яна пайшла да суседзяў.

— Да якіх суседзяў! — зноў засмяяўся чарнавалосы. — Мы тут у камандзір...

Ён не паспеў дагаварыць, бо ледзь не ўпаў ад штуршка, якім узнагародзіў яго Шамсадзін. Доўгім позіркам ён паглядзеў на Шамсадзіна і нешта сказаў яму на незнаёмай (відаць, азербайджанскай) мове. Шамсадзін устаў, і яны выйшлі на веранду.

Як ні прыслухоўвалася Зоя да гамонкі між імі, але ёй удалося пачуць толькі некалькі слоў: "студэнткі", "непрыемнасцяў мала?", "я пайшоў". Пачуўся бразгат клямкі і таропкія крокі, якія неўзабаве сціхлі.

— У Аліка нечакана з'явілася пільная справа. І ён, на жаль, не можа падтрымаць нашу кампанію, — аб'явіў, вярнуўшыся, Шамсадзін. — Ну што ж, давайце, як у класіка, "наполним бокалы, содвинем их разом". Вып'ем, дзяўчаты, за вашу прыгажосць, за любоў і ўзаемаразуменне.

Ён залпам выпіў віно. Прышчаты — таксама. З Тамарай толькі прыгубілі, а Райка... "Яна што — здурнела? — падумала Зоя, убачыўшы напалову пустую Раіну шклянку. — Ап'янее ж. І калі яна паспела выпіць тое віно?"

А Раі,відаць, і сапраўды ўдарыў у галаву хмель, бо яна толькі неяк па-дурному хіхікала, калі Шамсадзінава рука легла ёй на плячо, спаўзла да грудзей, а потым пачала пагладжваць яе загарэлае калена.

Прышчаты зыркаў савінымі вачыма то на Тамару, то на Зою: відаць, яшчэ не вырашыў, каго зрабіць аб'ектам сваёй увагі. Нарэшце пераставіў сваю табурэтку бліжэй да Тамары і абláпаў яе.

Тамара ірванулася з ягоных рук, але, сустрэўшы ўпрашальны (і зусім цвярозы!) Раін позірк, сціхла і, хаваючы агіду, пакорліва прымала грубыя заляцанкі прышчатага. Той, падмануты робленай Тамарынай прыязнасцю, зноў наліў поўныя шклянкі.

Шамсадзін першы ўстаў з-за стала:

— Ну, а цяпер, мае харошыя, нам пара бай-бай.

Ён абняў Раю за талію і памкнуўся весці яе ў суседні пакой. Рая аддана прыхілілася да ягонага пляча і штосьці зашаптала яму на вуха. Услых дадала: "І памыцца".

Шамсадзін паблажліва ўсміхнуўся:

— Ну давайце. Толькі хуценька. І па чарзе.

Рая капрызліва скрывілася:

— Шамсадзінчык, міленькі, адной стра-а-ашна.

— Добра. Ідзіце ўдваіх. Вунь з Тамараю.

— А Зоя? Ёй таксама трэба.

— А Зоя потым. Пасля вас.

Перад тым, як выйсці, Рая ўхітрылася шапнуць Зоі:

— Трэба ўцякаць. Счакай крыху і выходзь. Прыдумай штосьці-небудзь. Сустрэнемся на трамвайным прыпынку.

Праз колькі хвілін Зоя "спахапілася":

— Ой, яны ручнік не ўзялі. Занясу.

— Куды? — спыніў яе прышчаты. — Сядзь. Я сам занясу.

Ён сашмаргнуў з вешалкі бруднываты ручнік, выйшаў у двор. Неўзабаве за вокнамі пачулася лаянка, і прышчаты раз'юшана ўляцеў у хату:

— Яны збеглі! Збеглі, сучкі! А ўсё ты! "Шамсадзінчык, мілы!" Развесіў вушы, расcіропіўся! Але — няхай! У нас вунь гэтая лялька засталася.

Ён падскочыў да Зоі, сарваў з яе лёгкі паркалёвы сарафанчык і, наблізіўшы да яе свой брыдкі твар, здзекліва ашчэрыўся:

— Твае сяброўкі прасілі перадаць, каб ты разлічылася за іх.

...Зоя крычала, плакала, прасілася, але ўсё было дарэмна. Двое азвярэлых самцоў усю ноч здзекаваліся з яе, даючы поўную свабоду сваёй мярзотнай фантазіі. Асабліва стараўся прышчаты, спаталяючы сваю жывёльную жарсць...

Яна думала, што не скончыцца гэтая жудасная ноч. Яна думала, што памрэ ці звар'яцее. Але — скончылася і ноч, і сама яна. Не памерла і не звар'яцела. Ды толькі доўгі час пасля таго памкненне нават сімпатычнага ёй мужчыны абняць ці пацалаваць яе абуджала ў ёй пачуццё жаху і гідлівасці...

Усё страхі і сумненні сёння — у мінулым. Сёння Зоя — самая шчаслівая ў свеце жанчына, таму што побач з ёю любы, доўгачаканы і жаданы чалавек — яе Аляксей, яе Алёша.

Праўда, яна ўсё ж трошачкі хвалюецца: ці спадабаецца яна сваім будучым родзічам? Перад дарогай Зоя ўсе свае строі перабрала-перамерала, прычоску прыгожую зрабіла. А ўсё роўна хвалюецца. Няхай бы той брат не сустракаў іх на вакзале, а чакаў дома.

Але Зоі не пашанцавала: поезд яшчэ не спыніўся, як Аляксей, прытуліўшыся да акна, махнуў рукою: брат быў на пероне. Не паспеў Аляксей выйсці з вагона, як да яго кінуўся высокі хударлявы мужчына з залысінамі на светлавалосай галаве. Ён схапіў Аляксея ў абдымкі і мо цэлую хвіліну не адпускаў ад сябе.

— Ну хопіць, Лерык, хопіць, — вызваляючыся з братавых рук, усміхнуўся Аляксей. — Зірні лепш, якую красуню я абраў сабе ў жонкі. А гэты, Зоечка, "тыпус" і ёсць мой самы любімы і адзіны браток мой Валера.

— Ну-ну, шаноўная нявестка, пакажыся! — весела ўсклікнуў "браток Валера" і схіліўся, каб пацалаваць Зоіну руку. — Вельмі прыемна пазнаёміцца.

"І мне", — хацела сказаць Зоя, узнімаючы вочы на Аляксеевага брата, але...

Гарачае полымя шуганула ёй у твар, а сэрца апынулася недзе каля горла: жоўтыя савіныя вочы, тонкія вусны на шэрым твары! Прышчы зніклі, засталіся толькі маленькія сінявaтыя ямінкі-шрамы, але гэта быў ён — п р ы ш ч а т ы!

— Што з табою, Зоечка? — устрывожыўся Аляксей. — Табе блага?

— Не, не, гэта я так.. Я зараз. Мне трэба на хвіліначку адысціся. Я зараз, — адзервянелымі вуснамі прамовіла Зоя, — ты пачакай, я зараз...

— Ага, ды нявестачка наша, відаць, наследніка чакае! — гулліва падміргнуўшы Аляксею, прамовіў брат. — Ты не хвалюйся. У іхнім стане такое бывае. Не хвалюйся. Звычайная справа...

...Зоя хадзіла па вуліцах незнаёмага горада, у якім была ўпершыню ў сваім жыцці, а ёй здавалася, што яна зноў трапіла ў ТОЙ горад і зноў напярэдадні ТАЯ ноч.

Яна ўсё ішла і ішла, а перад вачыма крыўляліся, скалілі зубы агідныя мужчынскія твары, і ўсе, УСЕ яны былі як дзве кроплі вады падобныя адзін да аднаго — нахабныя, пажадлівыя і ненавісныя...

# Чылійскі беларус Ігнат Дамейка

Лёс Беларусі ў XIX стагоддзі склаўся так, што многія лепшыя яе сыны былі вымушаны працаваць на карысць іншых народаў, іншых краін. Сярод іх і наш зямляк Ігнат Іпалітавіч Дамейка, які стаў сусветна вядомым вучоным, пакінуў прыкметны след у самых розных галінах чалавечых ведаў: мінералогіі і фізіцы, хіміі і металургіі, геаграфіі і батаніцы, геалогіі і педагогіцы, этнаграфіі і заалогіі. Ігнат Дамейка нарадзіўся 31 ліпеня 1802 года ў сям'і Іпаліта і Караліны Дамейкаў у вёсцы Мядзвядка. У сям'і старшыні Навагрудскага земскага суда раслі тры сыны і дзве дачкі. Маці Караліна была з роду Анцутаў. Дзеці выхоўваліся ў атмасферы глыбокай рэлігійнасці і павагі да простых людзей, любві да ведаў і кнігі. Яны гаварылі на польскай і беларускай мовах, маглі весці гутарку на бытавыя тэмы і па-французску. Як сцвярджае Адам Мальдзіс, Ігнат вельмі любіў слухаць народныя казкі, якія па вечарах расказвала старая прыгонная Тадора. Ад яе ён і навучыўся гаварыць на беларускай мове. Хлопчык з дзіцячых год вылучаўся дапытлівым розумам і добрай памяццю. У сем гадоў Ігнат страціў бацьку. На дапамогу Ігнатавай маці прыйшлі Іпалітавы браты Ігнат і Юзаф. У 1809 годзе сямігадовага Ігната забраў на выхаванне бацькаў брат, таксама Ігнат, якому належаў у Лідскім павеце маёнтак Жыбуртоўшчына. Ён якая потым была ўвекавечана Міцкевічам у яго эпапеі "Пан Тадэвуш" (сцэна дуэлі паміж Дамейкам і Давейкам). У адной з такіх паездак Дамейка пазнаёміў Міцкевіча са сваёй стрыечнай сястрой Марыляй Верашчака. Звычайнае сяброўства хутка перарасло ў страснае пачуццё, трагічнае ў сваім зыходзе: Міцкевіч не быў такі багаты, каб Верашчакі адважыліся аддаць за яго сваю дачку. І Марыля стала жонкай Путкамера.

Вясной 1821 года маці Ігната Дамейкі атрымлівае ў спадчыну маёнтак свайго брата Станіслава Анцуты Сачыўкі каля Крашына з усёй рухомасцю. Гаспадаром маёнтка яна хацела бачыць свайго сына Ігната. Хлопец, вядома ж, не раз прыязджаў з Вільні ў Сачыўкі, дапамагаў маці гаспадарыць, але назаўсёды пакінуць вучобу не мог. У 1822 годзе Дамейка закончыў універсітэт, аднак не спяшаўся з ім развітвацца. Яму хацелася глыбей вывучыць гісторыю, літаратуру. Ён ужо добра ведаў французскую і англійскую мовы, вывучаў яшчэ і нямецкую і латынь. Хацелася таксама пазнаёміцца з гісторыяй архітэктуры, з геадэзіяй. Акрамя таго, затрымлівалі хлопца ва універсітэце ў Вільні і абавязкі ў таварыстве філаматаў, куды яго ахвотна прынялі старэйшыя сябры, відаць, не без падтрымкі былога "дарэктара" Ануфрыя Петрашкевіча. закрыты, паліцыя сачыла за кожным яго крокам. Але Дамейка, гонар універсітэцкіх прафесараў, не губляе прысутнасці духу. Жыццё ў глушы было нялёгкім. Ігнат заняўся сельскай гаспадаркай. Гэта дазволіла яму лепш пазнаёміцца з жахлівымі ўмовамі жыцця прыгонных сялян, паглыбіць веданне беларускай мовы, засвоенай яшчэ ў дзяцінстве. Ён адкрыў у сваім маёнтку Заполле сельскую школу, зменшыў паншчыну настолькі, наколькі дазвалялі тагачасныя законы.

Часам з суседзямі ездзіў на паляванне, наведваў у Бальценіках сваю стрыечную сястру Марылю Верашчака, у якую быў закаханы Адам Міцкевіч. У Жыбуртоўшчыне наведваў дзядзьку Ігната, заглядваў да сястры ў вёску Далматаўшчына.

У Заполлі пад неаслабным паліцэйскім вокам гаспадарыў Ігнат Дамейка цэлых шэсць гадоў. Невядома, колькі б яшчэ доўжылася гэта, хай і непакутлівая, ссылка, калі б не паўстанне 1830-1831 гадоў у Польшчы і на Беларусі, у якім Дамейка прыняў актыўны ўдзел.

Разам з іншымі мясцовымі патрыётамі непадалёку ад Ліды Дамейка далучыўся да арміі генерала Ізідара Адама Хлапоўскага і ў яе радах змагаўся супраць царскага самаўладдзя. Адама Міцкевіча, дапамог сябру ў выданні паэмы "Пан Тадэвуш" — вечарамі ён дапамагаў Міцкевічу перапісваць начыста яго геніяльнага "Пана Тадэвуша". За гэта паэт падарыў яму першы экземпляр паэмы.

Парыж, гэты важны цэнтр еўрапейскай культуры, у пару знаходжання ў ім Ігната Дамейкі перажываў росквіт прыродазнаўства. І гэта ў поўнай меры скарыстоўвае наш "літоўскі" прыродазнаўца, мінералог. Каб удасканаліць свае веды ў выбраннай мінералогіі, Ігнат Дамейка паступае ў Горную школу, зноў садзіцца на студэнцкую лаву. За тры гады ён прайшоў увесь курс навучання, скончыўшы школу ў 1837 годзе з вялікім багажом ведаў і дыпломам спецыяліста ў руках.

Дамейка не раз звяртаўся ў думках на радзіму, але ў жыцці гэта было нерэальна, бо там яго чакала турма. Ён шукае, дзе прымяніць свае веды — для практыкі ў горнай справе на поўдні Францыі, працаваў у Эльзасе, але ўсё гэта было не тое. На пастаянную працу Дамейку запрашаюць у Эльзас, дзе ён знайшоў багатыя паклады жалезнай руды. Яму даручаюць арганізацыю яе выплаўкі, за што абяцаюць добрыя заробкі, але перспектыва звязаць сваё жыццё з прамысловасцю ў чужой краіне не надта цешыць вольналюбівага "ліцвіна". Дапамог выпадак. Якраз у гэты час Ігнат



*Герб Дамейкаў — Дангель*

меў агранамічную адукацыю і прывучаў малога Ігната гаспадарыць на зямлі. Дзядзька Юзаф, які таксама жыў у Жыбуртоўшчыне, некалі скончыў горную школу ў Фрайбергу (Нямеччына) і меў у сваім доме немалую калекцыю мінералаў і прыродазнаўчых кніг. Ён быў адным з вучняў заснавальніка геалагічнай навукі — знакамітага прафесара Абрама Готлаба Вернера. Дзядзька Юзаф хацеў зацікавіць малога Ігната канкрэтнымі навукамі і ў першую чаргу сваёй любімай мінералогіяй. Расказы дзядзькі аб дзівосных скалах і камянях Саксоніі зрабілі вялікае ўражанне на Ігната і, відавочна, паўплывалі на выбар прафесіі. У 1812 годзе юнак паступіў у трэці клас піярскай школы ў Шчучыне, у якой шмат увагі ўдзялялася прыродазнаўчым навукам, бо школьную праграму складаў тут былы яе выкладчык, вядомы мінералог і батанік Станіслаў Баніфацы Юндзіл. У школе быў мінералагічны музей, багатая бібліятэка. Вучні былі пад апекай гувернёраў, ці "дарэктараў". Такім "дарэктарам" у Ігната быў будучы паэт-філамат Ануфры Петрашкевіч, дарэчы, таксама схільны да прыродазнаўства. Добры ўплыў аказаў на Ігната і выкладчык ксёндз-піяр Львовіч. У чатырнаццаць гадоў Ігнат Дамейка закончыў Шчучынскую піярскую школу і стаў студэнтам прыродазнаўчага аддзялення фізіка-матэматычнага факультэта Віленскага універсітэта, дзе з цікавасцю вывучаў біялогію, хімію, матэматыку. Адначасова наведваў лекцыі прафесараў літаратуры і гісторыі. Сярод выхаванцаў універсітэта таго часу можна назваць Яна Чачота, Тамаша Зана, Адама Міцкевіча. У хуткім часе Міцкевіч і Дамейка пазнаёміліся (у далейшым гэта знаёмства перарасло ў дружбу). Праз пэўны час (у 1819 годзе) Ігнат стаў членам тайнага таварыства філаматаў, дзе атрымаў канспіратыўнае імя Жэгота. Гэта студэнцкае згуртаванне ўзнікла ў 1817 годзе і напачатку ставіла перад сабою выключна асветніцкія мэты. У таварыстве філаматаў Ігнат загадваў касай самадапамогі і вёў заняткі па фізічнай геаграфіі. У маляўнічых ваколіцах Вільні філаматы збіраліся на тайныя сходы часта выязджалі ў вёску Мядзвядку,

У 1823 годзе Ігнат абараняе навуковую працу па матэматыцы.

Прыйшла пара ўладкоўвацца на работу. Вядома, маладога хлопца вабіў да сябе горад, дзе ён мог знайсці як спецыяліст добрую работу. Але перамагла "агітацыя" дзядзькі Ігната заняцца гаспадаркай на вёсцы. Паколькі ў Сачыўках, дзе жыла маці, гаспадарыў цяпер муж сястры, Ігнату Дамейку аддавалі ў валоданне маёнтак Заполле ў Лідскім павеце. З дыпломам магістра філасофіі Ігнат пераязджае ў Заполле, дзе ў той час было 30 хат і некалькі соцень дзесяцін урадлівых зямель і сенажацей. Панская сядзіба ляжала каля тракта Гродна — Вільня. Спакойна пажыць Ігнату Дамейку тут давялося толькі некалькі месяцаў. Дваццацігадовы Жэгота з цікавасцю і маладым запалам узяўся за гаспадаранне, зрабіўся нават вядомым "ва ўсёй Літве эканомам", як адзначана ў III частцы "Дзядоў" Адама Міцкевіча.

У 1823 годзе царскім уладам удалося натрапіць на след тайных арганізацый, цесна звязаных з будучымі дзекабрыстамі. У Вільню прыехаў сенатар Навасельцаў, які ўзначаліў арышт і допыты. У турмы было кінута больш ста юнакоў. Калі пачалося следства па справе філарэтаў (аматараў ведаў і навукі) і філаматаў (аматараў мудрасці і дабрачыннасці), камісія даведалася і пра ўдзел Ігната Дамейкі ў тайным згуртаванні моладзі. У лістападзе 1823 года яго арыштоўваюць у Заполлі, дастаўляюць у Вільню ў базыльянскі кляштар. Камеры Міцкевіча і Дамейкі аказаліся побач.

Філаматаў прыгаварылі да высылкі. Ігнату Дамейку пашанцавала: яго не выслалі за межы Беларусі. Пазбегнуць высылкі ў "аддаленыя губерніі Расіі" дапамаглі яму ўплывовыя дзядзькі. Улады пакуль што задаволіліся толькі высылкай "змоўшчыка" на вёску, у яго ж Заполле, пад нагляд паліцыі і без права працаваць у дзяржаўных установах.

24 кастрычніка 1824 года Ігнат Дамейка развітаўся ў Вільні з Адамам Міцкевічам і сябрамі-філаматамі, якіх саслалі ў далёкія губерні Расіі, а сам паехаў у Заполле.

Шлях да грамадскай дзейнасці быў наглуха

З чэрвеня 1831 года Ігнат Дамейка з паўстанцкім атрадам генерала Ізідара Адама Хлапоўскага ўвайшоў у Ліду. Камендант лідскага гарнізона Юльян Міхалоўскі загадаў здаць горад без бою. Салдат раззброілі і адпусцілі. Паручнік Міхалоўскі далучыўся да паўстанцаў. 5 чэрвеня 1831 года атрад Хлапоўскага пакінуў Ліду і накіраваўся ў Вільню. Ігнату Дамейку прысвоілі афіцэрскае званне і прызначылі ад'ютантам камандзіра пяхотнага палка.

18 чэрвеня 1831 года генерал Хлапоўскі далучыўся да дванаццацітысячнага атрада генрала А. Гелгуда. Назаўтра аб'яднаныя паўстанцкія сілы спрабавалі заняць Вільню, але пацярпелі паражэнне. Неўзабаве вялікія страты панеслі паўстанцы і пры бітве каля Шаўляя. Яшчэ тры тыдні з баямі часці Хлапоўскага і Гелгуда адступалі. Пасля паражэння паўстання Ігнат Дамейка разам з сябрамі вымушаны быў эмігрыраваць. 12 — 14 ліпеня 1831 года 6800 чалавек з 27 гарматамі перайшлі граніцу Прусіі непадалёку Круляўца і былі інтэрніраваны прускімі ўладамі. Апынуўся ў Прусіі і Ігнат Дамейка з верным яму слугой Лукашом. Перад пераходам граніцы генерал Хлапоўскі прысвоіў усім афіцэрам чарговае званне. Ігнат Дамейка стаў паручнікам. Больш за паўгода Ігнат Дамейка правёў у лагеры для інтэрніраваных.

Пасля разгрому паўстання ўцалелыя яго ўдзельнікі падаюцца ў сталіцу Саксоніі Дрэздэн, які даў часовы прытулак перад ад'ездам далей на Захад. Немцы, верныя саюзнікі рускага цара, прапанавалі інтэрніраваным, хто хоча вярнуцца на радзіму, падпісаць просьбу аб амністыі, даць абяцанне не прымаць удзелу ні ў якой барацьбе супраць царызму. Хто не згаджаўся і меў грошы, мог атрымаць пашпарт і нязначную грашовую дапамогу для выезду ў Францыю. Пачаліся гады эміграцыі. Да канца жыцця.

3 студзеня 1832 года Ігнат Дамейка атрымаў пашпарт, а праз два дні накіраваўся ў Дрэздэн. Прыйшлося развітацца з Лукашом, які з дакументам, дзе была просьба аб амністыі, накіраваўся пешшу ў Заполле з пісьмом да дзядзькі Ігната.

У лютым 1832 года Ігнат Дамейка быў ужо ў Дрэздэне. Пасля васьмігадовай разлукі ён сустрэўся тут з Адамам Міцкевічам. Пад канец чэрвеня 1832 года Ігнату Дамейку і Адаму Міцкевічу былі ўручаны афіцыйны загад пакінуць Саксонію і 1 жніўня 1832 года выгнаннікі былі ўжо ў Парыжы, дзе Ігнат Дамейка пражыў больш за пяць гадоў. Жыў там Дамейка з Міцкевічам у адным з недарагіх гатэляў, потым сябры знайшлі прыватныя кватэры. У Парыжы ў той час сабралася мноства былых паўстанцаў. Усе яны спадзяваліся хутка вярнуцца на радзіму, каб працягваць барацьбу з царызмам. У Парыжы Ігнат Дамейка апынуўся ў самым цэнтры польска-беларуска-літоўскага эмігранцкага руху. Ён часта выступаў на мітынгах з палымянымі прамовамі, заклікаючы працягваць барацьбу з царызмам, зблізіўся з такімі выдатнымі дзеячамі эміграцыі, як былы прафесар Віленскага універсітэта Іяахім Лялевель. Адным з бліжэйшых сяброў Дамейкі стаў ураджэнец Слонімшчыны Міхаіл Валовіч, які ў 1833 годзе нелегальна вярнуўся ў Беларусь, спрабаваў тут узняць сялянскае паўстанне і быў за гэта павешаны ў Гродне.

Мэтанакіраваны і поўны энергіі, Дамейка у сваіх лістах на радзіму піша, што марна шукае суцяшэння ў кнігах і навуках. У лістападзе 1833 года ён разам з Міцкевічам і іншымі эмігрантамі падпісаў зварот да былых паўстанцаў, у якім засцерагаў іх ад непрадуманых і паспешных дзеянняў.

У Парыжы Дамейка быў сведкам на вяселлі

Дамейка атрымаў з Парыжа пісьмо ад Адама Міцкевіча, якое стала паваротным пунктам у яго жыцці: "Мілы Жэгота! Ну вельмі рады, што ты нарэшце знайшоў сваю руду... Але ці ведаеш ты, што цябе чакаюць амерыканскія капальні? Быў якраз сёння ў мяне паляк Ястжэмскі, які сустракаўся з французам Дуфрано. Хто такі гэты Дуфрано, я не ведаю. Але ён сказаў, што ёсць для цябе месца ў Чылі, дзе ты станеш прафесарам хіміі і мінералогіі, дадуць табе грошы на дарогу і зарплату тры тысячы даляраў. Ястжэмскі кажа, што гэта будзе 15 тысяч франкаў. Выезд у кастрычніку. Так што пішы Дуфрано і даведвайся пра падрабязнасці". Потым у сваіх нататках, расказваючы пра тое, як успрыняў пісьмо сябра, Дамейка пісаў: "Я ажыў. Ажылі і мае дзіцячыя мары пра далёкія вандраванні. Нядоўга думаючы, я напісаў, што згодны". Што ж да Адама Міцкевіча, то хоць ён і знайшоў гэтае месца для сябра, сам быў вельмі засмучаны расставаннем з ім. 29 студзеня 1838 года ён пісаў Г. Кайсевічу: "Я ў смутку, бо трачу Дамейку, старога і праверанага сябра. Бог ведае, калі яго яшчэ ўбачу". Трывога Адама Міцкевіча была недарэмная: сябры ўжо ніколі пасля не сустракаліся. Усхваляваным было і само развітанне Дамейкі ў доме Міцкевічаў, куды ён завітаў перад ад'ездам. Маленькая Адамава дачка Марыня, як заўсёды, папрасілася Дамейку на рукі — яна не ведала, што добры дзядзька гушкае яе апошні раз.

9 лютага 1838 года акіянскі брыг "Стэй" выйшаў з Лондана і ўзяў курс на Канарскія астравы, каб скіравацца потым праз Атлантычны акіян да берагоў Паўднёвай Амерыкі. Згодна з пагадненнем Ігнат Дамейка павінен быў папрацаваць у Чылі шэсць гадоў. Малады вучоны не падазраваў, што яго прабыванне ў далёкай краіне зацягнецца на 46 год, і што Чылі стане для яго другой радзімай, не прадбачыў, якую ролю яму давядзецца сыграць у развіцці гэтага краю. Аднастайнае марское падарожжа змянілася коннай вандроўкай праз аргенцінскія стэпы, нялёгкай пераправай цераз хрыбты Андаў. Са шматлікімі перапынкамі, перасадкамі І. Дамейка дабіраецца да сталіцы Аргенціны Буэнас-Айрэса. Далей можна было рухацца толькі па сушы. Трэба было спяшацца, бо набліжалася зіма, і ўзнікала небяспека пакрыцця снегам перавалаў праз Анды. Дамейка са сваім спадарожнікам (прадстаўніком Чылі Карлам Ламбертам) накіраваўся конна праз пампасы (паўднёва-амерыканскія стэпы). Ім даводзілася перапраўляцца праз рэкі, начаваць на паштовых станцыях у хатках, складзеных з неабпаленай цэглы або зямлі. Неадноўчы дахам для нашага земляка служыла зорнае неба. Аднак, нягледзячы на ўсе цяжкасці, Ігнат не забываўся пра навуку — збіраў па дарозе мінералы, апісваў геалагічную будову глебы. У пустынях і стэпах падарожніка мучылі смага і спёка, у дрымучых лясах трывожылі індзейскія плямёны антыподаў (так называлі тады дзікіх жыхароў супрацьлеглага паўшар'я), у гарах засыпаў снег, пагражалі абвалы. Але няспынны адкрывальнік ехаў наперад. І вось за перавалам у стромкіх Андах ён сустрэў першых чылійцаў — жыхароў маладой тады паўднёваамерыканскай рэспублікі, якая толькі ў 1818 годзе вызвалілася ад прыгнёту еўрапейскіх каланізатараў. Гэта былі пераважна нашчадкі мясцовых індзейцаў.

*(Працяг на стар. 14 — 15)*



*Маёнтак Мядзвядка напрыканцы XIX стагоддзя*

## Жыцця прыгожы дар

*ВЯДОМЫ ПЕДАГОГ І ВУЧОНЫ, КАНДЫДАТ ФІЛАЛАГІЧНЫХ НАВУК ВЕРА БАРЫСАЎНА ХАЦКЕВІЧ НЯДАЎНА АДЗНАЧЫЛА СВОЙ 75-ГАДОВЫ ЮБІЛЕЙ.*



**Усё сваё жыццё Вера Барысаўна шчыравала на ніве нацыянальнай адукацыі, яна супрычынілася да падрыхтоўкі кваліфікаваных спецыялістаў з краін Блізкага Усходу, з якімі ў нашай дзяржавы наладжваюцца ўсё больш трывалыя эканамічныя сувязі.**

**Вера Барысаўна нарадзілася ў сялянскай сям'і народных умельцаў і майстроў сваёй справы. Дзед па бацькоўскай лініі Даніла Сямёнавіч Хацкевіч быў вядомым на ўсю Барысаўшчыну сталяром, цесляй, адмыслова мог скласці любую печ. Бацька, Барыс Данілавіч, з 14-гадовага ўзросту шыў па вёсках світкі і кажухі. Зграбны і працавіты хлопец не заставаўся па-за ўвагай мясцовых дзяўчат. Абраў ён сабе ў жонкі здатную да любой працы Соф'ю Андрэеўну Дземянцей. Выходзячы замуж, яна здзівіла ўсю мужаву радню ў вёсцы Ратуцічы, прывёзшы ў пасаг вялізны куфар з надзвычай прыгожымі саматканымі посцілкамі, вышыванкамі, ручнікамі, аздобленымі цудоўнымі карункамі, вопраткай — і ўсё гэта было зроблена яе рукамі. А якая красуня была дзяўчына! Мусіць, пра такіх беларусачак пісаў Янка Купала:**

*На беларускую дзяўчыну,*
*Калі тут праўду ёй аддаць,*
*Ніхто йшчэ каменем не кінуў*
*І не паважыцца кідаць.*

**Маці Веры Барысаўны, Соф'я Андрэеўна, дапамагала бацькам і ў полі, і дома, выгадавала чатырох малодшых братоў і сястру, якія сталі паважанымі людзьмі і перабраліся ў Маскву. І ці не бабуліныя ручнікі і вышыванкі яшчэ з дзяцінства ўразілі спадкаемцаў, абудзілі ў іх сэрцах імкненне да прыгожага. Невыпадкова сын Веры Барысаўны — Юрый Піскун і яе ўнучкі Вольга, Соф'я і Валянціна сталі прафесійнымі мастакамі.**

**Усе родныя Веры Хацкевіч, ды і яна сама, падчас Вялікай Айчыннай вайны не проста чакалі перамогу, а набліжалі яе, як маглі. Бацька загінуў ва Усходняй Прусіі 14 красавіка 1945 года, старэйшая сястра Надзея была медсястрой у партызанскім атрадзе ў раёне возера Палік.**

**З 1944 па 1947 гады Вера Хацкевіч вучылася ў Барысаўскім педвучылішчы, а паспяхова яго закончыўшы, стала студэнткай філалагічнага факультэта БДУ. Пасля атрымання дыплома ў 1952 годзе паступіла ў аспірантуру, праз чатыры гады абараніла кандыдацкую дысертацыю па праблеме словаўтварэння ў сучаснай беларускай мове. Працоўны стаж Веры Барысаўны большы за паўстагоддзе! Спачатку працавала ў Белдзяржуніверсітэце, потым 10 гадоў у Навукова-даследчым інстытуце педагогікі Міністэрства асветы БССР на пасадзе старшага навуковага супрацоўніка, далей — Мінскі інстытут культуры, Беларуская дзяржаўная акадэмія фізічнай культуры.**

**Усё сваё жыццё Вера Барысаўна аддала справе выхавання і навучання Чалавека. Багаты спектр навуковых праблем, што распрацаваны і даследаваны Верай Хацкевіч, шырока прадстаўлены ў шэрагу навуковых прац па надзвычай актуальных праблемах — фарміраванне культуры моўных зносін, вывучэнне роднай і замежных моў і інш. Вось толькі пералік некаторых публікацый Веры Барысаўны: "Культура мовы ў дзяцей"; "Фразеалагічныя багацці народнай мовы", "Вучэбныя тэксты па беларускай мове як сродак этычнага і эстэтычнага выхавання студэнтаў"; "Матэрыялы і методыка выкладання беларускай мовы ў АФВіС"; "Мастацкія асаблівасці і мова "Песень заходніх славян" А. Пушкіна", "Метафары ў сучаснай беларускай мове"; "Катэгорыі роду назоўніка ў рускай і арабскай мовах" і інш.**

**Апантанасць навуковай дзейнасцю, зацікаўленасць і штодзённая праца над павышэннем свайго прафесійнага ўзроўню дазваляе Веры Барысаўне творча падыходзіць не толькі да даследчыцкай, але і да выкладчыцкай дзейнасці. Яна і зараз вучыць беларускіх студэнтаў і студэнтаў-замежнікаў. Поспех гэтай працы ў многім абумоўлены тым, што сама Вера Барысаўна добра валодае арабскай мовай. Яе навукова выверaная, грунтоўная методыка выкладання моў абуджае ў студэнтаў з Блізкага Усходу цікавасць і жаданне актыўна карыстацца беларускай і рускай мовамі.**

**У юбілейныя дні мы цёпла і сардэчна вітаем дарагую Веру Барысаўну Хацкевіч — чалавека і настаўніка, які шчодра аддаў свой багаты дар сэрца шматлікім пакаленням выхаванцаў. Хай ёй добра пачуваецца і светла думаецца, а творчая дзейнасць прыносіць і надалей радасць і асалоду.**

**Таццяна САВЕЛЬЕВА,**
**Валянціна УДАВІЧЭНКА,**
**Людміла ЦІТОВА, навуковыя супрацоўнікі Навукова-метадычнай установы "Нацыянальны інстытут адукацыі" Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.**

# Чылійскі беларус Ігнат Дамейка

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 13)*

Свабодалюбівыя, яны стагоддзямі змагаліся супраць іспанскіх захопнікаў і выстаялі ў няроўнай барацьбе. З цікавасцю прыглядаўся Дамейка да стракатай вопраткі чылійцаў, пашытай з грубых шарсцяных тканін, да каларытных нацыянальных танцаў і гульняў.

З вялікай цяжкасцю караван пераадолеў Анды, і Дамейка нарэшце апынуўся ў Какімба. З Францыіі да новага месца працы ён дабіраўся некалькі месяцаў.

Генерал Алдунацэ, які кіраваў правінцыяй Какімба, прыняў яго вельмі зычліва і паабяцаў, што да верасня, калі павінны будуць пачацца заняткі, будзе і будынак лабараторыі.

Наш зямляк наладжвае свой быт, з дапамогай вучняў будуе памяшканне для лабараторыі, чытае ім лекцыі на іспанскай мове (ён вывучыў яе ў дарозе за тры месяцы). Акрамя таго, рыхтуецца са сваімі вучнямі да экспедыцыі ў горы. У час гэтых вандровак нястомны вучоны адкрыў некалькі радовішчаў карысных выкапняў — серабра, медзі, золата, вугалю. Яму ж належыць і адкрыццё сусветна вядомых у той час радовішчаў салетры.

Дамейка распрацаваў арыгінальную методыку навучання, сутнасць якой у практычным замацаванні ведаў, у паступовым і трывалым засвойванні вучнямі асноўных паняццяў і законаў хіміі, фізікі, геалогіі.

Вучні Дамейкі навучыліся карыстацца неабходнымі прыборамі, аналізаваць любую руду, выплаўленыя металы, а трое, пасля вучобы ў Парыжы, гатовы замяніць свайго выкладчыка.

Шмат падарожжаў зрабіў Ігнат Дамейка. То на кані, то пехатой ён забіраўся ў самыя аддаленыя куткі краіны. Яго маршруты пралягалі ад перуанскай мяжы на поўначы да Вогненнай Зямлі на поўдні. Ён першым з вучоных склаў падрабязную карту распрацовак каменнага вугалю ў Кансепсіене, першым вызначыў характар медных руд у Чыкікамаце і Патрарыльеса. У сваіх падарожжах па Чылі Ігнат Дамейка цікавіцца не толькі карыснымі выкапнямі ды мінераламі гэтай горнай краіны, усімі яе прыроднымі багаццямі, але жыццём яе насельнікаў, побытам рабочых у капальнях і асабліва з карэннымі жыхарамі Паўднёвай Амерыкі — індзейцамі, іх традыцыйнай культурай. У снежні 1844 года беларускі выгнаннік наладжвае заманлівае для яго падарожжа на поўдзень Чылі — у краіну свабодалюбівых індзейцаў, якія 300 гадоў адстойвалі сваю незалежнасць, мужна змагаючыся з іспанскімі каланістамі. Па матэрыялах падарожжа І. Дамейка напісаў і апублікаваў у 1846 годзе на іспанскай мове ў Какімба кнігу "Араўканія і яе жыхары".

Кніга была зычліва прынятая чылійскім грамадствам, хоць наш зямляк, праціўнік заваёў і каланіялізму, папракаў чылійцаў за варожасць да мапучэ. Урад рэспублікі таксама прыслухаўся да голасу аўтарытэтнага чужаземца ды адмовіўся ад намеру заваяваць Араўканію. Грамадзянская мужнасць Ігната Дамейкі выратавала ад гібелі тысячы маладых чылійцаў. Кніга была перакладзена на многія іншыя мовы, у 1860 годзе перавыдадзена ў Вільні, у друкарні Юзафа Завадскага. Пераклаў яе з іспанскай на польскую мову Ян Замастоўскі, карэспандэнт "Газеты Варшаўскай" у Парыжы. Кніга распаўсюджвалася на Беларусі і ў Літве. Дамейка многа часу аддае практычнай рабоце па вывучэнню прыродных багаццяў Чылі, пустыні Атакама і суседніх тэрыторый. Шэсць разоў перасякаў Дамейка найвышэйшы горны ланцуг Паўднёвай Амерыкі — Анды, знайшоў там юрскія адкладанні, даказваў, што гліны Чылі і Бразіліі — трацічнага паходжання. Ён адкрыў і даследаваў багатыя залежы медных руд і каменнага вугалю ў Чылі, зрабіў фізіка-геаграфічнае апісанне паўднёвай часткі Чылі — Араўканіі, першы арганізаваў у Чылі здабычу каменнага вугалю.

Незаўважна прайшоў час, калі закончыўся тэрмін працы Ігната Дамейкі ў Какімба. Вучоны мог цяпер спакойна вяртацца дадому. Але дарога на радзіму яму ўсё яшчэ была перакрыта: улады не надта чакалі там змоўшчыка-філамата і паўстанца. І Ігнат Дамейка мусіў застацца яшчэ на нейкі час за акіянам. У 1846 годзе ён ужо цвёрда вырашыў вяртацца ў Еўропу, бліжэй да радзімы. Але чылійскія ўлады прасілі папрацаваць яшчэ на карысць маладой рэспубліке. Дамейка ізноў адклаў свой ад'езд. Тым больш, што яго перавялі ў сталіцу краіны Сант'яга, дзе прапанавалі пасаду прафесара хіміі і мінералогіі адкрытага ў 1843 годзе тут універсітэта. Дамейка быў запрошаны ў Сант'яга таксама і з мэтай дапамогі ў правядзенні рэформы ва універсітэце, пра што ён пісаў міністру адукацыі Чылі. У 1847 годзе ён атрымаў ва універсітэце кафедру хіміі, стаў членам універсітэцкай рады, займаўся навуковай і выкладчыцкай дзейнасцю. Захоплены ёю, Дамейка не абмяжоўваецца кабінетнымі сценамі, яго ўвесь час цягне ў горы, вывучаць прыроду Чылі. У 1845 годзе Дамейка адправіўся ў небяспечнае падарожжа да дзеючага вулкана Антука. Моцны вецер і паток лавы не дазволілі вучонаму дабрацца да самага кратэра. Але затое наш зямляк зрабіў першае апісанне гэтага вулкана.

У Какімба ён мог ажаніцца, займець, як усе людзі сям'ю. Ды выгнаннік ведаў, што жаніцьба магла б стаць непераадольнай перашкодай да вяртання, і ён адмовіўся ад свайго намеру. І ўсё ж жыццё мацнейшае за чалавечыя планы. Усе карты змяшала Ігнату Дамейку чароўная маладая паненка Энрывета дэ Сатамаер, якая прычаравала прафесара, і вось 48-гадовы Дамейка 7 ліпеня 1850 года бярэ шлюб з 15-гадовай чылійкай. Да гэтага часу ў Дамейкі быў раскошны дом з садам на ўскраіне Сант'яга. Тут, у строгім кабінеце, была напісана большасць яго навуковых прац. Па заданню ўрада Чылі Дамейка распрацаваў і правёў школьную рэформу, пасля чаго навучанне ў Чылі стала больш дэмакратычным і агульнадаступным. Беларус па паходжанню, віленскі філамат і запольскі гаспадар цяпер каранямі пачаў урастаць у паўднёваамерыканскую зямлю. Яшчэ раней сябры папракалі Ігната Дамейку за тое, што ён быццам пачаў забываць родны край. На гэта беларускі выгнаннік даваў такі адказ: "Вядома ж, перарадзіцца я ніколі не здолею і спадзяюся на Бога, што я — ці ў Кардыльерах, ці ў Панарах — усё роўна памру ліцвінам...". Ігнат Дамейка і пасля таго, як ужо моцна звязаўся з чылійскай зямлёй, як прыняў чылійскае грамадзянства, як адно за адным пайшлі ў сям'і дзеці, не пакідае надзеі вярнуцца на радзіму. 12 студзеня 1854 года ён пісаў Адаму Міцкевічу: "Калі б была магчымасць вярнуцца і паслужыць яшчэ, хоць на старасці год, свайму краю, то не ўседзеў бы, не ўседзеў бы тут, хоць я даўно ўжо стаў грамадзянінам гэтай краіны, уладальнікам маёнтка і бацькам..." Пасля Сусветнай выстаўкі ў Парыжы ў 1867 годзе, дзе Дамейка прадстаўляў маладую прамысловасць Чылі, яго выбралі рэктарам універсітэта ў Сант'яга. Перыядычна на гэтай пасадзе ён быў у 1867-1883 гадах.

Чорным для Ігната Дамейкі і сям'і стаў снежань 1870 года: нечакана на 36-м годзе жыцця памерла жонка. На руках у яго засталося трое дзяцей: пятнаццацігадовая дачка Аніта і два меншыя хлопцы — Герман і Казімір. Не паспеў Дамейка адысці ад смерці жонкі, як новая цяжкая вестка выбіла яго з каляіны: памёр дома родны брат Казімір. Затым памёрлі другі брат, родная сястра, яе муж. Род Дамейкаў вымірае, застаўся ў жывых нашчадак дзядзькі Ігната — Лявон. Усё гэта Ігнат Дамейка балюча перажываў. Усё радзей і радзей прыходзяць пісьмы з Беларусі, усё менш займаецца ён навуковаю працай, узрастае туга па родным краі. У адным з пісьмаў сябру-філамату Антону Адэнцу Дамейка піша: "Вечарамі, калі мой дом і агарод поўніцца пахам руж і лімоннай квецені і ніхто мяне не чуе, сядаю за фартэпіяна і граю тыя дваццаць песень, якія запомніліся шэсцьдзесят год таму". Сярод іх былі і беларускія песні — песні таго народа, сярод якога ён рос, мужнеў, які ўсё жыццё любіў і помніў. Праз колькі часу ў змрочных хмарах няшчасцяў бліснуў Ігнату Дамейку і прамень святла. З далёкай радзімы прынеслі яму пісьмо ад пляменніка — Казіміравага сына Лявона, які вярнуўся з Сібіры, дзе адбываў пакаранне за ўдзел у паўстанні 1863 года. У пісьме сын дарагога брата выказваў намер прыехаць да яго, пакінутага ўсімі Ігната Дамейкі, сюды, у Чылі, пагасціць. Гэтую нечаканую радасць сустрэчы з першым пасля многіх гадоў адзіноты родным чалавекам, якога, праўда, і ў вочы не бачыў, Дамейка чакаў з нецярплівасцю. Сустрэча з пляменнікам не толькі дала палёгку душы выгнанніка, але і ў нейкай ступені змяніла жыццё Дамейкавай сям'і. Лявон, які прабыў



*І. Дамейка*

у гасцях каля месяца, з усім сваім маладым запалам закахаўся ў гожую дзядзькаву дачку Аніту. Аніта таксама ўпадабала хлопца. Пачалася гутарка пра шлюб. Як ні шкада было Дамейку, але мусіў ён аддаць дачку замуж за пляменніка, які спецыяльна прыехаў яшчэ раз па яе і звёз туды, на радзіму, у "Літву", у тую самую Жыбуртоўшчыну, дзе некалі прайшло маленства яе выгнанніка-бацькі. Услед за дачкой ізноў пачаў парывацца туды Ігнат Дамейка: цяпер жа, здаецца, сам Бог клікаў яго на радзіму. Ён вельмі сумаваў па Айчыне, але ведаў: у Расійскай імперыі ўлады не жадаюць яго вяртання, там чакала яго ссылка. Радзіму ж ён наведаў незадоўга да смерці.

Цяпер можна смела сказаць, што толькі тут, у Чылі, ва ўсёй паўнаце раскрыліся выдатныя здольнасці нашага земляка. Яго нават выбралі вярхоўным суддзёй па горных спрэчках. Дамейка першы распачаў картаграфаванне і раянаванне геаграфічных і геалагічных з'яў, у сваіх навуковых працах закранаў праблемы межаў геаграфічных арэалаў. Дамейка распрацаваў арыгінальную на той час канцэпцыю пра залежнасць прадукцыйнасці геаграфічнага асяроддзя ад натуральных умоў: тапаграфічнага становішча краіны, геалагічнай будовы нетраў, гідраграфіі, расліннасці і інш. Свае шматлікія працы, у тым ліку падручнікі па хіміі, мінералогіі, фізіцы, Дамейка пісаў пераважна на іспанскай і французскай мовах. Выдадзены ў Чылі падручнік "Мінералогія" на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў выкарыстоўваўся ў многіх лацінаамерыканскіх краінах. Вынікі навуковых пошукаў і адкрыццяў Дамейкі апублікаваны на розных мовах у 130-і яго навуковых працах, якія прынеслі яму сусветную вядомасць і славу. Яны займалі ганаровае месца ў тагачаснай навуцы, сведчаннем з'яўляецца выбранне Дамейкі ганаровым членам шматлікіх навуковых таварыстваў. Так, у 1875 годзе польская Акадэмія навук выбірае яго сваім правадзейным членам. Яго навуковыя паведамленні абмяркоўваліся на пасяджэннях Парыжскай Акадэміі навук, публікаваліся ў навуковых часопісах Еўропы.

Цікавая такая дэталь, якая сведчыць аб высокім гуманізме Дамейкі. У 1884 годзе чылійцы ўзялі сталіцу Перу горад Ліму і абрабавалі мясцовы ўніверсітэт. Нарабаванае абсталяванне было адпраўлена Дамейку, які тады быў ужо рэктарам універсітэта ў Сант'яга. Абураны вучоны накіраваў ваеннаму камандаванню тэлеграму: "Універсітэт нарабаваных трафеяў не прымае. Прашу неадкладна забраць рэчы назад!" За тэлеграмай паследаваў востры артыкул у мясцовай газеце, дзе кляйміўся драпежніцкі акт. Пасля гэтага выпадку абураны Дамейка нават адмовіўся ад рэктарства і думаў назаўсёды пакінуць Чылі. Нягледзячы на



*Гмахі Чылійскага універсітэта ў Сант'яга, рэктарам якога дваццаць гадоў быў І. Дамейка*

адкрытае неадабрэнне, выказанае вучоным ураду, шматгадовая праца і велізарныя заслугі Дамейкі былі адзначаны яшчэ і самай вялікай у краіне пенсіяй — 6000 піястраў у год. Але няўрымслівая натура не дае яму спакою. У 1884 годзе 82-гадовы выгнаннік рашыў ажыццявіць сваю неадступную мару — убачыць родную зямлю. Памеркаваўшы, што царскія ўлады ўжо не ў сіле нічога зрабіць яму, сусветна вядомаму вучонаму, Дамейка рашыў наведаць радзіму, тым больш, што пасля смерці Мікалая І была абвешчана амністыя ўсім былым "палітычным злачынцам".

Раніцай 23 мая 1884 года на вакзале Сант'яга сабралася шмат людзей: гімназісты, студэнты, прафесары, дэпутаты, сенатары. Праводзілі былога рэктара сталічнага універсітэта, ужо пенсіянера дона Ігнацыя Дамейку, які нарэшце выбраўся, каб наведаць сваю Бацькаўшчыну. А калі прыехаў пажылы мужчына, усе рушылі да яго. Пачуліся воклічы: "Віва, Дамейка!" Яго правялі да вагона, у якім звычайна ездзяць высокапастаўленыя асобы. Аркестр іграў нацыянальны гімн, выступалі сябры і ўрадоўцы. Пачаліся ўрачыстыя провады рэктара сталічнага універсітэта, што ўпершыню пакідаў сваю новую радзіму, ехаў наведаць родны край. Асабліва ўзрушылі словы вучня Нацыянальнага інстытута, які віншаваў дона Ігнацыя з радаснай хвілінай у жыцці, зычыў шчаслівай дарогі ў родны край, прасіў, каб ён усё ж хутчэй вяртаўся на другую Радзіму, прыдбаную сэрцам. У гэты ж дзень, 23 мая 1884 года, наш зямляк запісаў у сваім дзённіку: "Бывай здарова, Чылі! Дзякуй табе за мае 46 гадоў у табе працавітага жыцця, за тваю гасціннасць, за наданае мне ад цябе грамадзянства, за сям'ю, за гонар, павагу, якую знайшоў у тваёго народа, за годнае забеспячэнне на астатак жыцця..." З сабой ён вёз багатую калекцыю мінералаў у падарунак еўрапейскім універсітэтам. У Парыжы Дамейку ўрачыста віталі вучоныя Сарбоны. У Кракаве яму прысудзілі навуковую ступень ганаровага доктара. На варшаўскім пероне яго сардэчна сустракае сябра студэнцкіх год польскі паэт Антон Адынец, адзіны, апрача Дамейкі, філамат, які яшчэ застаўся ў жывых. З Варшавы яны едуць у Беларусь. Царскім уладам, вядома, не прыйшлося даспадобы гэта падарожжа — яны на чатыры месяцы затрымалі ў Гродне пашпарт вучонага. Нарэшце — родныя мясціны. 9 жніўня Дамейка разам са сваімі сынамі прыехаў у Гарадзею, дзе яго сустрэлі сваякі. На другі дзень ён быў у Міры, наведаў магілу бацькі. Разам з Адынцом І. Дамейка тры месяцы вандруе па мясцінах свайго дзяцінства і юнацтва, дзе сталеў і набіраўся мужнасці: Мір, Сталовічы, Далматоўшчына, Навагрудак, Дзятлава, Ліда, Жыбуртоўшчына, Заполле. Вінцэсь Каратынскі ў адным са сваіх артыкулаў успамінаў, што на памяць аб наведванні радзімы, аб сустрэчы з паэтам А. Адынцом Дамейка пасадзіў у Крошыне дубок і папрасіў высечы на камені вершаваны подпіс. І хто ведае, як зазначае Адам Мальдзіс, ці не Паўлюк Багрым выконваў гэтую просьбу свайго вялікага суайчынніка. Мясцовая інтэлігенцыя з энтузіязмам сустракала свайго земляка, чалавека з легендарнай біяграфіяй. Беларускія сяляне падносілі яму хлеб-соль, віталі народнымі песнямі. З адной старэнькай бабулькай у вёсцы размаўляўся ён. Тая яму пакланілася і сказала: "Я пана маленькага помню". Гэтыя яе беларускія словы ён запісаў сабе ў дзённік. Пытаўся, што сталася з Лукашом, яго фурманам. Жанчына адказала, што памёр.

На радзіме Ігнат Дамейка прабыў чатыры гады. Але і тут не сядзеў на месцы. Пажыў у сям'і дачкі ў памятнай з дзяцінства Жыбуртоўшчыне. Пасля праз Адэсу едзе ў Турцыю, адтуль у Палесціну, Егіпет, доўга падарожнічае па Італіі і Францыі. За час яго знаходжання на радзіме Дамейкавы сыны набылі патрэбную еўрапейскую адукацыю: Казімір скончыў тую ж самую, што і бацька, Горную школу ў Парыжы і хацеў заняць бацькава месца на кафедры на універсітэце ў Сант'яга; Герман жа атрымаў дыплом аб сканчэнні ў Рыме духоўнай семінарыі і таксама жадаў служыць радзіме сваёй маці. Нейкі час у Дамейкі была нават думка застацца на радзіме. Але хіба тут далі б яму спакойна жыць і працаваць?

У 1997 годзе ў цэнтры вёскі Мядзвядка Карэліцкага раёна з'явіўся валун, на якім прымацавана таблічка з надпісам: "Мядзвядка — радзіма Дамейкі Ігната Іпалітавіча (31.07 1802 — 23.01.1889), геолага, натураліста, ганаровага члена польскай Акадэміі Навук і многіх іншых еўрапейскіх АН, нацыянальнага героя Чылі". У Мядзвядкаўскай сярэдняй школе імя І.Дамейкі створаны музей Ігната Дамейкі. Яго ж імем названа вуліца вёскі, якая вядзе да школы.

**Мікола БАНДАРЭНКА,**
**вядучы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, кандыдат гістарычных навук**

*Малюнкі Уладзіміра СІЎЧЫКАВА*

ПАМЯЦЬ

# Адкрыў новую зямлю

***6 жніўня 2002 года Леанід Міканоравіч Дробаў святкаваў бы сваё 76-годдзе, калі б цяжкая хвароба не абарвала заўчасна яго жыццё. Спадчына навуковых кніг і даследаванняў, якую пакінуў доктар мастацтвазнаўства, прафесар, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Л. Дробаў, вельмі значная. Шмат намаганняў прыклаў Леанід Міканоравіч і пры падрыхтоўцы шасцітомнай "Гісторыі беларускага мастацтва", якая на той час стала адзіным найбольш поўным зборам даследаванняў па гісторыі беларускага мастацтва. Многа цікавых успамінаў пакінуў Л. Дробаў у няскончаным рукапісе кнігі ўспамінаў "Шляхамі жыцця", урыўкі з якой мы прапануем сёння чытачу.***



"...Я зусім не збіраўся быць мастацтвазнаўцам. Але калі пазнаёміўся са станам спраў у гэтай галіне, перамяніў сваю думку.

Мне стала неяк не па сабе, што 10-мільённы беларускі народ не мае сваёй гісторыі мастацтва. І я з маладым запалам узяўся за працу. Аб'ездзіў некалькі краін. Вывучыў "тоны" архіўных дакументаў, праштудзіраваў літаратуру ў аддзелах рэдкіх кніг шматлікіх бібліятэк. Матэрыял сабраўся надзвычай вялікі, працаваў я ўвесь час добрасумленна. У 1987 годзе стаў сапраўдным прафесарам, атрымаўшы адпаведны дыплом ВАКа.

...Але "адпачываць на лаўрах" не было калі. Я рыхтаваўся выканаць запавет Пятра Глебкі — стваръца шасцітомную "Гісторыю беларускага мастацтва".

Чакала вялікая праца. І найперш — збіранне аўтарскага калектыву, бо па некаторых раздзелах нашай гісторыі ў аддзеле не было спецыялістаў.

Бюракраты ўсіх узроўняў, а таксама тыя, хто не верыў у такую справу, як стварэнне шматтомнай гісторыі беларускага мастацтва, бо гэта было ўпершыню за ўвесь час існавання Беларусі, яе дзяржавы, сумняваліся. Маўляў — яшчэ не маем адпаведных кадраў і "Гісторыя..." не па сілах нашым навукоўцам. Але мы перамаглі недавяркаў, і ўрэшце стварылі 6-томную навуковую працу, якая выйшла ў свет пад рэдакцыяй дырэктара інстытута С. Марцалева.

На першы погляд магло сапраўды падацца, што рашэнне аб стварэнні гісторыі беларускага мастацтва досыць простая справа. Але гэта не так! Браліся за працу многія — але, выпусціўшы "пар" і пабачыўшы, што задача амаль невырашальная, кідалі. Так, напрыклад, яшчэ ў 20-х гадах мастацтвазнаўцы Каспяровіч і Іпель (унтэр-афіцэр 10-й нямецкай арміі, якая акупіравала Беларусь у першую сусветную вайну) спрабавалі скласці каталог, якім суправаджалася выстава мастацкіх каштоўнасцяў Беларусі, сабраных акупантамі з усяго краю. Гэтым самым імкнуліся давесці, што "немцы — культурная нацыя і клапоцяцца аб захаванні мастацтва беларусаў". Быў выдадзены невялікі каталог з прадмовай Іпеля. І зараз невядома, куды зніклі экспанаты з гэтай выставы, як і сам Іпель, які збіраў гэтыя каштоўнасці.

Так ці інакш, але ў працах Іпеля былі некаторыя дадатковыя звесткі. Як даследчык, ён упершыню даводзіў, што існавала сапраўды "беларускае" мастацтва. І што яно памылкова было ўключана ў гісторыю іншых дзяржаў — Польшчы і Расіі. На працы Іпеля спасылаўся і вядомы беларускі даследчык Шчакаціхін — прафесар Пецярбургскага універсітэта, які прыехаў у Беларусь у 20-х гадах, калі быў арганізаваны Інстытут беларускай культуры.

Свае доследы (пераважна ў галіне беларускай архітэктуры) Шчакаціхін давёў да пачатку XVIII стагоддзя. Але потым гэты рускі вучоны ў пачатку 30-х гадоў быў абвінавачаны ў "беларускім нацыяналізме" і сасланы ў Казахстан, дзе неўзабаве і памёр. Працы Шчакаціхіна вельмі грунтоўныя, імі і зараз карыстаюцца нашы даследчыкі беларускай архітэктуры.

Пасля Шчакаціхіна пытаннямі гісторыі беларускага мастацтва займаліся прафесар Б. Ус, маскоўскі мастацтвазнавец М. Арлова, прафесар М. Кацар, які працягваў справу Шчакаціхіна і выдаў кнігу "Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва".

Але ўсе гэтыя даследчыкі толькі канстатавалі факт, што існавала беларускае мастацтва. І толькі ў пасляваенны перыяд мастацтвазнаўцы Герасімовіч і іншыя ў сваіх працах (у асноўным прадмовах да альбомаў) ставілі ў якасці "пачынальнікаў" беларускага мастацтва мастакоў Ю. Пэна, Я. Кругера і Л. Альпяровіча, якія працавалі ў Мінску і іншых беларускіх гарадах.

І вось, калі я ўзяўся за справу, каб адшукаць "вытокі" і абвергнуць існаваўшую версію пра іншаземных "пачынальнікаў" мастацтва Беларусі — пытанне на першы погляд здавалася невырашальным. Ды і я сам крыху сумняваўся, ці ўдасца давесці справу да канца. Як кажуць, дарогу адолее той, хто ідзе. І намаганні пасля доўгай і карпатлівай працы завяршыліся поспехам.

Наша амаль 20-гадовая праца была вылучана на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь і на пачатку 1997 года мы — гэта значыць аўтарскі калектыў — атрымалі дыпломы лаўрэатаў Дзяржаўнай прэміі. На прэмію былі вылучаны пяць чалавек — Л. Дробаў, Я. Сахута, П. Масленікаў, П. Карнач і В. Жук. На жаль, не ўсе ўдзельнікі "слаўнай эпапеі" дажылі да гэтага светлага дня. Памерлі П. Масленікаў і П. Карнач, прэміі ім былі прысуджаны пасмяротна..."

**У шчырых сяброўскіх размовах Леанід Міканоравіч прызнаваўся, што марыў у дзяцінстве стаць капітанам далёкага плавання, першаадкрывальнікам новых земляў. І ён сапраўды адкрыў і абараніў для нашчадкаў "новую" зямлю ў гісторыі мастацтва — Беларусь.**

**Яна ТРУБАЧ**

# Ноткі развітання

Верачка Лагвіненка... была. З гэтым горкім фактам не паспрачаешся. І мусіш казаць пра яе ўжо толькі ў мінулым часе: была. Ды ўсё ж эмацыянальная памяць — рэч не менш упартая, чым жорсткі факт, — спрачаецца: Вера Лагвіненка была і ёсць! У памяці родных ёй людзей і добрых знаёмых яна — жывая. Абаяльная, таварыская, дасціпная, спагадлівая. Нават "пры пасадзе" дацэнта Беларускай акадэміі музыкі — няўрымслівая, дапытлівая, непаседлівая ды кампанейская, нібы дзяўчынка-студэнтка. І пры гэтым — вельмі сціплая, каб не сказаць сарамлівая.

За раялем яна пераўвасаблялася,ператваралася ў Яе Вялікасць Музыканта. Рэдка, але выступала на сталічнай сцэне. Канцэртныя вечары з удзелам Веры Лагвіненка мінскія меламаны і музыканты-прафесіяналы ўспрымалі заўсёды як падзею. Як раскрывалася яе тонкая, глыбокая, артыстычная, па-сапраўднаму творчая натура праз творы кампазітараў-рамантыкаў: і Шуберта, і асабліва — Шапэна!..

Лёс наканаваў ёй пакутлівае выпрабаванне страшнай хваробай. Мужнасць, велізарная сіла волі дапамаглі, насуперак медыцынскім прагнозам, адваяваць некалькі гадоў жыцця. І гэтыя гады, зноў жа, на здзіўленне дактароў, поўніліся заняткамі са студэнтамі, філарманічнымі выступленнямі, натхнёным музіцыраваннем за мяжой. Магутнай падтрымкай сталіся для яе вучні. А сям'я, яе дружная творчая сям'я, усё самаахвярна прайшла поруч з ёй, аддаючы ўласную энергію і здароўе — каб толькі падоўжыць яе жыццё.

Вера Лагвіненка жыве не толькі ў добрай памяці людзей. У фондах Беларускага радыё засталіся яе запісы: нешматлікія, але па-сапраўднаму таленавітыя і пранікнёныя ўзоры фартэпіяннага мастацтва. Яна жыве ў музыцы...

**Сябры**




# Лявон Раманоўскі

24 ліпеня 2002 года на 60-м годзе жыцця раптоўна памёр мастак Лявон Раманоўскі. Ён нарадзіўся 1 траўня 1943 г. у вёсцы Харошкі Магілёўскай вобласці. На вайне загінуў бацька. У Лявона было цяжкае пасляваеннае жыццё. У 1975 г. скончыў аддзяленне жывапісу Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Вучыўся ў А. Баркоўскага і І. Стасевіча. Працаваў у газеце "Звязда", а з 1978 г. у Мінскім мастацкім вучылішчы. Шмат гадоў аддаў выхаванню маладых мастакоў. Быў выдатным жывапісцам і педагогам. Шмат падарожнічаў па Беларусі, у выніку чаго з'явіліся новыя творы, сагрэтыя цеплынёй яго душы і ўмельствам рук. У 1994 г. уступіў у творчую суполку "Пагоня" і Беларускі саюз мастакоў. Яскрава вызначыў сваю грамадзянскую пазіцыю — быў змагаром за адраджэнне Беларусі, за яе дэмакратычны шлях развіцця. Стаў носьбітам і актыўным папулярызатарам беларушчыны. Любоў да Айчыны была для Л. Раманоўскага моцным рухавіком ва ўсіх яго справах.

Смерць Л. Раманоўскага — вялікая страта для калектыву Мінскага мастацкага вучылішча і Беларускага саюза мастакоў. Светлая памяць пра мастака і педагога будзе захавана навечна ў душах яго сваякоў, сяброў, былых вучняў.

**Беларускі саюз мастакоў**
**Творчая суполка "Пагоня"**

ФЕСТЫВАЛІ

# Беларускае любяць — і ганаруюць!

***Першы Міжнародны фестываль музычнага фальклору "Этнасфера-2002" прайшоў у мястэчку Скернявіцы (Польшча). Часткай імпрэзы стаўся конкурс выканаўцаў, у журы якога, поруч з прадстаўнікамі Румыніі, Чэхіі ды Польшчы, працавала беларуская музыказнаўца Таццяна ПЕСНЯКЕВІЧ. Да яе — пытанні нашага карэспандэнта.***



**— Для пачатку — цытата: "Міжнародны музычны фестываль (...) у Скернявіцах, які меў мэту ўзбагаціць, навучыць і паяднаць сучасных людзей на падставе дасягненняў традыцыйнай музычнай культуры розных краін, сваё прызначэнне выканаў. Яго арганізатары цяпер пачалі працу над будучым "Фолькапране". Маем надзею, што яны, ведаючы ўжо нашы багатыя музычныя традыцыі і вялікі творчы патэнцыял, запросяць да ўдзелу ў сваіх імпрэзах і музыкаў з Беларусі". Гэтак пісалі вы, Таццяна, у "ЛіМе" год таму, 17 жніўня, распавядаючы пра фестываль, на якім вылучыўся брэсцкі квартэт "Кола". Сёлета зноў — Скернявіцы, але...**

— Але назва фестывалю гучыць інакш. Чаму? У "Фолькапране", што праводзілася чатыры гады запар, з'явіўся пераемнік: "Этнасфера-2002". Апроч маладзёжнага Цэнтра культуры Скернявіц ды гарадскіх уладаў, як гэта было летась, у ліку арганізатараў — Міністэрства культуры Польшчы. Нават падкрэслівалася, што фестываль ладкаваўся пад патранатам міністра культуры.

Горад з 50-тысячным насельніцтвам Скернявіцы месціцца пасярод шляху з Варшавы на Лодзь. І таму свята было, можна сказаць, у сэрцы Польшчы. Дарэчы, тут адбываецца і сусветна вядомы Міжнародны фестываль кветак, гародніны ды садавіны. Што да "Этнасферы-2002", дык гэты фэст доўжыўся два дні. Было цудоўнае ліпеньскае надвор'е (у адрозненне ад леташняй беспрасветнай залевы, якая не лепшым чынам адбівалася на святочным настроі). Адбылося свята не толькі для месцічаў, але і для шматлікіх гасцей, прыезду якіх паспрыялі добрыя транспартныя камунікацыі.

**— Колькі людзей сабраў фестываль: ці ёсць статыстыка?**

— Лічбаў не ведаю. Народу было вельмі шмат, але ўсім хапіла месца, і эмоцыі былі толькі станоўчыя. Маляўнічы куток, пагодлівыя дні; працавалі каруселі, атракцыёны; разгарнуўся гандаль кампактдыскамі; прадавалі марожанае, піва; весяліліся і дзеці, і людзі дарослыя. Многія папрыходзілі з сабакамі, у якіх таксама быў радасны настрой. Публіка шпацыравала, танчыла або ўладкоўвалася на траве. Пры гэтым — усё надзвычай культурна, атмасфера ветлівасці, чысціні, парадку. І — ніякіх п'яных ці нападпітку.

**— А што было на самой сцэне?**

— Сцэна, дарэчы, зробленая дыхтоўна: ёсць навес; вельмі добрая светлавая аснашчанасць; гукавая апаратура — супер; па баках — два экраны, на якія трансліравалася "карцінка" выступленняў. Адбываліся конкурсныя праслухоўванні прадстаўнікоў Польшчы, Беларусі, Чэхіі, а таксама канцэрты "зорак": польскіх калектываў, гасцей з Брэтані, Славакіі, Беларусі. Нашу краіну ў якасці "зоркі"-госця прадстаўляў гурт "Палац" з абноўленай праграмай, якую публіка ўпадабала, горача прыняла. Прызнацца, я ў тыя хвіліны адчувала гонар за сваю краіну — акурат як летась, калі выбітным госцем фестывалю была новая група Юрыя Выдронка — "Юр'я". І, канечне, з асаблівым пачуццём успрымаўся мною заключны канцэрт, у якім удзельнічалі лаўрэаты "Этнасферы-2002": у ліку іх апынуліся ўсе прадстаўнікі Беларусі.

1-е месца падзялілі два ансамблі. "Osimira" з Магілёва ды чэшскія музыкі — "Томаш Лечка і яго аркестр". Спадар Томаш не толькі музыкант, але і паэт, вакаліст. Спявае старадаўнія гістарычныя песні, на аснове якіх робіць і ўласныя кампазіцыі. Інструментальная група — кшталту традыцыйнай капэлы: чэшскія цымбалы, перкусія, скрыпка, духавыя. Фолкмадэрновая "Osimira" (былая "Акруга вольнага мастацтва") — знаходка Юрыя Выдронка, які садзейнічаў прыезду магілёўскіх музыкаў на гэты конкурс.

**— Ён жа летась паспрыяў прыезду на "Фолькапране" брэсцкага "Кола"...**

— Так, гэты вядомы музыкант сапраўды шчодры ў творчасці, не замыкаецца на ўласнай асобе, стварае і шукае новае, дае штуршок своеадметным праектам. Той самы "Палац", можна сказаць, — "дзіця" Юрыя Выдронка, даўно ўжо самастойнае, са сваёй нішай у сучаснай этнамузыцы. "Крыві" — таксама яго колішні праект. Цяпер — "Юр'я". І кожны з гуртоў працуе ў сваім стылі, развівае абсалютна новыя адгалінаванні ў этнамузыцы.

Дарэчы, з "Крыві" выйшаў і такі, сёння ўжо сталы, самастойны музыкант, як Зміцер Вайцюшкевіч. Крыху меней за паўгода таму ён распрацаваў новы праект з цудоўнымі маладымі музыкантамі, з якімі разам рабіў ужо вядомую "Цацачную краму". Новы акустычны праект Зміцера Вайюшкевіча пад назвай "WZ-аркестр" ("Усход—Захад") быў прадстаўлены на конкурсе ў Скернявіцах. Прагучалі найрэдкасныя старадаўнія беларускія песні, балады. "WZ-аркестр" заняў 2-е месца.

На 3-м месцы апынуліся тры ўдзельнікі. Польскія ансамблі "Рыбка і яе сябры" ды "Віват фламенка" (сваё выступленне ён пабудаваў як вечарыну ў таверне з выкананнем іспанскіх мелодый з характэрнымі танцамі дзяўчат). І яшчэ лаўрэат — беларускі дуэт з Барысава "Аляксандра і Канстанцін". Аляксандра з нядаўняга часу ўжо салістка Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі, набыла шырокую вядомасць дзякуючы паспяховаму выступленню на "Славянскім базары", дзе таксама атрымала званне лаўрэата.

**— Якія агульныя ўражанні ад фестывалю "Этнасфера-2002"?**

— Вельмі высокі ўзровень удзельнікаў. У конкурсных праграмах не было ніякай, у горшым сэнсе гэтага слова, самадзейнасці. Арганізатары зрабілі строгі папярэдні адбор, прагледзеўшы, праслухаўшы дэманстрацыйныя матэрыялы музыкантаў. Уразіў грунтоўны падыход арганізатараў у вызначэнні мэты фестывалю. Яму надаюцца не проста музычна-забаўляльныя, а і культурна-адукацыйныя, пазнаваўчыя функцыі. Напрыклад, сёлета тут прысутнічала польская моладзь, якая вывучае старажытную культуру індзейцаў. Гэтыя музыканты і спяваюць адпаведныя песні, і апранаюцца ў традыцыйныя строі амерыканскіх індзейцаў. Быў нават пастаўлены вігвам, блізу якога разгортваліся каларытныя імпрэзы, індзейскія гульні.

Вельмі ўразіла цікавасць моладзі да ўсяго, што робіцца на фестывалі, веданне маладымі палякамі сваіх айчынных выканаўцаў, а галоўнае — веданне песень, якія падхопліваліся публікай літаральна з першых нот. Моладзь ведае, і любіць, і спявае свой фальклор — гэта надзвычай важная і пазітыўная з'ява. Па-хатняму ўтульная атмасфера фэсту зблізае, яднае людзей розных узростаў — праз песню.

Наконт стаўлення да фальклору наогул... У Польшчы багата фестываляў у самых розных мястэчках, бо існуе безліч калектываў, якія граюць фальклор ва ўсіх яго традыцыйных і найсучасных праявах. Мяне прыемна здзівіла цікавасць палякаў і да беларускага фальклору — у яго сучасным абліччы, толькі не ў т.зв. сувенірным, а ў мадэрновым. Гэта значыць — калі ёсць пошук, ёсць шмат свайго сённяшняга, якасна новае аб'яднанне старажытных традыцыйных нацыянальных пластоў з агульнымі сусветнымі музычнымі традыцыямі. Усё гэта было прадстаўлена ў творчасці беларускіх ансамбляў на фестывалі ў Скернявіцах, зрабіла яскравае ўражанне і на публіку, і на спецыялістаў у журы, атрымала адпаведную адзнаку. У грашовым вымярэнні ўзнагароды, можна сказаць, сімвалічныя, але тут гэта не мае значэння, бо ёсць больш глыбінны і моцны маральны, духоўны стымул.

Пад назвай "Этнасфера" музычнае свята ў Скернявіцах мяркуецца ладкаваць штогод. Спадзяюся, беларускія фальклорныя гурты зробяцца тут заўсёднымі гасцямі. Магчыма, незалежныя выдаўцы, прадстаўнікі фірмаў паспрыяюць распаўсюджванню нашай этнамузыкі на кампактах... Аднак, прызнаюся, маючы такое сузор'е музыкантаў у гэтай галіне, крыўдна ўсведамляць, што на Беларусі няма ніводнага падобнага свята. Прывабнага для розных пакаленняў, найперш — для моладзі, адкрытага для ўсіх напрамкаў творчасці, звязанай з песенна-інструментальным фальклорам, а не толькі для аўтэнтычных або "сувенірных".

**— Што казаць, калі нават цудоўнае і папулярнае ў людзей розных узростаў міжнароднае свята народна-інструментальнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік" перажывае не лепшы перыяд. Было штолетняе, цяпер вырашана збіраць яго кожныя два гады... Мне здаецца, якраз гэты фэст у Паставах мог бы з часам улучыць у сваю палітру і найноўшыя напрамкі працы з музычным фальклорам. Але гэта не выключае нараджэнне ў іншых беларускіх мястэчках сваіх, рэгіянальных, фэстаў — купальскіх, траецкіх і да т.п. Прывабных для замежных гасцей і адкрытых для творчых пошукаў у традыцыйным мастацтве.**

**С. БЕРАСЦЕНЬ**



*На здымку: "Палац" і яго лідэр Алег ХАМЕНКА.*

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА і з архіва "ЛіМа"*





ЗАСНАВАЛЬНІК

Саюз беларускіх пісьменнікаў

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА
**У 1982 годзе ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**



**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**
**намеснік галоўнага рэдактара — 284-8525**
**адказны сакратар — 284-8204**

**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-8462**
**літаратурнага жыцця — 284-8462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-8462**
**паэзіі і прозы — 284-8525**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва — 284-8462**
**карэктарская — 284-4404**
**бухгалтэрыя — 284-8462**
**Тэл./факс — 284-7965**





Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
(г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 1568
Нумар падпісаны ў друк 8.08.2002 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12